**ББК 92.5**
**К 17**

Складальнікі: М. М. Бяляцкая, А. В. Радзевіч, А. А. Соладчук

Рэдактары: Л. І. Рагачова, К. Д. Яскевіч

Адказны за выпуск Т. М. Адамян

Каляндар знамянальных і памятных дат на 2015 год / ДУ «Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна», Аддзел краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі ; склад. М. М. Бяляцкая, А. В. Радзевіч, А. А. Соладчук. — Віцебск, 2014. — 167 с. : іл.



# КАЛЯНДАР ЗНАМЯНАЛЬНЫХ І ПАМЯТНЫХ ДАТ НА 2015 ГОД

2014

Складальнікі: **Бяляцкая** Марыя Міхайлаўна,
**Радзевіч** Анжаліка Віктараўна, **Соладчук** Анастасія Алегаўна

Рэдактары: Л. І. Рагачова, К. Д. Яскевіч

Дызайн і камп'ютарная вёрстка А. В. Юпатавай

Вокладка К. В. Стральцовай

Адказны за выпуск Т. М. Адамян

Тыраж 5 экз.

Надрукавана на ксераксе ДУ «Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна»

210601, Віцебск, Леніна, 8-а

E-mail: vlib@vlib.by

Раманы Л. Ракоўскага пераведзены на нямецкую, польскую, балгарскую, кітайскую, літоўскую, якуцкую, башкірскую мовы.

Усё жыццё пісьменніка была запоўнена працай. Ён пісаў кнігі, артыкулы, чытаў лекцыі, працаваў з маладымі пісьменнікамі, перакладаў на рускую мову творы ўкраінскіх і беларускіх празаікаў і драматургаў.

Памёр пісьменнік 15 жніўня 1979 года.

У 2012 годзе ў Глыбокім у гонар памяці пісьменніка была адкрыта мемарыяльная дошка.

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Гісторык** і пісьменнік у адной асобе // Веснік Глыбоччыны. — 2012. — 28 ліп. — С. 2.
2. **Ізаітка, І.** Лявонцій Іосіфавіч Ракоўскі – наш зямляк / І. Ізаітка // Веснік Глыбоччыны. — 2006. — 18 сак. — С. 6.
3. **Лявонцій** Іосіфавіч Ракоўскі // Памяць : гісторыка-дакументальная хроніка Глыбоцкага раёна / рэд.: Б. І. Сачанка [і інш.] ; маст. А. М. Хількевіч. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 1995. — С. 166—167.
4. **Подлипский, А.** Автограф на титульном листе / А. Подлипский // Народнае слова. — 2008. — 14 кастр. — С. 6.
5. **Ракоўскі** Лявонцій Іосіфавіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. — Мн. : БелЭН імя П. Броўкі, 2001. — Т. 6 : Пузелі—Усая. — С. 89.
6. **Сутула, Г.** Слаўнаму сыну глыбоцкай зямлі / Г. Сутула // Веснік Глыбоччыны. — 2012. — 8 верас. — С. 2.




## ПРАДМОВА

У «Каляндар» уключаны знамянальныя і памятныя даты, якія адлюстроўваюць важныя падзеі гісторыі, палітычнага, гаспадарчага, культурнага жыцця Віцебскай вобласці, а таксама юбілейныя даты выдатных землякоў і людзей, якія па месцы нараджэння не з'яўляюцца ўраджэнцамі вобласці, але пакінулі значны след у гісторыі і культуры нашага рэгіёна.

Дапаможнік адкрываецца храналагічным пералікам знамянальных і памятных дат, якія прадстаўлены па новым стылі.

«Каляндар» састаўлены на аснове даных з энцыклапедый, даведачных, перыядычных выданняў, якія знаходзяцца ў фондзе Віцебскай абласной бібліятэкі.

Наш «Каляндар» дапаможа краязнаўцам, бібліятэчным работнікам, выкладчыкам і іншым спецыялістам у вывучэнні і распаўсюджванні краязнаўчых ведаў.

**У 2015 ГОДЗЕ СПАЎНЯЕЦЦА:**

**950 гадоў** таму (1065) упершыню ўзгадваецца Браслаў як горад у Полацкім княстве ў летапісе Быхаўца і хронікі Стрыйкоўскага.

**885 гадоў** таму (1130) пабудавана Віцебская Дабравешчанская царква (1120–1130-я), помнік старажытнарускай архітэктуры ў г. Віцебску, у традыцыях Полацкай школы дойлідства на левым беразе р. Зах. Дзвіна, на тэрыторыі Ніжняга замка.

**875 гадоў** таму (1140) нарадзіўся Давыд Расціславіч (1140–1197) князь наўгародскі, таржоцкі, віцебскі, вышгарадскі, смаленскі. У Віцебску княжыў у 1165–1667 гг.

**820 гадоў** таму (1195) адбылася Віцебская бітва, бітва аб'яднаных войск полацкіх князёў і чарнігаўскага князя Алега Святаславіча са смаленскім войскам на чале з Мсціслаўскім князем Мсціславам Раманавічам у ходзе вайны за валоданне Віцебскам.

**740 гадоў** таму (1275) нарадзіўся Гедымін (каля 1275–1341 Гедзімін), вялікі князь ВКЛ. У час яго княжання асабліва важнае значэнне ў дзяржаве зноў набыла Полацкая зямля.

**690 гадоў** таму (1325) нарадзіўся Андрэй Полацкі (1325–1399, Андрэй Альгердавіч), князь полацкі, пскоўскі і трубчэўскі.

**645 гадоў** таму (1370) нарадзіўся Свідрыгайла (у праваслаўі Леў, у каталіцтве Баляслаў каля 1370–1452), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Атрымаў ад Ягайлы ва ўдзел Віцебскае княства і да 1393 г. княжыў у Віцебску.

**635 гадоў** таму (1380) віцебскія землі ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.



сапраўдных фактах, і тут Ракоўскаму, несумненна прыгадзіўся вопыт гістарычнага раманіста.

Другой кнігай трылогіі стаў раман «Адмірал Ушакоў» пра адмірала Ф. Ф. Ушакова, празванага «марскім Суворавым» за тое, што ён, як Сувораў на сушы, не прайграў ніводнай бітвы на моры. Якія якасці павінен мець чалавек, каб стаць гістарычнай асобай? Імкнучыся адказаць на гэтае пытанне, Ракоўскі паказвае ўвесь жыццёвы шлях выдатнага флатаводца. І пісьменнік як заўсёды бездакорны ў выкарыстанні гістарычных фактаў. У 1952 годзе раман пабачыў свет.

Заканчвае трылогію раман пра Кутузава і 1812 год. Тут Ракоўскі не імкнецца спаборнічаць з самім Львом Талстым. Ён ставіў іншую задачу – раскрыць усе падрабязнасці біяграфіі палкаводца, паказаць яго асобу ў развіцці. Над напісаннем рамана «Кутузаў» Ракоўскі працаваў 8 год.

Тэме грамадзянскай вайны Ракоўскі прысвяціў дзве кнігі – «Фронтовая азбука» і «Михаил Тухачевский» (1964) – аповесць пра савецкага палкаводца М. М. Тухачэўскага.

Адной з апошніх работ пісьменніка з'яўляецца кніга «Жизни наперекор. Повесть о Марлинском» (1978 г.). Марлинский – літаратурны псеўданім Аляксандра Бястужава, двараніна, афіцэра, пісьменніка, дзекабрыста.

У 1925 г. у газеце «Ленинградская правда» Ракоўскі апублікаваў нарысы пра Беларусь («Два гады», «Пісьмы з Барысава», «На Бабруйшчыне», «У Слуцку – усё па-людску» і інш.). Ён пераклаў на рускую мову п'есы «Паўлінка» Я. Купалы і «Вайна вайне» Я. Коласа, раман «Мінскі напрамак» І. Мележа, аповесць «Андрэйка» П. Кісялёва, апавяданні М. Лынькова, зборнік апавяданняў беларускіх дзяцей, якія перажылі жах фашызму «Ніколі не забудзем!».

Агульнапрызнанымі вартасцямі кніг Л. Ракоўскага з'яўляецца глыбокае, усебаковае вывучэнне дакументальнага гістарычнага матэрыялу з жывасцю і яркасцю апавядання. У сваіх работах Л. Ракоўскі імкнуўся ўвесці свежы, малавядомы матэрыя165

сімпатыяй адлюстраваў жыццё і ўзаемаадносіны яўрэйскага насельніцтва Глыбокага, а таксама вобразы людзей, якія яму былі больш блізкія па духу.

Затым з’явіліся і іншыя кнігі – зборнік апавяданняў і аповесцей «Сіваплясь» (1928), аповесці «Блудны д’ябал» (1928), раман «Чацвёртая жонка». Менавіта ён напісаў словы да песні «Фізкультурная».

Ужо ў сярэдзіне 1930-х гадоў Л. Ракоўскі абраў у літаратуры гістарычны жанр, пачаў збіраць матэрыялы пра славутых палкаводцаў М. І. Кутузава, А. В. Суворава, вывучаць ваенна-гістарычную літаратуру. Звыш 30 год ён плённа працаваў над патрыятычнай тэмай аб слаўнай рускай і савецкай гісторыі і застаўся верным гэтай тэме назаўсёды.

Першы гістарычны раман «Изумлённый Капитан», прысвечаны эпосе Ганны Іаанаўны, пра трагічны лёс капітан-лейтэнанта марскога флота Аляксандра Вазніцына выйшаў у 1936 годзе.

У 1941 годзе з’явілася 1-я частка рамана Л. Ракоўскага «Генералісімус Сувораў», якая стала першай кнігай з трылогіі пра вялікіх рускіх палкаводцаў. Кніга была закончана аўтарам незадоўга да пачатку вайны. Ракоўскі ўжо пачаў працаваць над другой часткай, але вайна пашкодзіла аўтару тады ж прадоўжыць раман пра народнага героя. Абедзве часткі рамана ў закончаным выглядзе змаглі з’явіцца толькі ў 1946 годзе, калі аўтар з ваеннага карэспандэнта зноў стаў пісьменнікам-гісторыкам.

У гады Вялікай Айчыннай вайны, як і многія пісьменнікі таго часу, ён становіцца ваенным карэспандэнтам, пастаянным аўтарам франтавой газеты «На страже Родины» і газеты народнага апалчэння «На защиту Ленинграда».

У 1943 годзе ён прачытаў артыкул пра героя-партызана Канстанціна Заслонава. Гэтая тэма ўзрушыла пісьменніка. Хутка пасля таго, як быў вызвалены ад ворага раён баявых дзеянняў атрада Заслонава, ён выехаў на месца падзей, разыскаў яго сям’ю, яго баявых таварышаў. Напісаная па гарачых слядах аповесць «Кастанцін Заслонаў» заснавана на



**635 гадоў** таму (1380) нарадзіўся Корсак Васіль Дзмітрыевіч (каля 1380–1452), намеснік полацкі пры князі Свідрыгайле, затым у яго радзе, калі той быў валынскім князем.

**630 гадоў** таму (1385) узгадваецца в. Абольцы на рацэ Абалянка ў Талачынскім раёне як уладанні вялікага князя ВКЛ Ягайлы, які заснаваў у Абольцах касцёл.

**585 гадоў** таму (1430) нарадзіўся Хадкевіч Іван (Івашка) (каля 1430–1484) з магнацкага роду ў ВКЛ Хадкевічаў, намеснік віцебскі.

**565 гадоў** таму (1450) нарадзіўся Сапега Іван Сямёнавіч (1450–1517 другі сын Сямёна), заснавальнік кодзенскай лініі найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, намеснік віцебскі, ваявода віцебскі. У 1504 г. заснаваў мястэчка Іказнь і ў ім замак.

**565 гадоў** таму (1450) нарадзіўся Сапега Багдан Сямёнавіч (да 1450–пасля 1512 старэйшы сын Сямёна), заснавальнік чарэйска-ружанскай лініі найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ.

**555 гадоў** таму (1460) нарадзіўся Астрожскі Канстанцін Іванавіч (1460(?)–1530), военачальнік, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. У Аршанскай бітве 1514 г. кіраваў войскамі ВКЛ, якія перамаглі маскоўскія войскі.

**555 гадоў** таму (1460) у «Літоўскай метрыцы» ўпершыню ўпамінаецца паселішча Бачэйкава (зараз – вёска ў Бешанковіцкім раёне).

**535 гадоў** таму (1480) нарадзіўся Радзівіл Юрый (мянушкі Віктор, Пераможца, Літоўскі Геркулес каля 1480–1541), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. У Аршанскай бітве 1514 г. камандаваў лёгкай конніцай на левым флангу.

**535 гадоў** таму (1480) нарадзіўся Сапега Іван Багданавіч (каля 1480–1546 сын Багдана Сямёнавіча), пісар панскі з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, маршалак гаспадарскі, ваявода віцебскі і падляшскі.

**525 гадоў** таму (1490) нарадзіўся Скарына Францыск (каля 1490 – каля 1551), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, мысліцель-асветнік, гуманіст, навуковец, пісьменнік, грамадскі дзеяч, ураджэнец г. Полацка.

**525 гадоў** таму (1490) нарадзіўся Сапега Павел Іванавіч (каля 1490–1579, сын Івана Сямёнавіча), маршалак гаспадарскі з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, дзяржаўца браслаўскі, ваявода падляшскі і навагрbelong.

**520 гадоў** таму (1495) упершыню ўзгадваецца в. Сарочына Ушацкага раёна як маёнтак у ВКЛ, уладанне княгіні Івановай-Тучынай.

**515 гадоў** таму (1500) упершыню ўзгадваецца в. Опса на ўсходнім беразе воз. Опса ў Браслаўскім раёне як уладанні смаленскага князя Глазыні ў складзе ВКЛ. Зараз вёска пераўтворана ў аграгарадок Опса.

**495 гадоў** таму (1520) пабудаваны касцёл бернардзінцаў у в. Астроўна Бешанковіцкага раёна, які пазней быў рэканструяваны ў праваслаўную царкву.

**495 гадоў** таму (1520) нарадзіўся Валовіч Астафій Багданавіч (каля 1520–1587), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Падчас Лівонскай вайны 1558–1583 гг. камандаваў харугвай пры аблозе і ўзяцці Полацка ў 1579 г., у 1580 г. са сваім атрадам узяў Усвяты.

**495 гадоў** таму (1520) нарадзіўся Корсак Баркулаб (каля 1520–1576), староста свіслацкі і дзісненскі са старажытнага беларускага роду, уладальнік маёнткаў у Аршанскім павеце, дзе заснаваў мястэчка Баркулабава (зараз в. Баркалабава Быхаўскага раёна).





## РАКОЎСКІ ЛЯВОНЦІЙ ІОСІФАВІЧ

Да 120-годдзя з дня нараджэння (1895)

Рускі пісьменнік. Нарадзіўся 28 снежня 1985 года ў Глыбокім у сям'і служачага. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Вільні паступіў у 1915 годзе ў Кіеўскі ўніверсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт. Вучобу перарвала грамадзянская вайна. Будучы пісьменнік пайшоў служыць у Чырвоную Армію, потым некаторы час працаваў у валасным выканаўчым камітэце.

У 1922 годзе ён прыехаў у Петраград і скончыў прававое аддзяленне факультэта грамадскіх навук Петраградскага ўніверсітэта. Яшчэ студэнтам пачаў працаваць у газеце «Ленінградская праўда». Яго артыкулы, заметкі, рэпартажы часта з'яўляліся на старонках газеты пад рознымі псеўданімамі.

Пісаць апавяданні і вершы пачаў у дзяцінстве. Друкавацца пачаў у 1924 годзе. Першае апавяданне «Месть» было надрукавана ў часопісе «Ленінград».

У кніжку «Зялёная Амерыка» (1927) увайшлі: аповесць «Гадзіннік», (1925–1926); апавяданні «Помста» (1924), «Пастаяльцы» (1926), «Вяселле» (1925), «Конь», (1923–1925), «Купля» (1925), «Простая думка» (1926) і «Зялёная Амерыка». Не ўсе творы па сваіх мастацкіх якасцях раўнацэнныя. Але ўжо ў іх Л. Ракоўскі паўстае як добры знаўца жыцця беларускага мястэчка. Яму былі блізкімі і зразумелымі простыя клопаты землякоў, іх беды і радасці. Пісьменнік вельмі трапна, з вялікай

заказчыкамі. Зараз побач з вытворчасцю прадукцыі традыцыйнага асартыменту завод выконвае работы па заказах прадпрыемстваў, аказвае розныя паслугі прамысловага характару: механічную апрацоўку, чыгуннае і стальное ліццё, афарбоўку.

15 лістапада 2007 года была зменена назва прадпрыемства на ААТ «Завод "Легмаш"». А з 12 жніўня 2012 года ААТ «Завод "Легмаш"» увайшло ў склад холдынга «Беларуская металургічная кампанія».

Завод пастаўляе прадукцыю ў Расію, Украіну, Казахстан, Латвію, Літву, Малдову.

Прадпрыемства мае Палац культуры машынабудаўнікоў, аздараўленчы лагер «Дружба», 2 інтэрнаты, сталовую.

Дакладную інфармацыю аб прадпрыемстве можна атрымаць на сайце www.legmash.by.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Лебедева, О.** «Легмаш» — значительный шаг вперед / О. Лебедева // Витебские вести. — 2014. — 31 июля. — С. 10.

2. **Маршалович, Л.** Новым курсом / Л. Маршалович // Аршанская газета. — 2010. — 4 снеж. — С. 2.

3. **Маршалович, Л.** Под флагом БМЗ / Л. Маршалович // Аршанская газета. — 2009. — 18 ліп. — С. 2.

4. **Фондаренко, Н.** «ЛЕГМАШ»: шаги в будущее / Н. Фондаренко // Віцебскі рабочы. — 2013. — 11 крас. — С. 4.

5. **Шатон, В. Н.** Оршанский завод швейных машин / В. Н. Шатон // Республика Беларусь : в 6 т. / редкол.: Г. П. Пашков [и др.]. — Мн. : БелЭн, 2007. — Т. 5 : Минск—Педиатрия. — С. 613.



**490 гадоў** таму (1525) нарадзіўся Сапега Мікалай Паўлавіч (каля 1525–1599, сын Паўла Іванавіча), маршалак гаспадарскі з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, ваявода мінскі, брэсцкі і віцебскі. Удзельнічаў у пераможнай Ульскай бітве 1564 г.

**485 гадоў** таму (1530) нарадзіўся Цяпінскі Васіль Мікалаевіч (сапр. Амельяновіч-Цяпінскі 1530-я–1599 або 1600), беларускі пісьменнік, гуманіст-асветнік, кнігавыдавец, ураджэнец Полаччыны (зараз в. Цяпіна пад Чашнікамі).

**485 гадоў** таму (1530) нарадзіўся Кміта-Чарнабыльскі Філон Сямёнавіч (каля 1530–1587), ваенны і грамадскі дзеяч ВКЛ, аршанскі староста, аўтар эпісталярных твораў, якія з'яўляюцца помнікамі старажытнабеларускай літаратуры.

**475 гадоў** таму (1540) нарадзіўся Корсак Іосіф (каля 1540–1618), уладальнік Залесся і Лятоўшчыны, полацкі войскі і суддзя земскі са старажытнага беларускага роду, кашталян менскі, кашталян полацкі.

**470 гадоў** таму (1545) упершыню ўзгадваецца в. Сітцы Докшыцкага раёна ў складзе ВКЛ.

**465 гадоў** таму (1550) упершыню ўзгадваецца в. Камаі ў Пастаўскім раёне як мястэчка.

**455 гадоў** таму (1560) нарадзіўся Рысінскі Саламон Фёдаравіч (каля 1560–1625), філосаф, паэт, педагог, парэміёлаг, вучоны-фалькларыст, этнограф, ураджэнец в. Рысін на Полаччыне (цяпер Себежскі раён Пскоўскай вобласці).

**455 гадоў** таму (1560) нарадзіўся Корсак Ян Рыгоравіч (каля 1560–1625), полацкі харужы са старажытнага беларускага роду, гараднічы полацкі, кашталян полацкі, у апошнія гады жыцця ваявода смаленскі.

**455 гадоў** таму (1560) нарадзіўся Сапега Андрэй Паўлавіч (каля 1560–1621, сын Паўла Іванавіча), падчашы з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, кашталян мінскі, ваявода полацкі і смаленскі.

**450 гадоў** таму (1565) нарадзіўся Сапега Андрэй Іванавіч (каля 1565–1611, малодшы брат канцлера Л. І. Сапегі), староста аршанскі з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, кашталян віцебскі, ваявода мсціслаўскі.

**445 гадоў** таму (1570) нарадзіўся Корсак Іосіф Львовіч (каля 1570–1643), мсціслаўскі староста і ваявода са старажытнага беларускага роду, заснавальнік базыльянскага манастыра ў Беразвеччы і кармеліцкага ў Глыбокім.

**435 гадоў** таму (1580) заснаваны Полацкі езуіцкі калегіум.

**435 гадоў** таму (1580) нарадзіўся Кунцэвіч Іасафат (свецкае імя Іван 1580–1623), уніяцкі царкоўны дзеяч, публіцыст, архіепіскап полацкі (1618–1623 гг.). Змушаў да ўніяцтва, за што падчас Віцебскага паўстання быў забіты.

**435 гадоў** таму (1580) створана Бібліятэка Полацкага езуіцкага калегіума (з 1812 г. – акадэміі).

**430 гадоў** таму (1585) створаны Полацкі школьны тэатр у г. Полацку пры Полацкім езуіцкім калегіуме (з 1812 – акадэмія). Дзейнічаў да 1819 г.

**430 гадоў** таму (1585) нарадзіўся Сапега Аляксандр Дажбог (1585–1635, сын Рыгора), падкаморы віцебскі з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, староста аршанскі, кашталян віцебскі, староста прапойскі і чачэрскі.



# Снежань

**ААТ «ЗАВОД “ЛЕГМАШ”»**

Да 70-годдзя заснавання (1945)

Буйнейшым прадпрыемствам горада Орша з’яўляецца ААТ «Завод “Легмаш”». 6 снежня 1945 года пастанаўленнем СНК СССР № 1802 у горадзе быў створаны завод ацяпляльных катлоў, на базе якога ў 1952 года было арганізавана прадпрыемства па выпуску бытавых швейных машын. З завода «Чырвоны Кастрычнік» (цяпер РПУП «Лёс» у г. Барань) былі перададзены аснастка і абсталяванне, тэхналогія і канструктарская дакументацыя на бытавую швейную машыну «Орша-1», звараную на базе нямецкай машыны «Зінгер».

З 1962 года было выпушчана 230 тысяч швейных машын, завод перайшоў на выпуск прамысловых швейных машын. У 1991 годзе было выпушчана 75 тыс. прамысловых швейных машын (60 % саюзнай вытворчасці).

З часам з’явіліся новыя віды прадукцыі: аверлокі МБК-1, машыны «Пралеска», «Руно», бытавая машына «Алеся», машына зігзаг «Віка». Акрамя таго, тут вырабляюць замкі гаражныя, дамкраты аўтамабільныя, газавую зброю.

У 2006 годзе ААТ «Завод швейных машын» (так з 2004–2007 гг. называлася прадпрыемства) увайшло ў склад Беларускага металургічнага завода. Гэта дало прадпрыемству фінансавую падтрымку і забеспячэнне

7. **Бескін** Ізраіль Саламонавіч [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://vlib.by/pridvinie/index.php/mtree-lib/geroi-savetskaga-sayuza/beskin-izrail-salamonavich. — Дата доступу: 15.12.2014.

8. **Бескин** Израиль Соломонович — Биография [Электронный ресурс] // «Помни Про» : электронный мемориал. — Режим доступа: http://pomnipro.ru/memorypage3956/biography. — Дата доступа: 15.12.2014.

9. **Бескин** Израиль Соломонович — Статья [Электронный ресурс] // Витебская энциклопедия. — Режим доступа: http://evitebsk.com/wiki/Бескин,_Израиль_Соломонович. — Дата доступа: 15.12.2014.

10. **Герой** Советского Союза Бескин Израиль Соломонович [Электронный ресурс] // «Герои страны» : патриотический Интернет проект. — Режим доступа: http://warheroes.ru/hero/hero.asp?Hero_id=3640. — Дата доступа: 15.12.2014.



**420 гадоў** таму (1595) нарадзіўся Корсак Рафаіл (каля 1595–1640 Мікалай), мітрапаліт грэка-каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай са старажытнага беларускага роду, архімандрыт уніяцкіх манастыроў, протаархімандрыт (генерал) Базыльянскага ордэна, епіскап галіцкі.

**415 гадоў** таму (1600) нарадзіўся Абуховіч Піліп Казімір (каля 1600–1656), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, пісьменнік-мемуарыст. З 1653 г. з'яўляўся ваяводам віцебскім, смаленскім.

**415 гадоў** таму (1600) нарадзіўся Семяновіч Казімір (каля 1600–пасля 1651), ваенны дзеяч, інжынер і тэарэтык артылерыі, мысліцель-гуманіст. Паходзіў з роду дробных князёў Семяновічаў, якія ў 14–16 стст. валодалі землямі на Віцебшчыне.

**405 гадоў** таму (1610) адбыўся першы спектакль у Аршанскім школьным тэатры пры езуіцкім калегіуме.

**395 гадоў** таму (1620) узведзены Смалянскі замак (Белы Ковель, Малы Ковель) князем С. А. Сангушкам-Ковельскім, помнік палацава-паркавай архітэктуры 1-й чвэрці 17 ст. на паўн.-зах. ускраіне в. Смаляны Аршанскага раёна, на правым беразе р. Дзярноўка (правы прыток р. Адроўка).

**395 гадоў** таму (1620) нарадзіўся Корсак Ян Раманавіч (каля 1620–1697), полацкі падчашы са старажытнага беларускага роду, падкаморы, кашталян.

**385 гадоў** таму (1630) першае ўпамінанне пра в. Юнькі Пастаўскага раёна на р. Лучайка.

**385 гадоў** таму (1630) была заснавана Спірыдонам Собалем Куцеінская друкарня пры Аршанскім Куцеінскім Багаяўленскім манастыры, цэнтр беларускага кнігадрукавання ў 17 ст.

**380 гадоў** таму (1635) нарадзіўся Жахоўскі Кіпрыян (каля 1635 – кастр. 1693 Цыпрыян), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай, ураджэнец Полацкага ваяводства. У 1674–1693 гг. архіепіскап полацкі, мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі.

**365 гадоў** таму (1650) упершыню ўзгадваецца г. Гарадок.

**315 гадоў** таму (1700) нарадзіўся Глаўбіц Іаган Крыштоф (1700–1767 Ян), беларускі і літоўскі архітэктар, прадстаўнік віленскага барока і ракако, пабудаваў Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў, перабудаваў Полацкі Сафійскі сабор.

**315 гадоў** таму (1700) нарадзіўся Фантана Іосіф III (каля 1700–пасля 1755), адзін з найбуйнейшых дойлідаў Рэчы Паспалітай, аўтар шэрагу архітэктурных праектаў на Віцебшчыне, Гарадзеншчыне і Віленшчыне.

**295 гадоў** таму (1720) нарадзіўся Алендскі Стафан (каля 1720–1763), дзеяч кальвінісцкай царквы. У 1745 г. займаў пасаду старосты сітнаўскага (цяпер в. Малое Сітна Полацкага раёна).

**270 гадоў** таму (1745) нарадзіўся Кутузаў (Галянішчаў-Кутузаў) Міхаіл Іларыёнавіч (1745–1813), расійскі палкаводзец, генерал-фельдмаршал. У час Бярэзінскай аперацыі 1812 г. быў у Копысі, потым у мяст. Круглае, Жукавец, Радашковічы і інш. месцах цяперашняй Віцебскай вобласці.

**270 гадоў** таму (1745) нарадзіўся Корсак Самуэль (каля 1745–пасля снежня 1795), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ са старажытнага беларускага роду, пасол ад Навагрудскага ваяводства на сейм 1773 г., які зацвердзіў 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. Уваходзіў у Найвышэйшую літоўскую раду.

**265 гадоў** таму (1750) пабудаваны Белы палац у в. Лявонпаль Міёрскага раёна.



Памёр 19 студзеня.1964 года. Пахаваны ў Іркуцку на Радзішчаўскіх могілках.

У 1984 годзе ля завадской прахадной Віцебскага піўзавода ў яго гонар была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Ёсць падобная дошка ў гонар Ізраіля Бескіна і ў Іркуцку на будынку Гарнізоннага Дома афіцэраў Сібірскай ваеннай акругі (вул. Маркса, 47). На магіле Героя ўсталявана мармуровае надмагілле. У правым куце вертыкальнай часткі помніка выбіты гарэльеф І. С. Бескіна. Ніжэй па цэнтры малюнак медалі «Залатая Зорка» і надпіс: «Герою Савецкага Саюза генерал-лейтэнанту артылерыі Бескіну Ізраілю Саламонавічу ад Міністэрства абароны СССР». Магіла Ізраіля Бескіна з'яўляецца аб'ектам культурнай спадчыны рэгіянальнага значэння.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Башун, Е.** Нет забытых имен / Е. Башун // Витьбичи. — 2004. — 15 июня. — С. 2.

2. **Бескін** Ізраіль Саламонавіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мн. : БелЭн, 1996. — Т. 3. — С. 127.

3. **Бескін** Ізраіль Саламонавіч // Памяць : Віцебск : гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі : у 2 кн. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.] ; склад. А. І. Мацяюн ; маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн., 2002. — Кн. 1. — С. 620.

4. **Бескин** Израиль Соломонович // Герои Советского Союза : краткий биографический словарь : в 2 т. / А. А. Бабаков [и др.]. — М., 1987. — Т. 1. — С. 159.

5. **Бескин** Израиль Соломонович // Слава и гордость земли Витебской : биографический справочник / сост. М. Н. Пригожий ; редкол.: М. П. Кузьмич (пред.) [и др.]. — С. 18.

6. **Герценов, Б.** Друг юности / Б. Герценов // Мишпоха. — 2010. — № 26. — С. 62—64.

1944 – генерал-лейтэнант. З лістапада 1944 года вопытны артылерыст у 70-й арміі Другога Беларускага фронту. Прымаў удзел у вызваленні Гомеля, Рэчыцы, Калінкавічаў, Бабруйска. Пры падаўленні агнявых кропак праціўніка заўсёды аддаваў перавагу гарматам прамой наводкі. Вяршыняй яго артылерыйскага майстэрства з'явіўся прарыў варожай абароны на Одэры.

«Асабіста кіраваў службай разведвальных органаў артылерыі, вызначыў агнявую сістэму і групоўку праціўніка, забяспечыў надзейнае іх падаўленне і знішчэнне», – такую ацэнку дзеянням Бескіна даў 5 мая 1945 года камандуючы 70-й арміяй генерал-палкоўнік Папоў.

У гэтыя штурмавыя дні начальнік артылерыі арміі літаральна на маршы здолеў за кароткі час сканцэнтраваць і сабраць у адзін магутны кулак усе агнявыя сродкі, якія былі ў яго распараджэнні, выставіць да 250 ствалоў на 1 кіламетр лініі фронту. Ён сам кіраваў пераправай артылерыі праз Одэр і забяспечыў перамяшчэнне грознай зброі ў баявыя парадкі войск.

За бліскучае артылерыйскае забеспячэнне прарыву абароны нямецка-фашысцкіх войскаў на Одэры і праяўленыя пры гэтым мужнасць і гераізм Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 31 мая 1945 года генерал-лейтэнанту артылерыі Бескіну Ізраілю Саламонавічу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка» (№ 5488).

Тры ордэны Леніна, тры ордэны Чырвонага Сцяга, ордэны Суворава І і ІІ ступеней, Кутузава І ступені, шэраг медалёў – такія былі адзнакі яго баявых заслуг.

У чэрвені 1950 года скончыў Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба. Камандаваў артылерыяй Усходне-Сібірскай вайсковай акругі.

У 1953 годзе па стане здароўя генерал-лейтэнант артылерыі Бескін быў звольнены ў запас. У час знаходжання ў адстаўцы ён жыў у горадзе Іркуцку і актыўна ўдзельнічаў у ваенна-патрыятычным выхаванні моладзі.



**255 гадоў** таму (1760) нарадзіўся Цяцерскі Фаўстын Іванавіч (1760–1832), беларускі грамадскі дзеяч, мемуарыст, ураджэнец в. Валынцы Верхнядзвінскага раёна.

**255 гадоў** таму (1760) пабудавана на правым беразе р. Заходняя Дзвіна ў г. Віцебску Пятроўская царква Маркава манастыра. Зараз – Віцебская Казанская царква.

**255 гадоў** таму (1760) пабудаваны Віцебскі Пакроўскі сабор, помнік архітэктуры класіцызму.

**250 гадоў** таму (1765) нарадзіўся Баграціён Пётр Іванавіч (1765–1812), расійскі палкаводзец, герой вайны 1812 г., ураджэнец г. Кізляр (Дагестан). Генерал ад інфантэрыі. З сакавіка 1812 г. камандаваў 2-й Заходняй арміяй, якая размяшчалася на тэрыторыі Беларусі і Украіны.

**250 гадоў** таму (1765) нарадзіўся Манькоўскі Ігнат Антонавіч (каля 1765–1832), беларускі публіцыст, віцебскі губернскі пракурор, віцэ-губернатар, ураджэнец Віцебшчыны.

**250 гадоў** таму (1765) нарадзіўся Валінскі Ежы (1765–1840), танцоўшчык, вучыўся ў балетных школах А. Тызенгаўза ў Гродне і Паставах, ураджэнец г. Паставы.

**250 гадоў** таму (1765) нарадзіўся Гарпе Васіль Іванавіч (1765–1814), расійскі ваенны дзеяч, генерал-маёр, удзельнік Клясціцкіх баёў 1812 г., баёў каля Полацка. Найбольш вызначыўся ў баях пры вызваленні Віцебска ад французаў.

**240 гадоў** таму (1775) нарадзіўся Арля-Ашмянец Фердынанд Францавіч (1775–?), педагог, пісьменнік. Працаваў настаўнікам у Дынабургскім, Віцебскім і Аршанскім павятовых вучылішчах, у Полацкім, Рагачоўскім і Камянецкім вучылішчах.

**240 гадоў** таму (1775) пабудавана Віцебская ратуша на месцы драўлянай ратушы 16 ст. З'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока з элементамі класіцызму.

**235 гадоў** таму (1780) заснаваны ў Бешанковічах старэйшы на тэрыторыі Беларусі піваварны завод для забеспячэння маёнтка ўласным півам.

**235 гадоў** таму (1780) пачаў будавацца Аршанскі касцёл святога Іосіфа, помнік архітэктуры барока і класіцызму ў г. Оршы на месцы папярэдняга драўлянага храму манастыра дамініканцаў. У 1990-х гг. адрэстаўрыраваны.

**235 гадоў** таму (1780) быў пабудаваны Пастаўскі архітэктурны ансамбль у г. Паставы, помнік горадабудаўніцтва 2-й паловы 18 ст.

**230 гадоў** таму (1785) пабудавана Віцебская Успенская царква, помнік архітэктуры барока.

**230 гадоў** таму (1785) пабудаваны Віцебскі касцёл Святой Варвары, помнік архітэктуры эклектыкі.

**220 гадоў** таму (1795) створаны Браслаўскі павет, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі ў 1795–1836 гг. і ў 1939–1940 гг. у БССР.

**215 гадоў** таму (1800) нарадзіўся Пагарэльскі Платон Мікалаевіч (1800–1852), матэматык, педагог, ураджэнец Віцебскай губерні.

**215 гадоў** таму (1800) нарадзіўся Шапялевіч Радзіслаў Іасафатавіч (1800–1846 Гаўдэнты/Гаўдэнтый/Гаўдэнцый Шапялевіч/ Лазарэвіч-Шапялевіч), паэт, ураджэнец Магілёўскай губерні. Некаторы час жыў на Віцебшчыне.

**205 гадоў** таму (1810) заснавана метэаралагічная станцыя ў г. Віцебску.



Бескін Ізраіль Саламонавіч нарадзіўся 25 лістапада 1895 года ў горадзе Віцебску ў сям'і рабочага. Вучыўся ў яўрэйскай школе – хедары, некаторы час працаваў у канторы піваварнага завода, затым пераехаў у Харкаў, дзе здаў экзамены за 8 класаў гімназіі. Спрабаваў паступіць у Харкаўскі ўніверсітэт, але з-за адсутнасці сродкаў вымушаны быў вярнуцца ў Віцебск.

У 1914 годзе быў прызваны ў армію, стаў артылерыстам. За баявыя заслугі быў узнагароджаны двума георгіеўскімі крыжамі, атрымаў званне унтэр-афіцэра.

Улетку 1918 года добраахвотна ўступіў у рады Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у падаўленні мецяжоў у Віцебскай і Смаленскай губернях падчас грамадзянскай вайны. У 1919–1920 – слухач Маскоўскіх курсаў цяжкай артылерыі РСЧА. Па заканчэнні курсаў – камандзір батарэі Маскоўскага гарнізона.

З кастрычніка 1921 года – камандзір батарэі ў Далёкаўсходняй рэспубліцы, удзельнічаў у баях супраць белагвардзейцаў і інтэрвентаў каля Хабараўска, Спасска, Валачаеўкі, Уладзівастока. У 1925-м скончыў Вышэйшую артылерыйскую школу, у 1936-м – Ваенную акадэмію імя Фрунзе. Займаў пасады начальніка артылерыі ў дывізіі, у корпусе. Член ВКП(б)/КПСС з 1939 года. Удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне 1939–1940 гадоў, быў начальнікам артылерыі 25-й кавалерыйскай дывізіі.

У передваенныя гады Ізраіль Саламонавіч быў на розных камандных пасадах. Вялікая Айчынная вайна застала яго на пасадзе намесніка начальніка артылерыі 27-га механізаванага корпуса. А праз тры месяцы ён ужо на чале артылерыстаў 50-й арміі, якая дзейнічала ў раёне Бранска. Быў намеснікам начальніка артылерыі 5-й арміі, удзельнічаў у Маскоўскай бітве. Вёў баі пад Ельняй і Рослаўлем, абараняў Тулу, кіраваў артылерыяй у наступальнай аперацыі на Калугу. Пры непасрэдным удзеле генерала Бескіна быў запланаваны і здзейснены магутны артылерыйскі наступ падчас аперацый савецкіх войскаў пад Сталінградам.

З 27 студзеня 1943 года генерал-маёр артылерыі, з 22 жніўня

Культура. — 2010. — 20–26 лістап. — С. 9.

8. **Апіёк** Мікалай Апанасавіч [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://vlib.by/pridvinie/index.php/mtree-lib/mastaki/apijok-mikalaj-apanasavich. — Дата доступу: 15.12.2014.

9. **Опиок** Николай Афанасьевич [Электронный ресурс] // Личный дневник. Ничего нового. — Режим доступа: http://jan-1948.blog.tut.by/2014/09/14/opiok-nikolay-afanasevich/. — Дата доступа: 15.12.2014.

10. **Опиок** Николай Афанасьевич [Электронный ресурс] // Художественная галерея «Беларт». — Режим доступа: http://www.bel-art.by/authors_opiok_n.php. — Дата доступа: 15.12.2014.



**БЕСКІН**

**ІЗРАІЛЬ САЛАМОНАВІЧ**

Да 120-годдзя з дня нараджэння (1895)

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, савецкі военачальнік, камандуючы артылерыяй 70-й арміі 2-га Беларускага фронту, генерал-лейтэнант артылерыі.



**205 гадоў** таму (1810) нарадзіўся Грэйпель Леапольд (каля 1810 – пасля 1847 Грэйпаль), беларускі архітэктар. У 1830-я гг. працаваў павятовым землямерам г. Полацка.

**195 гадоў** таму (1820) у Бешанковічах жыў пісьменнік і будучы дзекабрыст Бястужаў-Марлінскі Аляксандр Аляксандравіч.

**195 гадоў** таму (1820) пабудавана сядзіба ў в. Юрцава Аршанскага раёна, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры гістарызму.

**195 гадоў** таму (1820) заснавана Аршанскае павятовае дамініканскае вучылішча. Праіснавала да 1917 г.

**190 гадоў** таму (1825) пабудавана Шкунцікаўская Ільінская царква, помнік архітэктуры класіцызму ў в. Шкунцікі Шаркаўшчынскага раёна. Першапачаткова была пабудавана як касцёл. З 1863 – праваслаўная царква.

**185 гадоў** таму (1830) была разбурана Белацаркоўская Троіцкая царква ў в. Белая Царква Чашніцкага раёна.

**185 гадоў** таму (1830) адкрыта Лепельскае чатырохкласнае дваранскае вучылішча.

**185 гадоў** таму (1830) уведзена ў дзеянне дарога Віцебск–Орша.

**180 гадоў** таму (1835) адкрыўся Полацкі кадэцкі корпус, які з'яўляўся сярэдняй ваеннай навучальнай установай закрытага тыпу ў Полацку ў 1835–1918 гг.

**180 гадоў** таму (1835) нарадзіўся Лявіцкі Казімір Васілевіч (1835–1891), расійскі ваенны дзеяч, прафесар, генерал-лейтэнант, ураджэнец Віцебскай губерні.

**175 гадоў** таму (1840) пабудавана паштовая станцыя каля в. Паграбёнка Сенненскага раёна.

**175 гадоў** таму (1840) пабудавана з цэглы Бароўская Еўфрасіннеўская царква ў в. Бароўка Верхнядзвінскага раёна.

**175 гадоў** таму (1840) нарадзіўся Папоў Аляксандр Нічыпаравіч (каля 1840–1881), хімік, педагог, ураджэнец Віцебшчыны.

**175 гадоў** таму (1840) нарадзіўся Кірпічоў Леў Львовіч (1840–1890), ваенны вучоны, генерал-маёр артылерыі, прафесар, ураджэнец г. Полацка. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус.

**175 гадоў** таму (1840) пабудавана Галомысленская царква Іаана Багаслова, помнік архітэктуры драўлянага дойлідства ў в. Галомыслы Міёрскага раёна.

**170 гадоў** таму (1845) нарадзіўся Кірпічоў Віктар Львовіч (1845–1913), ваенны вучоны, інжынер, тайны саветнік, прафесар, ураджэнец г. Полацка. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус.

**165 гадоў** таму (1850) нарадзіўся Чыр'еў Сяргей Іванавіч (1850–1915), фізіёлаг, педагог, ураджэнец г. Віцебска.

**165 гадоў** таму (1850) нарадзіўся Мяніцкі Вінцэнт (1850–1916), гісторык, археограф, ураджэнец фальварка Селігоры Лепельскага павета.

**160 гадоў** таму (1855) заснавана метэаралагічная станцыя «Полацк» у Полацку (1855 г.).

**160 гадоў** таму (1855) быў адкрыты першы ў Беларусі санаторый. Сёння – гэта «Лясныя азёры», санаторый у в. Вашкова ва Ушацкім раёне.

**155 гадоў** таму (1860) нарадзіўся Вайніловіч Восіп Мікалаевіч (1860–1890), рэвалюцыянер-народнік, ураджэнец г. Віцебска.

**155 гадоў** таму (1860) нарадзіўся Гласко Уладзіслаў Ксавер'евіч (1860–?), удзельнік рэвалюцыйнага руху, ураджэнец Віцебскага павета.



значны перыяд жыцця быў звязаны з прафесіяй сцэнографа, спалучае вайну і тэатр, выявы знакамітых палітычных і грамадскіх дзеячаў ды блізкіх сяброў, вобразы роднага краю і роздум пра будучыню сваёй краіны. Сярод манументальных палотнаў з выявамі псіхалагічна пранікнёных твараў і пластычна выразных постацей вылучаюцца жывапісныя аблічча асоб, знакавых для беларускай гісторыі, нашай культуры. Ён увасобіў вобразы Адама Міцкевіча і Марылі Верашчакі; Дуніна-Марцінкевіча, Купалы ды Коласа; Максіма Багдановіча, Жэні Янішчыц. Ён маляваў легендарную Стэфанію Станюту, вядучых акцёраў-купалаўцаў і сябра тэатра – драматурга Аляксея Дударава. Стварыў пранізліва ўражлівыя партрэты кампазітара Яўгена Глебава, песняра-музыканта Уладзіміра Мулявіна, адлюстраваў незабыўную Лілію Давідовіч у ролі Боны Сфорцы і шмат іншага.

Жыве з сям’ёй у г. Мінску.

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Апіёк** Мікалай Апанасавіч // Беларускі Саюз Мастакоў : энцыклапедычны даведнік / рэдкал.: Б. А. Крэпак [і інш.]. — Мн., 1998. — С. 25.
2. **Апіёк, М. А.** Вайна і мір Мікалая Апіёка / М. А. Апіёк ; гутарыла В. Канюта // Звязда. — 2013. — 8 жн. — С. 3.
3. **Берасцень, С.** Угледзецца ў вобраз / С. Берасцень // Літаратура і мастацтва. — 2012. — 27 крас. — С. 19.
4. **Опиок, Н. А.** Души полёт и сердца вдохновенье... / Н. А. Опиок // Армия. — 2008. — № 2. — С. 62—64.
5. **Салавей, Л. Ф.** Апіёк Мікалай Апанасавіч / Л. Ф. Салавей // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд) і інш. — Мн. : БелЭн, 2004. — Т. 18, Кн. 1. — С. 335.
6. **Церабун, У.** Ідзе вольна, а можа яшчэ і бегчы / У. Церабун // Мастацтва. — 2006. — № 1. — С. 20—21.
7. **Шунейка, Я.** На што памножыць краявід? / Я. Шунейка //

жонкай Тамарай. Адначасова ён узначальваў Гродзенскую абласную арганізацыю БСМ. У тыя часы ў Гродна часта наведваўся славуты мінскі пейзажыст Віталь Цвірка, творчасць якога вельмі паўплывала на каларыстычныя здабыткі Апіёка.

З сярэдзіны 1970-х мастак ужо жыве і працуе ў Мінску, супрацоўнічае з Купалаўскім тэатрам. У 1966 годзе становіцца членам Беларускага саюза мастакоў, пачынае прымаць удзел у мастацкіх выстаўках. З кожным годам ён усё больш прысвячае сябе станковаму жывапісу. Працуе ў жанрах пейзажа, партрэта і нацюрморта, а таксама ў станковай графіцы.

Шмат чаму Мікалая Апіёка навучыў народны мастак СССР і Беларусі Міхаіл Андрэевіч Савіцкі, з якім ён пазнаёміўся яшчэ ў 1967 годзе. Менавіта карціны гэтага майстра, выстаўленыя ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску, сталі для мастака прыкладам і крыніцай натхнення.

З 2003 года Мікалай Апанасавіч узначальвае Студыю ваенных мастакоў «Шчыт Айчыны» пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь. За невялікі час існавання Студыі зроблена нямала: напісана шмат карцін, арганізаваны тэматычныя выставы, персанальныя экспазіцыі ўдзельнікаў гэтага аб’яднання. На сучасным этапе калектыў Студыі аб’ядноўвае адзін маштабны праект. Удзельнікі пішуць серыю партрэтаў двойчы Герояў Савецкага Саюза – ураджэнцаў Беларусі. Сярод іх – удзельнікі баявых дзеянняў Павел Галавачоў, Сяргей Грыцавец, Іосіф Гусакоўскі, Сцяпан Шутаў і Іван Якубоўскі. А таксама першыя беларускія касманаўты – Пётр Клімук і Уладзімір Кавалёнак.

Мікалай Апіёк з гонарам і годнасцю сцвярджае сваёй творчасцю высокае званне беларускага мастака. Яго творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ і Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, а таксама ў прыватных калекцыях Расіі, Польшчы, Германіі, Італіі, Галандыі і іншых краін.

Жывапісны свет мастака, чыё дзяцінства змрочылі гады вайны, а



**155 гадоў** таму (1860) нарадзіўся Адэльгейм Роберт Львовіч (1860–1934), рускі акцёр, народны артыст Расіі, брат Адэльгейма Рафаіла Львовіча. Разам з братам гастраляваў па розных гарадах Беларусі, у т. л. Віцебску (1897, 1900) і Полацку.

**145 гадоў** таму (1870) пабудаваны Храм Уваскрасення Хрыстова з цэглы ў г. Дзісне на Міёршчыне, помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

**145 гадоў** таму (1870) адбылася першая значная рэканструкцыя касцёла святога Іосіфа Абручніка ў г. Оршы.

**145 гадоў** таму (1870) нарадзілася Аксельрод Любоў Ісакаўна (літаратурны псеўданім Артадокс 1870–1946), філосаф, літаратуразнаўца, ураджэнка в. Дунілавічы Пастаўскага раёна.

**145 гадоў** таму (1870) пабудавана з цэглы на месцы папярэдняга храма Бешанковіцкая Ільінская царква ў г. п. Бешанковічы.

**140 гадоў** таму (1875) пабудавана Браздзечынская Петрапаўлаўская царква ў в. Браздзечына Аршанскага раёна.

**140 гадоў** таму (1875) нарадзіўся Алонаў Яўген Піліпавіч (1875–1929), прафесар, ветэрынарны ўрач, грамадскі дзеяч, Герой Працы, адзін з арганізатараў ветэрынарнай справы ў Беларусі, ураджэнец Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Заснавальнік і з 1924 г. рэктар Віцебскага ветэрынарнага інстытута.

**135 гадоў** таму (1880) пераўтворана «Акруговае праўленне Таварыства аказання дапамогі пры караблекрушэннях» Віцебскай губерні ў «Таварыства выратавання на водах».

**135 гадоў** таму (1880) пабудавана Аршанская Ільінская царква, помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

**135 гадоў** таму (1880) існавала Віцебскае музычна-драматычнае таварыства ў г. Віцебску.

**130 гадоў** таму (1885) выяўлены археалагічны помнік Галошава, курганны могільнік крывічоў на ўсходняй ускраіне в. Галошава Талачынскага раёна.

**130 гадоў** таму (1885) нарадзіўся Багдановіч Генадзь Васілевіч (1885–1937), беларускі грамадскі дзеяч, педагог, ураджэнец в. Луначарскае Верхнядзвінскага раёна.

**125 гадоў** таму (1890) нарадзіўся Манцэвіч Фларыян Данатавіч (1890–1941), педагог, грамадскі дзеяч, ураджэнец в. Іказнь Браслаўскага раёна.

**125 гадоў** таму (1890) заснавана друкарня Я. Падземскага ў г. Оршы.

**125 гадоў** таму (1890) нарадзіўся Святагор Кузьма Піліпавіч (1890–1917), ваенны лётчык, удзельнік Першай сусветнай вайны, Георгіеўскі кавалер, ураджэнец Віцебскай губерні.

**125 гадоў** таму (1890) нарадзіўся Гудкоў Іван Якаўлевіч (каля 1890–?), Георгіеўскі кавалер, удзельнік Першай сусветнай вайны, ураджэнец в. Міхалова Гарадоцкага раёна.

**125 гадоў** таму (1890) нарадзіўся Мятла Пётр Васілевіч (1890–1936), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, ураджэнец былой в. Кухцінцы Міёрскага раёна.

**125 гадоў** таму (1890) нарадзіўся Арцем`еў Лявонцій Арцёмавіч (1890–?), удзельнік Першай сусветнай вайны, Георгіеўскі кавалер, ураджэнец Веліжскага павета Віцебскай губерні.

**125 гадоў** таму (1890) нарадзіўся Гаўрыс Іван Трафімавіч (1890–1937), беларускі жывапісец, графік, педагог, уваходзіў у групу УНОВІС, ураджэнец Слуцкага раёна Мінскай вобласці. У 1920–1930-я гг. выкладаў у Віцебску.



# Лістапад



**АПІЁК**
**МІКАЛАЙ АПАНАСАВІЧ**
80-год з дня нараджэння (1935)

Член Беларускага саюза мастакоў, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі, кіраўнік Студыі ваенных мастакоў у горадзе Мінску.

Апіёк Мікалай Апанасавіч нарадзіўся 20 лістапада 1935 года непадалёк ад Оршы ў вёсцы Макараўка Дубровенскага раёна. Скончыў Пірагоўскую сямігадовую школу. Мастацтву ён пачаў вучыцца ў Віцебску: 1951–1955 гг. – у Віцебскім мастацка-графічным вучылішчы. У 1956–1957 гг. вучыўся на 5 курсе Мінскага мастацкага вучылішча. Некаторы час Мікалай працаваў у сістэме Мастацкага Фонду БССР (г. Віцебск). У 1964 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (з 2001 г. – Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Настаўнікамі Мікалая Апіёка былі Ф. Дарашэвіч, А. Мазалеў, Я. Чамадураў, якія разгледзелі ў маладым творцы каларыста і навучылі мысліць у мастацтве.

З 1964 года Мікалай Апанасавіч цэлае дзесяцігоддзе працаваў як мастак-пастаноўшчык Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра, дзе аформіў больш за 30 спектакляў, дзе і пазнаёміўся са сваёй будучай

помнік Б. Радзівіл. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1863–1864 гг. (паўстанцкі камісар Дзісенскага павета і начальнік атрада). Загінуў у баі ў в. Парэчча Барысаўскага павета Мінскай губерні.


**ЛІТАРАТУРА**

1. **Баркоўская, А.** Яднаючы мінулае і сучаснасць / А. Баркоўская // Міёрскія навіны. — 2013. — 15 кастр. — С. 1, 3.

2. **Ермаковіч, В.** Апошні прытулак Генрыка Дмахоўскага / В. Ермаковіч // Родныя вытокі (Докшыцы). — 2012. — 24 кастр. — С. 5.

3. **Ермалёнак, В.** Апошні шлях / В. Ермалёнак // Міёрскія навіны. — 2010. — 21 жн. — С. 6.

4. **Ермалёнак, В.** Дзве мемарыяльныя дошкі землякам / В. Ермалёнак // Краязнаўчая газета. — 2013. — № 41 (лістап.). — С. 2.

5. **Ермалёнак, В.** Слова краязнаўцы / В. Ермалёнак // Літаратура і мастацтва. — 2013. — 8 лістап. — С. 14.

6. **Ермаловіч, В.** Генры Сандэрс, ён жа Генрык Дмахоўскі / В. Ермаловіч // Рэспубліка. — 2010. — 2 кастр. — С. 8.

7. **Памятные** доски в честь скульптора Генриха Дмоховского и писателя Яна Гущи установили за собственные средства жители Миор [Электронный ресурс] // TIO.BY : портал газеты «Туризм и отдых». — Режим доступа: http://www.tio.by/novosti/23884. — Дата доступа: 15.12.2014.




**125 гадоў** таму (1890) пабудаваны Чарапоўшчынскі сядзібны дом у в. Чарапоўшчына Ушацкага раёна.

**120 гадоў** таму (1895) нарадзіўся Арлоўскі Кірыла Пракопавіч (1895–1968), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы.

**120 гадоў** таму (1895) нарадзіўся Шафранскі Канстанцін Іванавіч (1895–1941), адзін з кіраўнікоў проціпаветранай абароны (ППА) Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, палкоўнік, ураджэнец в. Кісялёва Талачынскага раёна.

**120 гадоў** таму (1895) нарадзіўся Грыб Тамаш Тамашавіч (1895–1938), дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння, ураджэнец в. Паляны Дзісенскага павета (зараз Міёрскі раён).

**120 гадоў** таму (1895) дзейнічалі Губінскія фабрыкі (1895–1914) у маёнтку Губіна Лепельскага павета (зараз в. Губіна ў Лепельскім раёне).

**115 гадоў** таму (1900) нарадзіўся Верхаловіч Павел Міхайлавіч (1900–1952), генерал-лейтэнант, ураджэнец г. п. Шаркаўшчына.

**115 гадоў** таму (1900) нарадзіўся Чуйкоў Васіль Іванавіч (1900–1982), Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Маскоўскай вобласці. За баі каля г. Лепель узнагароджаны 2-м ордэнам Чырвонага Сцяга.

**115 гадоў** таму (1900) нарадзіўся Арлоў Аляксандр Рыгоравіч (1900–1945), інжынер-віцэ-адмірал, савецкі ваенна-марскі дзеяч, ураджэнец г. Оршы Віцебскай вобласці.

**115 гадоў** таму (1900) нарадзіўся Люзікоў Аляксандр Ільіч (1900–1942), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, генерал-маёр, Герой Савецкага Саюза. Вызначыўся ў абарончых баях пад Барысавам і Оршай.

**115 гадоў** таму (1900) дзейнічала Віцебская льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» ў маёнтку Езагнёва (зараз у межах г. Віцебска). У 1947 г. на базе фабрыкі створаны дывановы камбінат (ААТ «Віцебскія дываны»).

**115 гадоў** таму (1900) пабудавана Лепельская Георгіеўская царква, помнік архітэктуры неарускага стылю ў г. Лепелі.

**115 гадоў** таму (1900) пабудавана Язненская Спаса-Праабражэнская царква, помнік архітэктуры рэтраспетыўна-рускага стылю ў в. Язна Міёрскага раёна.

**115 гадоў** таму (1900) пабудавана Свята-Успенская царква ў в. Пабеда (Лоўжа) у Шумілінскім раёне, помнік архітэктуры неарускага стылю.

**115 гадоў** таму (1900) нарадзіўся Даркевіч Хрыстафор Яўгенавіч (1900–1937), беларускі мастак. З 1931 г. выкладаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме.

**115 гадоў** таму (1900) пабудавана Германавіцкая Успенская царква, помнік драўлянага дойлідства ў в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна.

**115 гадоў** таму (1900) была заснавана Ніжэйшая сельскагаспадарчая школа 1-га разраду. Зараз – УА «Смалянскі дзяржаўны аграрны каледж».

**115 гадоў** таму (1900) заснаваны механічныя майстэрні па вырабе сельскагаспадарчага інвентару, катлоў, рамонце абсталявання для млыноў і вінакурных заводаў. Зараз – РУВП «Чырвоны барацьбіт», станказавод.

**110 гадоў** таму (1905) нарадзіўся Раманаў Павел Мінаевіч (1905–1944), Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, ураджэнец г. Чыта (Расія).





## ДМАХОЎСКІ ГЕНРЫК МІХАЙЛАВІЧ

**(псеўданім Генры Д. Сандэрс)**

Да 205-годдзя з дня нараджэння (1810)

Дмахоўскі Генрык Міхайлавіч нарадзіўся 26 кастрычніка 1810 года ў маёнтку Забалацце (сёння в. Забалацце ў Міёрскім раёне) у дваранскай сям'і з традыцыямі асветніцтва і вызваленчай барацьбы (паводле іншых звестак месцам нараджэння лічыцца г. Вільня). Удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі, у Літве і Польшчы ў 1830–1860-я гг., скульптар.

Скончыў Віленскі інстытут у 1828 годзе. Удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гг. (у атрадзе В. Пяткевіча). Пасля разгрому паўстання эміграваў у Францыю (1832–1833), там з рэвалюцыйнай эміграцыяй рыхтаваў новае паўстанне (т. зв. экспедыцыя Ю. Заліўскага). Пазней за рэвалюцыйную дзейнасць у Галіцыі засуджаны (1834–1841) аўстрыйскімі ўладамі на 7 год зняволення. У 1841–1851 гг. вучыўся скульптуры і працаваў як скульптар у Парыжы.

Стварыў помнікі польскаму рэвалюцыйнаму дзеячу В. Пяткевічу ў Парыжы (1848) і героям паўстання 1848 года ў Познані (1849), рэльеф Ю. Заліўскага. З 1951 г. да 1861 г. — у ЗША, пад псеўданімам Генры Д. Сандэрс стварыў бюсты Т. Касцюшкі, К. Пульскага і Т. Джэферсана для кангрэсу ў Вашынгтоне, помнік жонцы ў Філадэльфіі, медальён з сілуэтамі павешаных дзекабрыстаў. Іншыя работы:, бюсты Т. Дзялынскага (Познань), скульптурная група «Гарыбальдзі з воінамі», медаль «Апафеоз Т. Касцюшкі» і інш. З кастрычніка 1861 года на радзіме, стварыў у Вільні бюсты У. Сыракомлі, гісторыка М. Балінскага, статую св. Уладзіслава,

П. Броўкі, 2010. — С. 29.

3. **Кривенок, М.** Первые кавалеры / М. Кривенок // Віцебскі рабочы. — 2003. — 16 верас. — С. 4.

4. **Симонов, А.** В поисках Азина: хитросплетения судьбы начдива-28 / А. Симонов // Родина. — 2011. — № 2. — С. 76—80.

**5. Хаўратовіч, І. П.** Азін Уладзімір Марцінавіч // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя : [у 12 т.] / рэдкал.: П. У. Броўка (гал. рэд.) і інш. — Мн., 1969. — Т. 1 : А—Афіна. — С. 162.

5. **Азін** Уладзімір Марцінавіч [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://vlib.by/pridvinie/index.php/mtree-lib/vydatnyya-i-znakamityya-lyudzi/azin-uladzimir-martsinavich. — Дата доступу: 15.12.2014.

6. **Его** именем названа библиотека [Электронный ресурс] // Библиотеки им. В. М. Азина (Центр удмуртской культуры и краеведческой литературы г. Ижевска. — Режим доступа: http://www.azinlib.ru/about/history/photoarch/azin.php. — Дата доступа: 15.12.2014.

7. **Командиры** РККА : фотоальбом [Электронный ресурс] // Бердников Вячеслав. — Режим доступа: http://wberdnikov.narod.ru/photoalbum6.html. — Дата доступа: 15.12.2014.

8. **Улица** Казанская Ижевска — улица Азина [Электронный ресурс] // IZarticle — информационный сайт по Ижевску, Удмуртской Республике. — Режим доступа: http://www.iz-article.ru/azina.html. — Дата доступа: 15.12.2014.



**110 гадоў** таму (1905) нарадзіўся Крайзер Якаў Рыгоравіч (1905–1969), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, генерал арміі. У ліпені 1941 г. удзельнічаў у абарончых баях за Барысаў і Оршу.

**110 гадоў** таму (1905) пабудаваны Іказненскі касцёл Божага Цела, помнік архітэктуры неараманскага стылю ў в Іказнь Браслаўскага раёна.

**110 гадоў** таму (1905) пабудавана Іказненская Мікалаеўская царква, помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю ў в. Іказнь Браслаўскага раёна.

**110 гадоў** таму (1905) нарадзіўся Бабашынскі Аляксандр Іосіфавіч (1905–1970), расійскі вучоны ў галіне ветэрынарыі, доктар ветэрынарных навук, прафесар, ураджэнец г. Віцебска. У 1949–1950 гг., 1962–1969 гг. загадчык кафедры заагігіены ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце.

**110 гадоў** таму (1905) нарадзіўся Губарэвіч Якаў Рыгоравіч (1905–1971), беларускі вучоны ў галіне ветэрынарыі, доктар ветэрынарных навук, прафесар. З 1959 г. загадчык кафедры акушэрства, гінекалогіі і штучнага абнасеньвання Віцебскага ветэрынарнага інстытута.

**110 гадоў** таму (1905) нарадзіўся Калінін Анатолій Сямёнавіч (1905–1965), беларускі вучоны ў галіне паталагічнай анатоміі і гісталогіі, доктар ветэрынарных навук, прафесар. У 1957–1965 гг. загадчык кафедры патанатоміі і гісталогіі Віцебскага ветэрынарнага інстытута.

**110 гадоў** таму (1905) пабудаваны Барадзініцкі касцёл Святога Юзафа, помнік архітэктуры позняга класіцызму ў в. Барадзінічы Браслаўскага раёна.

**105 гадоў** таму (1910) быў адкрыты настаўніцкі інстытут у Віцебску. Зараз Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава.

**105 гадоў** таму (1910) аматарскі тэатр у в. Празарокі Глыбоцкага раёна атрымаў статус прафесійнага і назву Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага.

**105 гадоў** таму (1910) пабудавана з цэглы Відзаўская Успенская царква ў г. п. Відзы Браслаўскага раёна.

**105 гадоў** таму (1910) нарадзіўся Ляўкоў Пётр Маркавіч (1910–1968), поўны кавалер ордэна Славы, ураджэнец в. Аляксандраўка Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Вызначыўся падчас Вялікай Айчыннай вайны на шашы Орша–Магілёў.

**105 гадоў** таму (1910) нарадзілася Пруская Зося Пятроўна (1910–1995), спявачка, носьбіт мастацкіх традыцый Лепельшчыны, ураджэнка в. Аношкі Лепельскага раёна.

**105 гадоў** таму (1910) пабудаваны Задарожскі касцёл Дзевы Марыі, помнік архітэктуры неаготыкі ў в. Задарожжа Глыбоцкага раёна.

**105 гадоў** таму (1910) нарадзіўся Дубровіч Алесь (1910–1942 Радзько Аляксей Ягоравіч), беларускі паэт, удзельнік вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, удзельнік антыфашысцкага падполля на Глыбоччыне ў Вялікую Айчынную вайну, ураджэнец в. Каралевічы Глыбоцкага раёна.

**105 гадоў** таму (1910) знойдзены Полацкі манетна-рэчавы скарб на тэрыторыі Полацкага Верхняга замка.

**100 гадоў** таму (1915) нарадзіўся Корнеў Леанід Сямёнавіч (1915–1944), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, франтавік, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Спас-Слабада Полацкага раёна.

**100 гадоў** таму (1915) нарадзіўся Арлоў Цімафей Мікалаевіч (1915–1944), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза.



1-га Вяцкага рабочага батальёна 19-га Уральскага палка змагаўся з белагвардзейскім чэшскім корпусам на Усходнім фронце пад Арскам і Вярскімі Палянамі. У верасні 1918 года У. М. Азіна прызначылі камандуючым Правай Арскай групы войск 2-й арміі (5 тыс. чалавек), якая разам з часцямі 5-й арміі і Волжскай флатыліі вызваляла ад белагвардзейцаў і белачэхаў Казань. Пасля бліскучай аперацыі загадам Рэўваенсавета рэспублікі на базе групы войск была сфарміравана 2-я зводная дывізія (25 тыс. чалавек), якую ўзначаліў У. М. Азін. У жорсткіх баях 05–07.11.1918 г. дывізія вызваліла адзін з апорных пунктаў контррэвалюцыі г. Іжэўск, потым важныя цэнтры збройнай прамысловасці – Воткінскі, Ашапскі, Інскі заводы – і была перафарміравана ў 28-ю, вядомую пасля пад назвай Жалезная Азінская. За гэтую аперацыю У. М. Азін узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Зімой дывізія з баямі адступіла. У маі – чэрвені 1919 г. яна зноў вызваліла Агрыз, Сарапул, Іжэўск. Пасля баёў з войскамі Калчака 14 ліпеня 1919 года дывізія ўзяла Екацярынбург (з 1924 г. Свярдлоўск). З 1 жніўня 1919 года ў складзе ўдарнай групы войск Паўднёвага фронту змагалася пад Царыцынам, у Сальскіх стэпах, на Доне. У баях супраць белаказакаў У. М. Азін быў паранены, але пасля шпіталю зноў узначаліў 28-ю дывізію.

17 лютага 1920 падчас баёў з дзянікінцамі на беразе р. Маныч быў схоплены ў палон і пасля жорсткіх катаванняў павешаны ў станіцы Ціхарэцкай.

У Беларусі, а таксама там, дзе ваяваў У. М. Азін, яго імем былі названыя саўгас у Расонскім раёне, былая в. Белае ў Полацкім раёне, школа № 10 у Полацку, прадпрыемствы, вуліцы ў Віцебску і Полацку. У Полацку У. М. Азіну пастаўлены помнік.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Азін** Уладзімір Марцінавіч // Ваенная энцыклапедыя Беларусі = Военная энциклопедия Беларуси / склад.: В. Ц. Осіпаў [і інш.] ; рэдкал.: А. В. Праляскоўскі, Л. У. Языковіч (гал. рэд.) [і інш.]. — Мн. : БелЭн. імя

# Кастрычнік



**АЗІН**
**УЛАДЗІМІР МАРЦІНАВІЧ**

Да 120-годдзя з дня нараджэння (1895)

Азін Уладзімір Марцінавіч нарадзіўся 08 кастрычніка 1895 года ў в. Мар'янава Полацкага павета Віцебскай губерні (зараз Полацкі раён) у сялянскай сям'і, герой грамадзянскай вайны, военачальнік.

Скончыў балбечанскую царкоўнапрыходскую школу і Полацкае рэальнае вучылішча. З 1911 года працаваў у Рызе, дзе далучыўся да рэвалючыйнага руху. З чэрвеня 1915 года працаваў у Полацкім аддзяленні Усерасійскага земскага саюза Чырвонага крыжа. У канцы 1916 года прызваны ў войска.

Служыў у інжынерна-будаўнічым батальёне ў Сычоўцы Смаленскай губерні. З пачатку 1918 года камандзір латышскага камуністычнага атрада, у баі каля Дзвінска паранены. Пасля выздараўлення ўступіў у Чырвоную гвардыю. Летам 1918 года накіраваны ў Вятку (з 1934 года Кіраў) у калегію асобных даручэнняў для барацьбы з контррэвалюцыяй. Тут сфарміраваў зборную камуністычную роту, прадухіліў у горадзе мяцеж «левых» эсэраў. У жніўні 1918 года на чале



**100 гадоў** таму (1915) нарадзіўся Сіманаў Канстанцін (Кірыла) Міхайлавіч (1915–1979), рускі пісьменнік, ваенны карэспандэнт, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец Санкт-Пецярбурга. У Вялікую Айчынную вайну быў карэспандэнтам газеты «Красная звезда». Першыя рэпартажы з фронту зрабіў каля Барысава, Талачына і Оршы.

**100 гадоў** таму (1915) нарадзіўся Плякін Іван Антонавіч (1915–1944), удзельнік вызвалення Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец с. Равенькі Белгародскай вобласці (Расія).

**100 гадоў** таму (1915) нарадзіўся Семянкоў Аляксей Іванавіч (1915–2000), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, франтавік, Герой Расіі, генерал-лейтэнант авіяцыі, Заслужаны пілот СССР, ураджэнец в. Цясалы Гарадоцкага раёна.

**100 гадоў** таму (1915) нарадзіўся Янціміраў Булат Янбулатавіч (1915–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Цюменскай вобласці (Расія).

**100 гадоў** таму (1915) пачала выходзіць афіцыйная газета «Віленскія губернскія ведамасці» ў Вільні, пазней і ў Дзісне, і ў Туле.

**95 гадоў** таму (1920) нарадзіўся Гайко Андрэй Самуілавіч (1920–1943), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, камандзір стралковага ўзвода лейтэнант, Герой Савецкага Саюза.

**95 гадоў** таму (1920) нарадзіўся Вашчанка Аляксей Ягоравіч (каля 1920–1942), герой Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнец в. Воската Гарадоцкага раёна.

**95 гадоў** таму (1920) нарадзіўся Хамчаноўскі Уладзімір Антонавіч (1920–1942), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Пірагі Дубровенскага раёна. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. быў камандзірам падпольнай групы Расонскага патрыятычнага падполля, з красавіка 1942 г. быў у партызанах.

**95 гадоў** таму (1920) нарадзіўся Лузгін Аляксей Андрэевіч (1920–1977), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Загараддзе Талачынскага раёна.

**95 гадоў** таму (1920) нарадзіўся Крыванос Павел Ананьевіч (1920–1944), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, камандзір танкавага ўзвода малодшы лейтэнант, Герой Савецкага Саюза. Вызначыўся ў чэрвені 1944 г. у час ліквідацыі варожай групоўкі каля Віцебска.

**95 гадоў** таму (1920) заснавана Віцебская абласная друкарня ў г. Віцебску. З 1925 г. – Друкарня імя Камінтэрна. З 2000 г. – унітарнае паліграфічнае прадпрыемства з сучаснай назвай.

**95 гадоў** таму (1920) заснаваны Віцебскі дзяржаўны станкаінструментальны каледж.

**95 гадоў** таму (1920) заснаваны Віцебскі культурна-спартыўны цэнтр Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі ў г. Віцебску як клуб «Суботнік».

**95 гадоў** таму (1920) выйшаў першы з трох нумароў часопіса «Голас працы» Віцебскага губернскага Савета прафсаюзаў.

**95 гадоў** таму (1920) быў створаны Талачынскі народны драматычны тэатр пры хаце-чытальні (зараз Дом культуры).

**95 гадоў** таму (1920) была заснавана Дубровенская Цэнтральная раённая бібліятэка ў г. Дуброўна.



4. **Пашкоў, Г.** Ідзе, жыццём асветлены... // Літаратура і мастацтва. — 2010. — 24 снеж. — С. 5.

5. **Салтук, А.** І як тут не смяяцца! / А. Салтук // Віцебскі рабочы. — 2005. — 10 верас. — С. 4.

1991 адказны сакратар часопіса «Тэатральная Беларусь».

Вершы пачаў пісаць у школьныя гады. Першы верш «З Новым годам!» надрукаваны 01.01.1960 у докшыцкай раённай газеце «Ленінская трыбуна». Пазней, з 1962, вершы Івана Стадольніка друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Віцебскі рабочы», «Піянер Беларусі», у зборніку «Слова аб роднай прыродзе». У 1967 у часопісе «Вожык» змешчана першая гумарэска Івана Стадольніка – «Прататып», а ў 1971 на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» – першае апавяданне.

Аўтар зборнікаў сатыры і гумару «Як тут не смяяцца», «Лістапад на пачатку лета», апавяданняў «Хачу табе шчасця». У яго вершаваных і празаічных сатырычных творах выяўляецца выразная грамадзянская пазіцыя аўтара, непрымірымыя адносіны да розных антыграмадскіх праяў, высмейваюцца гультаі, прыстасаванцы, падхалімы, п'яніцы.

Умее ўзняцца над фактамі звычайнага, будзённага і засяродзіць увагу на важных маральна-этычных праблемах. Сваіх «герояў» знаходзіць у гушчыні жыцця.

Пачуццё гумару, дасціпнасць дапамагаюць пісьменніку больш шырока і ўсебакова раскрыць мастацкія характары. Асобныя гумарэскі пісьменніка перакладаліся на літоўскую, рускую, украінскую мовы. Песні на вершы Івана Стадольніка напісалі Д. Лукас, М. Пятрэнка. Аўтар шматлікіх вершаваных подпісаў пад агітплакатамі.

Жыве ў Мінску.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Гальпяровіч, Н.** Іван / Н. Гальпяровіч // Літаратура і мастацтва. — 2014. — 12 верас. — С. 12.

2. **Маляўка, П. І.** Стадольнік Іван / П. І. Маляўка // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. / пад рэд. А. В. Мальдзіса. — Мн. : БелЭн імя П. Броўка, 1995. — Т. 5. — С. 408—410.

3. **Палачанін, Ф. А.** Іван Стадольнік // Докшыцкі край / Ф. А. Палачанін. — Мн., 2009. — С. 130—131.



**90 гадоў** таму (1925) заснаваны Бярэзінскі біясферны запаведнік у Докшыцкім і Лепельскім раёнах Віцебскай і Барысаўскім раёне Мінскай абласцей.

**90 гадоў** таму (1925) нарадзіўся Шут Кліменцій Пятровіч (1925–1969), беларускі археолаг, ураджэнец Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці). Даследаваў гарадзішчы ва Ушацкім, Лепельскім, Верхнядзвінскім, Гарадоцкім раёнах.

**90 гадоў** таму (1925) нарадзіўся Рублеўскі Уладзімір Сцяпанавіч (1925–1944), Герой Савецкага Саюза, удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну..

**90 гадоў** таму (1925) нарадзіўся Рыжанкоў Мікалай Андрэевіч (1925–1944), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Кашына Уладзімірскай вобласці (Расія). Вызначыўся ў баях пры фарсіраванні р. Заходняя Дзвіна ў раёне в. Буй, в. Дворышча Бешанковіцкага раёна.

**90 гадоў** таму (1925) нарадзіўся Антусенка Фёдар Нічыпаравіч, ураджэнец в. Мехавое Гарадоцкага раёна. Удзельнік вызвалення Гарадоцкага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Зараз жыве ў г. Гарадку. Робіць мэблю як сталярную, так і з рознай аздобай.

**90 гадоў** таму (1925) пачаў выходзіць літаратурна-мастацкі часопіс «Аршанскі маладняк» (1925–1928), які выдавала Аршанская філія «Маладняка».

**90 гадоў** таму (1925) заснаваны калгас «1 Мая» ў Лёзненскім раёне. Зараз – СВК «Мальково».

**85 гадоў** таму (1930) у Віцебску заснавана швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі». Зараз – ААТ «Сцяг індустрыялізацыі».

**85 гадоў** таму (1930) пабудаваны Далёкаўскі Станіславаўскі касцёл, помнік архітэктуры канструктывізму ў в. Далёкія Браслаўскага раёна.

**85 гадоў** таму (1930) Віцебскі вышэйшы педагагічны інстытут адноўлены як індустрыяльна-педагагічны інстытут.

**85 гадоў** таму (1930) уведзена ў дзеянне Асінаўская дзяржаўная раённая электрастанцыя ў г. п. Арэхаўск Аршанскага раёна. З 1931 г. – Беларуская дзяржаўная электрастанцыя.

**85 гадоў** таму (1930) нарадзіўся Прарок Сцяпан Парфёнавіч, прафсаюзны работнік, дыспетчар, начальнік станцыі, галоўны інжынер станцыі Орша Калінінскай чыгункі, з 1964 г. – начальнік станцыі Віцебск, з 1969 г. – начальнік аддзела Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. У 1984–2000 гг. старшыня райпрафсожа Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі.

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны Коханаўскі льнозавод (1930-я) у в. Зялёны Бор цяперашняга Талачынскага раёна. З 1997 г. – ААТ «Коханаўскі льнозавод».

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны калгас імя Чырвонай Арміі ў в. Альгова ў Віцебскім раёне. У 2003 г. – ЗАТ «Альгоўскае», з 2008 – СВК «Альгоўскае».

**85 гадоў** таму (1930) заснавана льночасальная фабрыка ў г. Оршы. З 2002 г. – рэспубліканскае ўнітарнае вытворча-гандлёвае прадпрыемства ў складзе канцэрна «Беллёгпрам» Аршанскі льнокамбінат, буйнейшы ў Еўропе вытворца льняных тканін.

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны Аршанскі мясакансервавы камбінат. З 1998 – ААТ.





## СТАДОЛЬНІК
## ІВАН КАНСТАНЦІНАВІЧ

75-год з дня нараджэння (1940)

Іван Стадольнік нарадзіўся 12 верасня 1940 года ў весцы Янкі Докшыцкага сельсавета. Беларускі паэт. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1980 года.

З сялянскай сям’і. Бацька, Канстанцін Сцяпанавіч, загінуў у 1945 на фронце, пры штурме Кёнігсберга. Маці, Вольга Паўлаўна, жыла ў роднай вёсцы, працавала ў калгасе.

У 1947 Іван Стадольнік пайшоў у 1-ы клас Янкоўскай пачатковай школы, але правучыўся толькі да зімы, бо не было абутку і не хапала гадоў. Пасля сканчэння Докшыцкай сярэдняй школы (1959) працаваў у калгасе імя Суворава Докшыцкага района, качагарам на цаліне (на станцыі Купрыянаўка Рузаеўскага раёна Какчатаўскай вобласці), а калі вярнуўся адтуль, зноў працаваў у калгасе, потым бібліятэкарам Бярозаўскай бібліятэкі Докшыцкага раёна.

У 1960 паступіў на зубаўрачэбнае аддзяленне Полацкага медвучылішча, якое скончыў у 1963. Да 1967 быў зубным урачом Мосарскай сельскай бальніцы Глыбоцкага раёна. Адначасова вучыўся завочна на факультэце журналістыкі БДУ (1965–1971). У 1967–1971 адказны сакратар, з 1971 загадчык аддзела сельскай гаспадаркі полацкай аб'яднанай газеты «Сцяг камунізму». З верасня 1980 рэдактар аддзела літаратуры, з 1984 адказны сакратар часопіса «Вожык», а з кастрычніка

«Сустрэча», выдадзены ў 1997 годзе дзяржаўным прадпрыемствам «Дом прэсы», які ўвайшоў у бібліятэку часопіса «Маладосць» і «Гронка бэзу», які друкаваўся ў Оршы. Зборнік «Гронка бэзу» мае адметную асаблівасць: у ім змешчаны песні на словы Тамаша Ляшонка, музыку да якіх напісаў кампазітар з Магілёўшчыны Мікола Яцкоў.

Памёр у 2004 г.

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Берніковіч, Д.** «Услвавім лістапад, бо не апошні ён, а вечны» / Д. Берніковіч // Веснік Глыбоччыны. — 2005. — 8 кастр. — С. 6.

2. **Ляшонак** Тамаш // Пісьменнікі Віцебшчыны : даведнік / рэд. Ф. Сіўко. — Віцебск, 2001. — С. 47.

3. **Салтук, А.** Ліст у агромністым садзе / А. Салтук // Віцебскі рабочы. — 2005. — 5 ліп. — С. 4.

4. **Сушко, М.** «Я душою заўжды малады» / М. Сушко // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). — 1998. — 26 верас. — С. 4.




**85 гадоў** таму (1930) заснавана Віцебская біяфабрыка, прадпрыемства па вытворчасці складаных лекава-прафілактычных і дыягнастычных прэпаратаў для патрэб ветэрынарыі ў в. Доўжа Віцебскага раёна. З 2003 – прыватнае ўнітарнае вытворчае прадпрыемства (ПУВП) з сучаснай назвай.

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны СВК «Пражэктар» (1930-я гг.) у в. Слабада Лепельскага раёна як калгас.

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны Полацкі леспрамгас. Зараз – ААТ «Полацклес».

**85 гадоў** таму (1930) была заснавана Талачынская раённая бібліятэка.

**85 гадоў** таму (1930) быў выяўлены археалагічны помнік – пасяленне эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Старыя Лаўкі Чашніцкага раёна.

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны калгас «Юны свет». Зараз – СВК «Сакалоўшчына» ў Верхнядзвінскім раёне.

**85 гадоў** таму (1930) заснаваны калгас «Чырвоны барацьбіт» у Чашніцкім раёне. Зараз – СВК «Вядрэньскі».

**85 гадоў** таму (1930) пабудаваны Чарневіцкі касцёл Узвышэння святога крыжа ў в. Чарневічы Глыбоцкага раёна.

**80 гадоў** таму (1935) нарадзіўся Засько Аляксандр Данілавіч, мастак, жывапісец, майстар разьбы па дрэве, займаецца апрацоўкай рагоў і костак, роспісам па шкле, чаканкай, ураджэнец Краснадарскага краю (Расія). Зараз жыве ў Сянно.

**80 гадоў** таму (1935) нарадзілася Сайфугалієва Маргарыта Шахіеўна, мастачка, ураджэнка Татарскай АССР.

**80 гадоў** таму (1935) заснаваны калгас «Савецкая Беларусія», да якога ў 1973 г. далучыўся калгас «Знамя камунізму», а з 2003 г. – гэта сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Новая Дубрава».

**80 гадоў** таму (1935) нарадзіўся Гарачаў Іван Іванавіч, беларускі вучоны ў галіне заатэхнікі, доктар сельскагаспадарчых навук. З 2009 г. прафесар у ВДАВМ.

**80 гадоў** таму (1935) заснаваны Аршанскі хлебазавод. З 2001 г. – філіял РУВП «Віцебскхлебпрам».

**80 гадоў** таму (1935) заснаваны «Оршабудматэрыялы» як сілікатны завод у г. Оршы. Зараз – прадпрыемства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў і канструкцый. З 1994 г. – ААТ.

**80 гадоў** таму (1935) заснавана Аршанская фабрыка мастацкіх вырабаў у г. Оршы як швейная арцель. З 2000 г. – РУП з сучаснай назвай.

**80 гадоў** таму (1935) была адкрыта Віцебская абласная клінічная бальніца.

**75 гадоў** таму (1940) выяўлена радовішча пясчана-гравійнай сумесі і сілікатных пяскоў Баравое ў Глыбоцкім раёне. Дэталёва разведана ў 1969–1970 гг.

**75 гадоў** таму (1940) заснаваны Музей прыроды Бярэзінскага біясфернага запаведніка ўвесну 1940 г. у Лепельскім раёне.

**75 гадоў** таму (1940) утвораны Багушэўскі лясгас на тэрыторыі Сенненскага і Аршанскага раёнаў з адміністрацыйным цэнтрам у г. п. Багушэўску Сенненскага раёна.

**75 гадоў** таму (1940) заснаваны калгас імя Сталіна. Зараз ААТ «Канстанцінаў Двор».

**75 гадоў** таму (1940) быў утвораны Дзісенскі раён у Вілейскай вобласці БССР. У 1959 г. яго тэрыторыя была падзелена між Міёрскім і Пліскім раёнамі.



# Верасень



**ЛЯШОНАК ТАМАШ**

Да 80-годдзя з дня нараджэння (1935)

Ляшонак Тамаш (сапр. Ляшок Фама Васільевіч) нарадзіўся 5 верасня 1935 года ў весцы Загор’е Глыбоцкага раёна. Беларускі паэт.

Пасля заканчэння ў 1954 годзе Залескай сярэдняй школы тры гады служыў у войску. У 1957–1958 гадах вучыўся ў Глыбоцкім тэхнічным вучылішчы, а затым працаваў электраманцёрам і завочна вучыўся ў Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі.

З 1967 года працаваў на інжынернай пасадзе на Глыбоцкім прадпрыемстве электрычных сетак, а з 1970 па 1997 год – кіраўніком Глыбоцкага міжраённага аддзялення «Энерганагляду», якое ўваходзіць у склад рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Віцебскэнерга».

Член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1997 года. Друкаваўся ў «Вожыку», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Беларуская ніва», выступаў на рэспубліканскім радыё і абласным тэлебачанні. Пра яго творчасць сведчаць паэтычныя зборнікі «Запознены дар», выдадзены ў 1995 годзе выдавецтвам «Мастацкая літаратура»,

М. Л. Дударенко. — М. : ДОСААФ, 1966. — С. 88—92.

2. **Гарфункин** Григорий Соломонович // В строю отважных : очерки о евреях – Героях Советского Союза / Ф. Д. Свердлов. — М., 1992. — С. 68—69.

3. **Мезенцев, В.** Герой из Янович / В. Мезенцев // Жыццё Прыдзвіння (Віцебск). — 2000. — 29 ліп. — С. 2.

4. **Салаўёў, М.** Гарфункін Рыгор Саламонавіч / М. Салаўёў // Памяць : Віцебскі раён : гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / уклад. У. І. Мезенцаў ; маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн. : Мастацкая літаратура, 2004. — С. 334.



**75 гадоў** таму (1940) заснавана КУСП «Гарадзец» у Шаркаўшчынскім раёне.

**75 гадоў** таму (1940) заснавана Гарадоцкае раённае радыёвяшчанне – раённая праграма радыёвяшчання ў г. Гарадку.

**70 гадоў** таму (1945) хата-чытальня ў г. Докшыцы была перайменавана ў раённую бібліятэку.

**70 гадоў** таму (1945) нарадзіўся Жарнасек Павел Андрэевіч, мастак, ураджэнец в. Забалацце Лепельскага раёна.

**70 гадоў** таму (1945) нарадзіўся Клачкоў Валерый Паўлавіч, кандыдат філасофскіх навук, загадчык кафедры дзяржаўнага будаўніцтва Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, ураджэнец г. п. Ушачы.

**70 гадоў** таму (1945) нарадзілася Рабунская Ніна Фёдараўна, майстар лазапляцення, ураджэнка Краснадарскага краю (Расія). Зараз жыве ў Віцебску.

**70 гадоў** таму (1945) заснавана «Ніць», прадпрыемства лёгкай прамысловасці. З 2004 г. – прыватнае УП грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства глухіх».

**70 гадоў** таму (1945) заснаваны Аршанскі будтрэст № 18 як будучастак № 3 Віцебскага аблбудтрэста № 18 Міністэрства жыллёвай гаспадаркі і грамадзянскага будаўніцтва БССР. З 1999 г. ААТ з сучаснай назвай.

**70 гадоў** таму (1945) быў заснаваны завод ацяпляльных катлоў у г. Оршы. Зараз – «Завод "Легмаш"».

**70 гадоў** таму (1945) заснавана Глыбоцкая цэнтральная раённая бібліятэка ў г. Глыбокае.

**70 гадоў** таму (1945) быў заснаваны райпрамкамбінат у г. п. Ушачы. Зараз – ААТ «Прамкамбінат».

**70 гадоў** таму (1945) заснаваны Млынзавод № 16 у г. Віцебску. Зараз – ААТ «Віцебскі камбінат хлебапрадуктаў».

**70 гадоў** таму (1945) заснавана арцель «15 год БССР» у г. Полацку. Зараз – ААТ «Мона».

**70 гадоў** таму (1945) быў заснаваны Беларускі электратэхнікум сувязі ў г. Пінску. Зараз – ССНУ «Віцебскі філіял Вышэйшага дзяржаўнага каледжа сувязі».

**65 гадоў** таму (1950) заснавана сельскагаспадарчая арцель імя Леніна ў Дубровенскім раёне. Зараз – ААТ «Усход-Чырына».

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны Багушэўскі льнозавод у в. Цыпкі Сенненскага раёна. З 1999 г. – ААТ.

**65 гадоў** таму (1950) нарадзіўся Голуб Іван Антонавіч, навуковец у галіне льнаводства, ураджэнец в. Пад'ясенка Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар сельскагаспадарчых навук, кандыдат сельскагаспаадрчых навук, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі. Працаваў намеснікам калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Аршанскага раёна. З 1984 г. з'яўляецца дырэктарам эксперыментальнай базы «Устье».

**65 гадоў** таму (1950) нарадзіўся Скрыпнікаў Юрый Аляксандравіч, майстар разьбы па дррэве, ураджэнец Краснаярскага края (Расія). Зараз жыве ў Віцебску.

**65 гадоў** таму (1950) нарадзілася Пашкевіч Валянціна Аляксандраўна, майстар лазапляцення, ураджэнка г. п. Обаль Шумілінскага раёна. Зараз жыве ў Віцебску.





## ГАРФУНКІН РЫГОР САЛАМОНАВІЧ

Да 95- годдзя з дня нараджэння (1920)

Гарфункін Рыгор Саламонавіч нарадзіўся 6 жніўня 1920 года ў гарадскім пасёлку Янавічы Віцебскага раёна. Да вайны жыў у Віцебску і працаваў токарам на іголкавым заводзе (цяпер прыборабудаўнічы завод).

У Чырвонай Арміі з 1940 года. З верасня 1941 знаходзіўся ў на Паўднёва-Заходнім, Варонежскім франтах. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Украіны. Разведчык Гарфункін вызначыўся ў баі за Дняпро на Кіеўшчыне. 22 верасня 1943 група разведчыкаў з 6 чалавек, у якой быў Гарфункін, пераправілася цераз раку Днепр каля в. Яшнікі Пераяслаў-Хмяльніцкага раёна Кіеўскай вобласці. Пранікнуўшы ў размяшчэнне праціўніка, воіны разведалі сістэму абароны і агнявыя сродкі ворага. На зваротным шляху Р. С. Гарфункін прыкрываў адыход выяўленых разведчыкаў і забяспечыў іх пераправу, сам загінуў.

10 студзеня 1944 года Р. С. Гарфункину было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Узнагароджаны ордэнам Леніна. Яго імем названа вуліца на радзіме – у г. п. Янавічы, а таксама ў Віцебску. Ля прахадной Віцебскага прыборабудаўнічага завода ўсталявана мемарыяльная дошка ў яго гонар, а на тэрыторыі завода – помнік.

### ЛІТАРАТУРА

1. **Гарфункин** Григорий Соломонович // Разведчики в боях за Родину : сборник статей / сост.: С. В. Федотов [и др.] ; под ред.

бамбёжкі палітрук 62-й Арміі А. Д. Сінічкін быў цяжка паранены і накіраваны ў шпіталь. Пры эвакуацыі шпіталя на другі бераг Волгі адна з бомб трапіла ў судна, на якім знаходзіўся паранены Алесь Жаўрук. 23 жніўня 1942 года беларускі паэт Алесь Жаўрук загінуў.

Першыя вершы надрукаваў у 1926 годзе (газеты «Магілёўскі селянін» і бабруйская – «Камуніст»). Выдаў зборнікі вершаў «Ручаіны» (1936), «Дняпро выходзіць з берагоў» (1938). Найбольш значны твор паэта – паэма «Крывёю сэрца», прысвечаная грамадзянскай вайне ў Іспаніі, выйшла ў 1937 годзе. Надрукаваны напісаныя для дзяцей у сааўтарстве з А. Ушаковым паэмы «Пра майго таварыша» (1939), «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (1939) і зборнік вершаў «Пра майго катка» (1950). У 1960 г. выйшла «Выбранае», у 1987 г. – зборнік «Крывёю сэрца» (вершы, паэмы, успаміны пра паэта). Аўтар лібрэта аперэты «Зарэчны барок» (з А. Ушаковым, пастаўлена ў 1940).

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Базарэвіч, М.** Жаўрук Алесь / М. Базарэвіч // Памяць : Сенненскі раён : гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / уклад. С. В. Шайко ; маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн. : Паліграфафармленне, 2003. — С. 549—550.

2. **Бандарэвіч, В.** Традыцыі літаратурнай Сенненшчыны // Голас Сенненшчыны. — 2010. — 4 верас. — С. 4.

3. **Жаўрук** Алесь // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. / рэдкал. І. Э. Багдановіч [і інш.]. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 1993. — Т. 2 : Верабей—Іваноў. — С. 442—444.

4. **Лазюк, С.** Алесь Жаўрук (1910—1942) / С. Лазюк // Голас Сенненшчыны. — 2000. — 13 чэрв. — С. 2.

5. **Салтук, А.** Ляжыць ён, як віцязь... / А. Салтук // Віцебскі рабочы. — 2005. — 18 жн. — С. 16.



**65 гадоў** таму (1950) нарадзіўся Нікіценка Мікалай Мікалаевіч, мастак, ураджэнец Краснадарскага краю (Расія). Зараз жыве ў в. Ветрына Полацкага раёна.

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны «Пруднікі» як калектыўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства «Кастрычнік» у Верхнядзвінскім раёне. з 2003 – СВК з сучаснай назвай.

**65 гадоў** таму (1950) заснавана ААТ «За Радзіму» ў Глыбоцкім раёне як калгас.

**65 гадоў** таму (1950) заснавана ААТ «Кераміка» ў г. Віцебску.

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны СВК «Іванскі» ў Чашніцкім раёне як калгас імя Жданава.

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны Гарадоцкі льнозавод у г. Гарадку, з 1996 г. ААТ.

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны Ушацкі гароднінасушыльны завод у г. п. Ушачы.

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны калгас імя Гастэлы ў Докшыцкім раёне. Зараз – КУСП «Аграбераснёўка».

**65 гадоў** таму (1950) заснаваны калгас імя Мічурына ў Пастаўскім раёне. Зараз – СВК «Хацілы».

**65 гадоў** таму (1950) заснавана «АСБ-Агра Наватар» у Бешанковіцкім раёне.

**65 гадоў** таму (1950) нарадзіўся Немянёнак Баляслаў Мячыслававіч, беларускі навуковец у галіне металургіі і ліцейнай вытворчасці, доктар тэхнічных навук, прафесар, ураджэнец в. Павяцце Міёрскага раёна.

**60 гадоў** таму (1955) заснаваны Мёрскі льнозавод, з 1998 г. ААТ.

**60 гадоў** таму (1955) выяўлена Крулеўшчынскае радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу за 5 км да паўночнага захаду ад в. Крулеўшчына Докшыцкага раёна.

**60 гадоў** таму (1955) нарадзіўся Багдановіч Міхаіл Аляксандравіч, мастак, ураджэнец г. п. Бешанковічы.

**60 гадоў** таму (1955) нарадзіўся Цімафееў Васіль Карлавіч, жывапісец, ураджэнец в. Звянячы Талачынскага раёна.

**60 гадоў** таму (1955) нарадзіўся Гаруноў Уладзімір Ігаравіч, майстар па вырабах з бяросты, ураджэнец г. Віцебска.

**60 гадоў** таму (1955) заснаваны калгас "Маяк" у Браслаўскім раёне на базе калгасаў «Чырвоная зорка» і імя Кутузава. З 2003 г. – «Маяк Браслаўскі».

**60 гадоў** таму (1955) заснаваны калгас імя Дзяржынскага на базе 6 калгасаў. З 2003 г. – «Абольцы», СВК у Талачынскім раёне.

**60 гадоў** таму (1955) заснаваны Аршанскі камбінат хлебапрадуктаў. З 1996 г. – ААТ з сучаснай назвай.

**60 гадоў** таму (1955) заснаваны «Оршасырзавод» як завод плаўленых сыроў на базе Аршанскай маслабазы. З 1997 г. – ААТ з сучаснай назвай.

**60 гадоў** таму (1955) заснаваны Віцебскі дзяржаўны тэхнічны каледж.

**60 гадоў** таму (1955) выяўлены курганны могільнік крывічоў Зашчырна, археалагічны помнік у в. Зашчырна Верхнядзвінскага раёна.

**60 гадоў** таму (1955) заснавана Шаўкаткацкая фабрыка ў г. Віцебску. Зараз – ААТ «Віцебскі камбінат шаўковых тканін».

**60 гадоў** таму (1955) заснавана Докшыцкае раённае радыё ў г. Докшыцы – раённая праграма радыёвяшчання.



# Жнівень



**АЛЕСЬ ЖАЎРУК**

Да 105-годдзя з дня нараджэння (1910)

Алесь Жаўрук (сапраўднае імя – Аляксандар Дзмітрыевіч Сінічкін) нарадзіўся 19 жніўня 1910 года ў горадзе Сянно Віцебскай вобласці ў сям'і служачага. Беларускі паэт. Дзяцінства і юнацтва Алеся прайшло ў Рагачове, куды неўзабаве пераехалі яго бацькі. Асабліва цяжка прыйшлося пасля смерці бацькі, але маці паэта, Лізавета Сцяпанаўна, зрабіла ўсё магчымае, каб даць дзецям належную адукацыю. У 1927 годзе паступіў у Рагачоўскі педагагічны тэхнікум, пасля заканчэння якога настаўнічаў у саўгасе «Сосны» Любанскага раёна. Скончыў у 1938 годзе Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Займаўся ў аспірантуры пры АН БССР. У 27 гадоў быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР.

У 1939 годзе прызваны ў Савецкую Армію. Быў ваенным карэспандэнтам армейскай газеты «В бой за родину». З пачатку Вялікай Айчыннай вайны на фронце. У 1941-м удзельнічае ў баях пад Масквой. У 1942 годзе абараняе Сталінград, пішучы свае ўзнёслыя вершы ў перапынках паміж абстрэламі, у прамерзлых акопах. Падчас чарговай

агульнай складанасці. Гарадок стаў выдатнай візітнай карткай на ўездзе ў Беларусь.

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Гарадоцкі** раён // Рэспубліка Беларусь : Вобласці і раёны : энцыклапедычны даведнік / аўт.-склад. Л. В. Календа. — Мн. : БелЭн, 2004. — С. 121—124.

2. **Городокский** район : [буклет]. — Мн. : тип. Макарова и К, 2006. — 25 с.

4. **Регионы** Республики Беларусь, 2013 : социально-экономические показатели : статистический сборник / редкол.: В. И. Зиновский (пред.) [и др.]. — Мн., 2013. — Т. 2. — 452 с.

5. **Смалякоў, Г. С.** Гарадоцкі раён / Г. С. Смалякоў // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал. Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мн. : БелЭн, 1997. — Т. 5 :Гальцы—Дагон. — С. 45—46.

6. **Гарадоцкі раён** [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://vlib.by/pridvinie/index.php/garadocki-raion. — Дата доступу: 14.12.2014.

7. **История** Городка [Электронны рэсурс] // Городок: неофициальный сайт города. — Режим доступа: http://www.gorodok.by/histori/history1.html. — Дата доступа: 14.12.2014.




**55 гадоў** таму (1960) нарадзіўся Пахомчык Ігар Сцяпанавіч, майстар разьбы па дрэве ураджэнец г. Барань Аршанскага раёна.

**55 гадоў** таму (1960) нарадзілася Пахомчык Алена Уладзіміраўна, майстар мастацкай апрацоўкі скуры, займаецца таксама вышыўкай, вязаннем, макрамэ, ураджэнка г. Паставы.

**55 гадоў** таму (1960) нарадзіўся Будзіч Іван Мікалаевіч, майстар разьбы па дрэве, ураджэнец в. Парэчча Докшыцкага раёна. Зараз жыве ў Лепелі.

**55 гадоў** таму (1960) нарадзіўся Чылінгаран Хачык Арташавіч, вольны мастак-разьбяр, ураджэнец г. Еравана (Арменія). Зараз жыве ў г. п. Ветрына Полацкага раёна.

**55 гадоў** таму (1960) пачала дзейнічаць Віцебская абласная інспекцыя па ахове прыроды. З 1996 г. – Камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта.

**55 гадоў** таму (1960) заснавана камунальнае ўнітарнае вытворчае сельскагаспадарчае прадпрыемства «Каханавічы» ў Верхнядзвінскім раёне.

**55 гадоў** таму (1960) створаны Домжарыцкі народны жаночы хор «Беразіначка» ў в. Домжарыцы Лепельскага раёна пры сельскім Доме культуры.

**55 гадоў** таму (1960) заснавана Полацкая фабрыка мастацкіх вырабаў «Сафія» ў г. Полацку. З 2000 г. РУП.

**55 гадоў** таму (1960) заснаваны Віцебскі завод трактарных запасных частак.

**55 гадоў** таму (1960) створана раённая праграма радыёвяшчання «Голас Лёзненшчыны» ў г. п. Лёзна.

**55 гадоў** таму (1960) утвораны Казьянскі дзяржаўны паляўнічы заказнік рэспубліканскага значэння. Зараз Рэспубліканскі ландшафтны заказнік «Казьянскі».

**50 гадоў** таму (1965) нарадзілася Рулевіч Людміла Іванаўна, майстар пляцення паясоў ураджэнка Мінскай вобласці. Зараз жыве ў Браславе.

**50 гадоў** таму (1965) Упраўленне вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў у г. Віцебску перайменавана ва Упраўленне сельскай гаспадаркі выканаўчага камітэта Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных. Зараз – Камітэт сельскай гаспадаркі і харчавання Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта.

**50 гадоў** таму (1965) заснавана ў г. п. Расоны раённая праграма радыёвяшчання «Веснік Расоншчыны».

**50 гадоў** таму (1965) нарадзілася Кавальчук Святлана Аляксандраўна, мастак роспісу па дрэве, ураджэнка в. Папялевічы Полацкага раёна.

**50 гадоў** таму (1965) адкрыўся «Нафтан», санаторый сацыяльна-жыллёвага комплексу ААТ «Нафтан» у г. Наваполацку.

**50 гадоў** таму (1965) знойдзены Гараўлянскія манетна-рэчавыя скарбы каля в. Гараўляны Глыбоцкага раёна.

**50 гадоў** таму (1965) выяўлены Экімань-1, археалагічны помнік – курганны могільнік ля в. Экімань 1 Полацкага раёна.

**50 гадоў** таму (1965) заснаваны калгас «Чашніцкі». Зараз – КУСП «Чашніцкае» з цэнтрам у в. В. Альшанка.

**50 гадоў** таму (1965) заснаваны Чашніцкі дарожна-эсплуатацыйны ўчастак № 183. Зараз – КУП «Чашніцкае дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне № 183».



2,5 тысячы чалавек.

Вызваленне Гарадоцкага раёна пачалося ў кастрычніку 1943 года, калі завяршылася Невельская аперацыя. У апошнія дні снежня 1943 года быў ліквідаваны выступ у лініі фронту – Гарадоцкая аперацыя закончылася. 24 снежня 1943 тэрыторыя раёна была вызвалена ад захопнікаў і пачалося мірнае жыццё.

Гаспадаранне фашыстаў прынесла Гарадоцкаму краю вялікія матэрыяльныя страты. Акупанты разрабавалі маёмасць 206 калгасаў, 6 МТС, 1 машынна-трактарнай майстэрні, разбурылі памяшканні і знішчылі абсталяванне 20 прамысловых прадпрыемстваў раёна, спалілі і разбурылі ў раёне 8 бальніц, больш за 7 тысяч жылых і гаспадарчых пабудоў. Захопнікі нанеслі не толькі вялікі матэрыяльны ўрон, але і з нечуванай жорсткасцю расправіліся з мірным насельніцтвам. На пачатак студзеня 1944 года ў Гарадку налічвалася 3457 чалавек з 8100, што жылі тут напярэдадні вайны. Гераічныя подзвігі здзейснілі сотні байцоў і камандзіраў. Імёны многіх з іх увекавечаны ў назвах вуліц. Вызваленне горада ад акупацыі ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Неўміручасць» на цэнтральнай гарадской плошчы. Тут пахавана 1345 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Гарадка. Мемарыял вянчае магіла Невядомага салдата. Для ўшанавання памяці загінуўшых у Гарадоцкім раёне ўстаноўлена 137 помнікаў і абеліскаў.

Пасляваенныя гады адзначаны стваральнай працай жыхароў раёна. Паступова адступалі цяжкасці ваеннага ліхалецця. Прайшлі дзесяцігоддзі. Адрадзіліся Гарадок і раён. Выраслі новыя пакаленні.

У 2014 годзе Гарадок быў абраны цэнтам правядзення абласнога свята працаўнікоў вёскі «Дажынкі». Да «Дажынак» райцэнтр практычна нарадзіўся ў другі раз. Абноўленыя фасады дамоў, мноства новых, толькі што ўведзеных у строй аб’ектаў (аўтастанцыя, чыгуначны вакзал, падраздзялення МНС, выдатная гасцініца, еўрапейскага ўзроўню лыжа-ролерная траса, абноўлены Дом культуры, рэканструяваныя і зноўку пабудаваныя крамы), прыгожыя паркі і скверы – звыш 160 будпляцовак у

пагранічнае становішча абумовіла ўзвядзенне тут абаронных умацаванняў. Да 16 стагоддзя Гарадок уваходзіў у склад Азерышчанскай вобласці, цэнтрам якой было Азярышча (цяпер г. п. Езярышча). У час ваенных дзеянняў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Рускай дзяржавай Азярышчынскі замак не адзін раз разбураўся, затым зноў аднаўляўся. Пасля канчатковага заняпаду гэтага замка і будаўніцтва ў канцы 16 стагоддзя Гарадоцкага бастыённага замка Гарадок стаў цэнтрам акругі і атрымаў герб: выява льва на залатым полі. З гэтага часу пачынаецца ўздым Гарадка, які адзначаны на карце С. Пахалавіцкага 1579 года.

У 1772 годзе ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай Гарадок далучаны да Расійскай імперыі. У 1777 годзе атрымаў статус горада і стаў цэнтрам Гарадоцкага павета Полацкай губерні, з 1796 года – Беларускай, з 1802 – Віцебскай губерні. У 1778 годзе складзены першы план горада. У 1812 годзе горад занялі войскі Напалеона. Далейшая гісторыя Гарадоччыны непарыўна звязана з гісторыяй Беларусі, а з 1917 года – з гісторыяй Савецкай дзяржавы.

Савецкая ўлада ў Гарадку была ўсталявана 26 кастрычніка 1917 года. Пасля рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, карэнным чынам зламаўшых існаваўшы лад жыцця, жыхары раёна прыступілі да аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі, правядзення сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы.

У 1919 годзе Гарадок увайшоў у склад Беларускай ССР, а 17 ліпеня 1924 года быў утвораны Гарадоцкі раён і г. Гарадок стаў раённым цэнтрам.

22 чэрвеня 1941 года ў мірнае жыццё нашай краіны ўварвалася вайна, перакрэсліўшы мары і надзеі мільёнаў людзей. Гарадоцкі раён быў акупіраваны фашыстамі 9 ліпеня 1941 года. За час Вялікай Айчыннай вайны ў баях на Гарадоччыне загінула каля 20 тысяч савецкіх воінаў, у мястэчку і ваколіцах было забіта звыш 16000 чалавек і знішчана 183 населеныя пункты, з іх 13 вёсак былі спалены разам з жыхарамі. На тэрыторыі раёна быў створаны лагер смерці, у якім фашысты замучылі



**50 гадоў** таму (1965) заснавана Докшыцкае дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне № 180 як дарожна-эксплуатацыйны ўчастак № 180. Зараз – філіял КУП «Віцебскаблдарбуд».

**45 гадоў** таму (1970) нарадзіўся Парахневіч Міхаіл Іванавіч, майстар разьбы па дрэве, ураджэнец г. Браслава.

**45 гадоў** таму (1970) заснавана Лявонішына, сельскагаспадарчае прадпрыемства ў Верхнядзвінскім раёне. З 2002 г. КУСПП з сучаснай назвай у выніку далучэння КУСПП імя Кульнева.

**45 гадоў** таму (1970) адкрылася «Янова», база адпачынку ААТ «Будаўніча-мантажны трэст № 16» у Полацкім раёне.

**45 гадоў** таму (1970) створаны «Камарыкі», узорны ансамбль песні і танца ў г. Наваполацку пры Палацы культуры ААТ «Нафтан». У 1972 г. ансамблю прысвоена званне «Узорны аматарскі калектыў».

**45 гадоў** таму (1970) заснавана Рэспубліканскае ўнітарнае сельскагаспадарчае прадпрыемства імя П. М. Машэрава як саўгас імя Машэрава П. М. У 2000 г. пераўтвораны ў РУСП.

**45 гадоў** таму (1970) быў адкрыты Расонскі раённы Дом культуры.

**45 гадоў** таму (1970) была адкрыта база адпачынку «Суя» ААТ «Палімір» у Полацкім раёне.

**45 гадоў** таму (1970) створаны Віцебскі ўзорны хор хлопчыкаў «Віцьбічы» ў г. Віцебску пры абласным Палацы піянераў і школьнікаў. З 1974 г. дзейнічае пры СШ № 33.

**40 гадоў** таму (1975) пабудаваны Глыбоцкі хлебазавод у г. Глыбокае. Зараз з'яўляецца філіялам РУПП «Віцебскхлебпрам».

**40 гадоў** таму (1975) створана Віцебская абласная школа вышэйшага спартыўнага майстэрства, вучэбна-спартыўная ўстанова.

**40 гадоў** таму (1975) Бешанковіцкая цэнтральная раённая бібліятэка набыла статус раённай.

**40 гадоў** таму (1975) Дом кнігі імя М. Горкага ў Віцебску атрымаў статус цэнтральнай бібліятэкі. Зараз – Віцебская цэнтральная гарадская бібліятэка імя М. Горкага.

**40 гадоў** таму (1975) нарадзіўся Вараб'ёў Аляксей Уладзіміравіч (1975–2000), Герой Расіі, ураджэнец пас. Баравуха Полацкага раёна Віцебскай вобласці.

**40 гадоў** таму (1975) нарадзіўся Ліцвінаў Мікалай Уладзіміравіч, жывапісец, ураджэнец г. Гомеля. Зараз жыве ў Віцебску.

**40 гадоў** таму (1975) заснаваны завод «Этон» у г. Новалукомлі Чашніцкага раёна як філіял Віцебскага завода тэхналагічнага абсталявання для вытворчасці камплектуючых і гатовых вырабаў для патрэбаў ваенна-прамысловага комплексу. З 1997 – ААТ «Завод "Этон"». Сёння – гэта прадпрыемства па вытворчасці энергазберагальнага абсталявання і сантэхнікі.

**40 гадоў** таму (1975) створаны Аршанскі народны клуб народных майстроў пры аддзеле гарвыканкама. Працуе ў складзе гарадскога Дома рамёстваў.

**40 гадоў** таму (1975) заснаваны Інстытут тэхнічнай акустыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў г. Віцебску.

**40 гадоў** таму (1975) быў адкрыты аздараўленчы комплекс «Жалезнякі» філіяла «Цэнтр фізкультурна-аздараўленчай работы Віцебскага РУП электраэнергетыкі "Віцебскэнерга"» ў Віцебскім раёне, у 20 км ад г. Віцебска, 3 км на Захад ад г. п. Руба.



У вёсцы Астраўляны, размешчанай непадалёк ад Гарадка, нарадзіўся аўтар вядомай паэмы «Тарас на Парнасе» Канстанцін Вераніцын. У гонар славутага земляка ў Гарадку, як і ў роднай вёсцы паэта, устаноўлены камяні-валуны, каля Гарадоцкага краязнаўчага музея знаходзіцца мемарыяльная дошка, прысвечаная твору Вераніцына.

Багатая Гарадоччына і на прыродныя славутасці. Тут знаходзяцца 162 возеры. Створаны Езярышчанскі арніталагічны заказнік, гідралагічны «Карыцінскі мох», батанічны «Паташэнскі», біялагічныя «Ловаць», «Сурміна». Таксама на тэрыторыі раёна сустракаецца вадзяны арэх – адна з найрэдкіх раслін, якія растуць у краінах СНД. Яшчэ адна прыродная славутасць – дуб-волат у вёсцы Пруднікі, узрост якога перавышае 600 гадоў.

Месцы запаведныя, ёсць магчымасць актыўна займацца аказаннем турыстычных паслуг, прыцягваць замежныя інвестыцыі. Прымежжа з Расіяй дазваляе больш актыўна прыцягваць інвестараў, развіваць гандаль, нарошчваць паказчыкі па знешнеэканамічнай дзейнасці.

Афіцыйная дата ўтварэння Гарадоцкага раёна – 17 ліпеня 1924 года. Культурны і адміністрацыйны цэнтр раёна – горад Гарадок, размешчаны на паўночным усходзе Віцебскай вобласці ў 30 кіламетрах ад абласнога цэнтра – горада Віцебска. Праз горад цячэ рака Гараджанка.

Гарадок упамінаецца ў 1128 г. з нагоды ваеннага паходу кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча ў Полацкую зямлю. У 1551 г. згадваецца ў «рэестры» сярэбшчыны з гарадоў ВКЛ, згодна з якім «с места Городка» плацілі ў казну «20 коп грошей... ». У канцы 1570 г. згадваецца Вялікі і Малы Гарадок.

У летапісах другой паловы 13 ст., у першы раз у 1650 годзе, згадваецца «Гарадок каля Полацка» ў сувязі з бітвай паміж полаўцамі і літоўскім войскам на чале з Мінгайлам, у ходзе якой Гарадок быў знішчаны.

У сярэднявечча гарадоцкія землі ўваходзілі ў склад Полацкага княства, а з 14 стагоддзя – у склад Вялікага Княства Літоўскага. Іх



## ГАРАДОК

Да 365-годдзя заснавання (1650)

Гарадоччына – край незвычайнай прыгажосці.

Гарадоцкі раён па тэрыторыі адзін з буйнейшых у рэспубліцы, размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі і займае каля 3 100 км$^2$. На поўначы мяжуе з Невельскім і Усвяцкім раёнамі Расійскай Федэрацыі, на паўднёвым усходзе – з Віцебскім раёнам, на захадзе – з Шумілінскім і Полацкім раёнамі.

Праз тэрыторыю раёна праходзяць чыгунка і аўтамабільная шаша Санкт-Пецярбург – Адэса, аўтадарога Невель – Полацк. На тэрыторыі Гарадоцкага раёна налічваецца 361 населены пункт, дзе пражывае 24,2 тысячы чалавек, з іх гарадскога насельніцтва – 13,4.

У склад раёна ўваходзяць г. п. Езярышча, 369 населеных пунктаў, Езярышчанскі пасялковы Савет і 10 сельскіх саветаў: Бычыхінскі, Вайханскі, Віраўлянскі, Гуркінскі, Даўгапольскі, Межанскі, Пальмінскі, Першамайскі, Руднянскі, Стадалішчанскі.

У раёне ўлічаны 184 помнікі гісторыі, культуры і археалогіі. Перш за ўсё варта адзначыць паштовую станцыю XIX стагоддзя ў вёсцы Кузьміна. Таксама вельмі цікавымі помнікамі з'яўляюцца драўляны касцёл XIX стагоддзя ў вёсцы Рамні, археалагічныя раскопкі ля вёсак Вышадкі і Мяжа, драўляная царква ў вёсцы Кабішча, латышскі малітоўны дом і старадаўнія могілкі каля вёскі Паташня, рэшткі памешчыцкай сядзібы ў вёсцы Пальмінка, а таксама язычніцкія курганы ў вёсцы Мяжа. У раёне ёсць Дом рамёстваў і фальклору, краязнаўчы музей.



**40 гадоў** таму (1975) створана Глыбоцкая ПМК-46 у в. Шунеўцы Глыбоцкага раёна. Зараз – КУП «Глыбоцкая ПМК меліявадгас».

**40 гадоў** таму (1975) створана Пліская даччыная БПМК-137 у пасёлку Пліса. Зараз – ДКУСП «Глыбоцкая БПМК-33».

**40 гадоў** таму (1975) заснаваны калгас «XXV партз'езд» у Пастаўскім раёне. Зараз – КУСП «Дунілавічы-Агра».

**35 гадоў** таму (1980) нарадзіўся Чульцоў Руслан Аляксеевіч, насеннявод-ільнавод, ураджэнец пас. Балбасава Аршанскага раёна. З 2003 г. працаваў аграномам на эксперыментальнай базе «Устье».

**35 гадоў** таму (1980) заснавана Меліярацыйнае ўпраўленне арашальных і асушальных сістэм у г. Чашнікі. Зараз – Чашніцкае прадпрыемства меліярацыйных сістэм (ПМС).

**35 гадоў** таму (1980) створаны Віцебскі народны вакальна-інструментальны ансамбль «Мара» ў в. Ноўка Віцебскага раёна пры раённым Доме культуры.

**35 гадоў** таму (1980) створаны Бешанковіцкі народны аркестр народных інструментаў у г. п. Бешанковічы пры раённым Доме культуры.

**35 гадоў** таму (1980) заснаваны Дом-музей Петруся Броўкі, філіял Літаратурнага музея Петруся Броўкі, у в. Пуцілкавічы Ушацкага раёна.

**35 гадоў** таму (1980) заснаваны завод па вытворчасці камплектаў вучэбнага абсталявання па чарчэнні і маляванні ў г. Паставы. Зараз ААТ «Паставы мэбля».

**35 гадоў** таму (1980) быў адкрыты Полацкі раённы Дом культуры ў г. Полацку як Палац культуры будаўнікоў аб'яднання «Полацксельбуд».

**35 гадоў** таму (1980) заснавана ПМК-10 у г. Сянно. Зараз – УП «Сяннобудмеліявадгас».

**35 гадоў** таму (1980) была адкрыта база адпачынку «Суя» Наваполацкага РУП па транспарце нафты «Дружба» ў Полацкім раёне.

**35 гадоў** таму (1980) быў заснаваны Сенненскі камбінат кааператыўнай прамысловасці.

**35 гадоў** таму (1980) створаны Віцебскі ўзорны духавы аркестр пры СШ № 33.

**35 гадоў** таму (1980) створаны Віцебскі ўзорны хор дзяўчынак «Вяснянка» ў г. Віцебску пры СШ № 33.

**30 гадоў** таму (1985) створана лялечная трупа пры Беларускім тэатры імя Я. Коласа ў г. Віцебску. Зараз – Беларускі тэатр «Лялька».

**30 гадоў** таму (1985) нарадзілася Барабанава Кацярына Мікалаеўна, майстар клуба народных майстроў і мастакоў, займаецца маляванкай, ураджэнка г. п. Шуміліна.

**30 гадоў** таму (1985) заснаваны Чурылаўскі народны фальклорны калектыў «Крыніца» сельскага Дома культуры Бешанковіцкага раёна.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Гарадоцкі народны клуб народных майстроў і аматарскіх мастакоў «Вытокі» пры раённым краязнаўчым музеі.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Верхнядзвінскі народны аркестр народных інструментаў пры Дзіцячай музычнай школе.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Верхнядзвінскі народны клуб «Ветэран» у г. Верхнядзвінску пры раённым Доме культуры.



3. **Мезенцев, В.** 100 лет славы / В. Мезенцев // Жыццё Прыдзвіння (Віцебск). — 2010. — 20 ліп. — С. 3.

4. **Мезенцев, В.** Подвиг бесстрашия / В. Мезенцев // Жыццё Прыдзвіння (Віцебск). — 2009. — 2 ліп. — С. 3.

5. **Абраменка** Дзмітрый Кузьміч [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://vlib.by/pridvinie/index.php/mtree-lib/geroi-savetskaga-sayuza/abramenka-dzmitryj-kuzmich. — Дата доступу: 14.12.2014.

6. **Абраменко** Дмитрий Кузьмич [Электронный ресурс] // Министерство обороны Российской Федерации (Минобороны России): Полные кавалеры ордена Славы: краткий биографический словарь. — Режим доступа: http://encyclopedia.mil.ru/encyclopedia/gentlemens/hero.htm?id=10358889@morfHeroes. — Дата доступа: 14.12.2014.

7. **Полный** кавалер ордена Славы Абраменко Дмитрий Кузьмич [Электронный ресурс] // «Герои страны»: патриотический Интернет проект. — Режим доступа: http://warheroes.ru/hero/hero.asp?Hero_id=10085. — Дата доступа: 14.12.2014.

(ордэн № 7538).

Узначальваючы гарматны разлік гвардзейскага артылерыйскага палка, у баі 17 лютага 1945 года паўднёва-заходней г. Прэйсіш-Эйлаў (Усходняя Прусія; зараз г. Багратыёнаўск Калінінградскай вобласці) агнём гарматы з адкрытай пазіцыі знішчыў чатыры кулямёты з разлікам і разбурыў дом з двума кулямётнымі кропкамі праціўніка. Тры разы быў паранены.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 19 красавіка 1945 года за ўзорнае выкананне заданняў камандавання ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі гвардыі старшына Абраменка Дзмітрый Кузьміч узнагароджаны ордэнам Славы 1-й ступені (ордэн № 176), стаўшы поўным кавалерам ордэна Славы.

У верасні 1945 года гвардыі старшына Абраменка Д. К. быў дэмабілізаваны.

Пасля вайны жыў на Віцебшчыне і працаваў старшынёй калгаса імя В. Куйбышава.

Памёр 28 студзеня 1984 года. Пахаваны ў роднай в. Філіпаўка Віцебскага раёна.

Узнагароджаны трыма ордэнамі Славы, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі (1971), Айчыннай вайны 1-й ступені (1985), медалём «За адвагу» і іншымі медалямі. Зараз гэтыя ўзнагароды захоўваюцца ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Абраменка** Дзмітрый Кузьміч // Памяць : Віцебскі раён : гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал.: А. П. Красоўскі [і інш.] ; уклад. У. І. Мезенцаў ; маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн., 2004. — С. 349—350.

2. **Абраменко** Дмитрий Кузьмич // Слава и гордость земли Витебской : биографический справочник / сост. М. Н. Пригожий ; редкол.: М. П. Кузьмич (пред.) [и др.]. — Витебск : Витеб. обл. тип. — С. 173.



**30 гадоў** таму (1985) створаны Бешанковіцкі народны клуб «Ветэран» у г. п. Бешанковічы пры раённым Доме культуры.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Аршанскі народны хор ветэранаў вайны і працы ў г. Оршы пры гарадскім Доме культуры.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Аршанскі ўзорны аркестр баяністаў у г. Оршы пры Дзіцячай школе мастацтваў № 1.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Глыбоцкі народны клуб ветэранаў вайны і працы «Маналіт» у г. Глыбокае пры раённым Доме культуры.

**30 гадоў** таму (1985) заснавана Віцебская абласная спартыўная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву прафсаюзаў па зімніх відах спорту «Алімпіец».

**30 гадоў** таму (1985) заснавана Віцебская абласная спартыўная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву прафсаюзаў па веласпорце «Вікторыя».

**30 гадоў** таму (1985) быў заснаваны Талачынскі гісторыка-краязнаўчы музей.

**30 гадоў** таму (1985) створаны Віцебскі народны кінаклуб «Дыялог» у г. Віцебску пры кінатэатры «Спартак» (з 2007 г. – на базе Цэнтра сучаснага мастацтва).

**25 гадоў** таму (1990) заснавана навукова-вытворчая фірма «Дыполь» у г. Віцебску, займаецца вытворчасцю прыбораў начнога бачання.

**25 гадоў** таму (1990) да Віцебскага абласнога псіханеўралагічнага дыспансера быў далучаны Віцебскі абласны наркалагічны дыспансер.

**25 гадоў** таму (1990) у Браславе раённы Дом культуры быў перайменаваны ў гарадскі Дом культуры. З 1999 г. – Браслаўскі раённы Дом культуры.

**25 гадоў** таму (1990) лялечная трупа пры Беларускім тэатры імя Я. Коласа стала самастойным калектывам. Зараз – Беларускі тэатр «Лялька».

**25 гадоў** таму (1990) створаны Баранскі Цэнтр алімпійскага рэзерву па конным спорце і конегадоўлі ў г. Барані Аршанскага раёна на базе конна-спартыўнай школы РУП «Лёс».

**25 гадоў** таму (1990) нарадзіўся Будзіч Дзмітрый Іванавіч, майстар разьбы па дрэве, ураджэнец г. Лепеля.

**25 гадоў** таму (1990) уведзены ў эксплуатацыю Наваполацкі хлебазавод, філіял РУПП «Віцебскхлебпрам».

**25 гадоў** таму (1990) заснаваны Іванскі народны фальклорны калектыў «Прасніца» цэнтралізаванай клубнай сістэмы Чашніцкага раёна.

**25 гадоў** таму (1990) заснаваны Запрудскі народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Прасніца» (1985–2002) сельскага Дома культуры Глыбоцкага раёна.

**25 гадоў** таму (1990) створаны Віцебскі народны ансамбль народнай песні «Раніца» ў в. Ноўка Віцебскага раёна.

**25 гадоў** таму (1990) створаны Віцебскі народны гурт «Тэатр» у в. Ноўка Віцебскага раёна пры Віцебскім раённым Доме культуры.

**25 гадоў** таму (1990) створаны Бешанковіцкі народны ансамбль народнай песні «Весялуха» ў г. п. Бешанковічы пры раённым Доме культуры.



складзе ўсё той жа дывізіі, якая потым злучылася з галоўнымі сіламі Заходняга фронту, а 18 верасня 1941 неўзабаве была ператворана ў 3-ю гвардзейскую стралковую дывізію.

Спачатку полк, у складзе якога ваяваў наш зямляк, называўся 565-м лёгкім артылерыйскім палком, а пасля 22-м гвардзейскім артылерыйскім. Да канца вайны ён уваходзіў у склад 3-й гвардзейскай стралковай дывізіі. У гэтым палку Абраменка камандаваў гарматным разлікам. Са сваёй гарматай ён абараняў Ленінград, адбіваў атакі пяхоты і танкаў нямецкага фельдмаршала Манштэйна, які спрабаваў дэблакіраваць акружаныя ў Сталінградзе войскі Паўлюса, удзельнічаў у вызваленні Растоўскай вобласці, многіх гарадоў на поўдні Украіны. Вызначыўся Абраменка таксама пры вызваленні Еўпаторыі і Севастопаля, дзе яго гарматны разлік знішчыў 2 дэсантныя катары.

Пасля вызвалення Крыму 3-я гвардзейская стралковая дывізія ўвайшла ў склад 1-га Прыбалтыйскага фронту і прыняла ўдзел у вызваленні Беларусі і Прыбалтыкі, а таксама ў разгроме групоўкі нямецкіх войскаў ва Усходняй Прусіі і ўзяцці Кенігсберга.

Камандзір гарматнага разліку 22-га гвардзейскага артылерыйскага палка гвардыі старшы сяржант Абраменка 1 жніўня 1944 года каля населенага пункта Датнова, цяпер Датнува (Літва), разам з байцамі вывеў з ладу дзве кулямётныя кропкі з разлікамі і каля 15 салдат праціўніка. Пры вызваленні літоўскага г. Шаўляй 21 жніўня 1944 года каля пасёлка Гервіцы, пры адбіцці контратак праціўніка ён падавіў дзве кулямётныя кропкі і падбіў два аўтамабілі.

27 верасня 1944 года ўзнагароджаны ордэнам Славы 3 ступені (ордэн № 463961).

У баі за ст. Пагаген паўночней г. Тыльзіт (цяпер г. Савецк Калінінградскай вобласці) Абраменка, камандуючы разлікам, 20 кастрычніка 1944 года знішчыў кулямёт, да ўзвода салдат праціўніка і разбурыў бліндаж. Быў паранены, але поля бою не пакінуў.

26 лістапада 1944 года ўзнагароджаны ордэнам Славы 2 ступені

# Ліпень



**АБРАМЕНКА**
**ДЗМІТРЫЙ КУЗЬМІЧ**
Да 105-годдзя з дня нараджэння (1910)

Поўны кавалер ордэна Славы, камандзір гарматнага разліку 22-га гвардзейскага артылерыйскага палка 3-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-й гвардзейскай арміі, гвардыі старшына. Ваяваў на сямі франтах на пасадзе камандзіра гарматы: на Заходнім, Ленінградскім, Волхаўскім, Паўднёвым, 4-м Украінскім, 1-м Прыбалтыйскім, 3-м Беларускім франтах.

Абраменка Дзмітрый Кузьміч нарадзіўся 22 ліпеня 1910 года ў вёсцы Філіпкава Віцебскага раёна ў сям'і селяніна. Працаваў брыгадзірам паляводчай брыгады калгаса «Новы быт» Суражскага раёна. У Чырвонай Арміі ў 1933–35 і з 22 чэрвеня 1941. Член ВКП(б) / КПСС з 1942.

Быў прызваны па мабілізацыі Суражскім райвыканкамам і разам з папаўненнем накіраваны ў 153-ю стралковую дывізію, у складзе якой Абраменка ў пачатку ліпеня 1941 удзельнічаў ў цяжкіх абарончых баях на подступах да Віцебска, дзе ён падбіў свой першы гітлераўскі танк. З 10 ліпеня па 10 верасня 1941 года ён удзельнічаў у Смаленскай бітве ў



**25 гадоў** таму (1990) заснаваны Сенненскі народны фальклорны ансамбль «Вясёлыя музыкі» раённага Дома культуры.

**25 гадоў** таму (1990) заснаваны завод «Белэкс» у г. п. Коханава Талачынскага раёна. Зараз ААТ «Коханаўскі экскаватарны завод».

**25 гадоў** таму (1990) быў адкрыты гасцінічны комплекс «Ветразь» турысцка-экскурсійнага даччынага прадпрыемства УП «Віцебсктурыст» у г. Віцебску.

**25 гадоў** таму (1990) створаны тэатр-студыя «Спонайд» у Полацкім гарадскім Доме культуры. Сёння – гэта тэатр танца «Прэм'ер-Спонайд».

**25 гадоў** таму (1990) заснаваны Полацкі раённы метадычны Цэнтр народнай творчасці і культпрасветработы.

**25 гадоў** таму (1990) створана мастацкае аб'яднанне «Аршыца» ў г. Оршы.

**25 гадоў** таму (1990) створаны Віцебскі ўзорны тэатр пластычнай мініяцюры «Эстрадная мазаіка» ў г. Віцебску пры СШ № 39 (з 2010 г. – Гімназія № 7) як харэаграфічы калектыў.

**25 гадоў** таму (1990) створаны Віцебскі ўзорны тэатр юнацкай творчасці «Крыніца» ў г. Віцебску.

**25 гадоў** таму (1990) створаны Віцебскі народны тэатр моды «Стыль» у г. Віцебску пры ПТВ № 19 бытавога абслугоўвання насельніцтва.

**25 гадоў** таму (1990) заснаваны Завод будаўнікоў у г. Верхнядзвінску. Зараз – КУП «Верхнядзвінскі завод сталярных вырабаў».

**25 гадоў** таму (1990) створаны Абласны савет на базе прафсаюзнага камітэта РУП «Віцебскэнерга» ў г. Віцебску. Зараз – Віцебская абласная арганізацыя Беларускага прафсаюза работнікаў энергетыкі, электратэхнічнай і паліўнай прамысловасці.

**20 гадоў** таму (1995) Шабашоў Сяргей Міхайлавіч, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, вядомы грамадскі дзеяч, атрымаў званне «Ганаровы грамадзянін г. Віцебска».

**20 гадоў** таму (1995) Полацкаму ансамблю народнай музыкі «Таўкачыкі» дзіцячай школы мастацтваў прысвоена званне «ўзорны».

**20 гадоў** таму (1995) заснаваны Бешанковіцкі раённы Дом рамёстваў.

**20 гадоў** таму (1995) пачаў выдавацца ў г. Віцебску навукова-тэарэтычны часопіс «Вестник Витебского государственного технологического университета».

**20 гадоў** таму (1995) адкрыўся Лёзненскі раённы Дом рамёстваў у г. п. Лёзна.

**20 гадоў** таму (1995) пачаў выдавацца навукова-практычны часопіс «Навіны хірургіі» ў г. Віцебску.

**20 гадоў** таму (1995) пачала праводзіцца штогадовая дзіцячая выстава-конкурс «Перспектыва» ў г. Віцебску. З 1997 г. з'яўляецца міжнароднай.

**20 гадоў** таму (1995) заснавана ЗАТ «Пажтэхніка» ў г. Віцебску як прадпрыемства па вытворчасці супрацьпажарнага абсталявання.

**20 гадоў** таму (1995) створана Віцебская ўзорная эстрадная студыя «Альтанка» ў г. Віцебску пры культурна-спартыўным цэнтры «Адзінства». У 2000 г. студыі прысвоена званне «Узорны аматарскі калектыў».

**20 гадоў** таму (1995) створана «Віцебская акварэль», творчае аб'яднанне беларускіх мастакоў, якія працуюць у розных накірунках у тэхніцы акварэлі.



Група рэдкіх і знікаючых вышэйшых раслін, якія ўключаны ў Чырвоную кнігу Беларусі, даволі шматлікая і прадстаўлена 21 відам. Акрамя іх тут сустракаецца шмат рэдкіх відаў мохападобных.

На тэрыторыі заказніка 15 помнікаў гісторыі і 2 помнікі археалогіі. Па тэрыторыі заказніка праходзіць экалагічны турыстычны маршрут.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Ивченко, Л.** Манят зелень листвы и озер синева / Л. Ивченко // Віцебскі рабочы. — 2012. — 22 снеж. — С. 5.

2. **Козьянский** // Туристская энциклопедия Беларуси / редкол.: Г. П. Пашков [и др.] ; сост.: Л. В. Ловчая, Т. И. Жуковская. — Мн. : БелЭн, 2007. — С. 249.

3. **Крылатых** краснокнижников обитель: уникальные пейзажи ландшафтного заказника «Козьянский» поражают воображение / подгот. М. Усова // Віцебскі рабочы. — 2011. — 26 ліст. — С. 4.

4. **Фондаренко, Н.** «Куда ни шагнешь — Красная книга» / Н. Фондаренко // Витебские вести. — 2014. — 11 окт. — С. 5.

5. **В ожерелье** северных озер [Электронны рэсурс] // WildLife.by. Дикая природа Беларуси. — Режим доступа: http://www.wildlife.by/dp2009-2-4. — Дата доступа: 14.12.2014.

6. **Ландшафтны** заказнік «Казьянскі» Рэспубліканскага значэння [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://u.to/HEpmCQ. — Дата доступу: 14.12.2014.

8. **Рамсарский** статус получили еще три ООПТ Беларуси [Электронны рэсурс] // BEZBOLOT.NET. Общественная кампания «В защиту беларусских болот». — Режим доступа: http://u.to/aJFmCQ. — Дата доступа: 14.12.2014.

сельскагаспадарчых зямель, а таксама малакранутых і наогул не кранутых чалавекам лясоў. Усё гэта – Рэспубліканскі ландшафтны заказнік «Казьянскі» міжнароднага значэння, уключаны ў спіс патэнцыяльных Рамсарскіх угоддзяў.

Утвораны ў 1999 годзе на базе аднайменнага дзяржаўнага паляўнічага біялагічнага заказніка рэспубліканскага значэння (які быў створаны ў 1960 годзе для аднаўлення і падтрымання аптымальнай колькасці паляўнічa-прамысловых відаў жывёл).

Яго плошча складае больш за 26 тыс. га. Большая частка тэрыторыі заказніка размешчана ў Шумілінскім раёне, астатняя плошча – у Полацкім раёне. Тэрыторыя заказніка характарызуецца разнастайнасцю экалагічных сістэм і ўнікальнасцю прыродных комплексаў. Сярод бярозавых і альховых лясоў можна сустрэць фрагменты старых дуброў, якіх некалі тут было шмат. Лясы заказніка не кранутыя чалавекам, бо цяжкадасягальныя.

Галоўная рачная артэрыя гэтай тэрыторыі – рака Обаль з двума прытокамі (Цэніца і Глыбачка) нясе свае воды ў Заходнюю Дзвіну. Асноўная роля ў фарміраванні комплексаў верхавых і пераходных балотаў належыць азёрам, самыя буйныя з якіх Мошна, Расалай і Красамай. Усе яны маюць нізкія забалочаныя берагі і зарастаюць воднай расліннасцю.

Сельскагаспадарчыя землі (ралля, сенакосы і выганы) складаюць усяго толькі 3% ад агульнай плошчы тэрыторыі заказніка. Паколькі ў заказніку пераважаюць забалочаныя лясы, лесакарыстанне тут абмежаванае. Тэрыторыя заказніка з'яўляецца традыцыйным месцам збору грыбоў і ягад мясцовым насельніцтвам.

На гнездаванні ў заказніку адзначана 175 відаў птушак, 44 віды занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Асаблівасці фаўны заказніка абумоўлены наяўнасцю разнастайных месцапражыванняў. Занесеныя ў Чырвоную кнігу віды млекакормячых фарміруюць тут даволі ўстойлівыя групоўкі: барсук, рысь, буры мядзведзь.



**20 гадоў** таму (1995) заснаваны Дубровенскі народны фальклорны гурт «Кудзеліца» раённага Дома культуры.

**20 гадоў** таму (1995) створаны Бешанковіцкі народны клуб народных майстроў «Скарбонка» ў г. п. Бешанковічы пры раённым Доме рамёстваў.

**20 гадоў** таму (1995) заснаваны Сенненскі народны фальклорны ансамбль «Вечарынка» арганізацыйна-метадычнага цэтра аддзела культуры райвыканкама.

**20 гадоў** таму (1995) створана Упраўленне арганізацыйна-кадравай работы Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта.

**20 гадоў** таму (1995) створаны Дабрамыслінскі народны клуб сельскай інтэлігенцыі «Натхненне» ў в. Дабрамыслі Лёзненскага раёна пры сельскім Доме культуры.

**20 гадоў** таму (1995) заснаваны Чашніцкі раённы Дом рамёстваў.

**20 гадоў** таму (1995) было заснавана КУП «Паўночны» ў в. Пальмінка Гарадоцкага раёна.

**20 гадоў** таму (1995) створаны Віцебскі ўзорны харэаграфічны калектыў «Крынічка» ў г. п. Руба Віцебскага раёна пры Палацы культуры і тэхнікі ВА «Даламіт». З 2003 г. дзейнічае пры Палацы культуры.

**20 гадоў** таму (1995) створаны Віцебскі ўзорны тэатр «Вясёлка» ў г. Віцебску пры Палацы культуры чыгуначнікаў.

**15 гадоў** таму (2000) створаны народны ансамбль гарманістаў «Гарадоцкія музыкі» ў г. Гарадку.

**15 гадоў** таму (2000) заснавана замежнае прадпрыемства «Глобал-Віцебск» ААТ, прадпрыемства па вырабе мясных і кілбасных вырабаў.

**15 гадоў** таму (2000) аэрапорт «Витебск» увайшоў у склад дзяржаўнага прадпрыемства па аэранавігацыйнаму абслугоўванню паветранага руху «Белаэронавигация».

**15 гадоў** таму (2000) Беларускаму тэатру «Лялька» г. Віцебска прысвоена званне «Заслужаны калектыў».

**15 гадоў** таму (2000) заснавана раённая праграма «Бешанковіцкае раённае радыёвяшчанне» ў г. п. Бешанковічы.

**15 гадоў** таму (2000) адкрылася «Крупеніна» – база адпачынку ўнітарнага прадпрыемства абласной камунальнай уласнасці Віцебскага аблвыканкама ў Бешанковіцкім раёне.

**15 гадоў** таму (2000) створана «Гаспадынька», Кабішчанскае народнае аматарскае аб'яднанне ў в. Кабішча Гарадоцкага раёна пры сельскім Доме культуры. У 2004 г. яму прысвоена званне «Народны аматарскі калектыў».

**15 гадоў** таму (2000) заснаваны ландшафтны заказнік рэспубліканскага значэння «Асвейскі» ў Верхнядзвінскім раёне.

**15 гадоў** таму (2000) створана Віцебскае народнае аматарскае аб'яднанне «Надзея» ў г. п. Руба Віцебскага раёна пры Палацы культуры.

**15 гадоў** таму (2000) пачаў выдавацца царкоўна-рэлігійны часопіс «Віцебскія епархіяльныя ведамасці».

**15 гадоў** таму (2000) быў адкрыты Полацкі раённы Цэнтр рамёстваў у г. Полацку.

**15 гадоў** таму (2000) заснаваны Полацкі гандлёва-тэхналагічны каледж Белкаапсаюза.

**15 гадоў** таму (2000) створаны Полацкі народны ансамбль народнай песні «Заманіха» ў г. Полацку.



нарысы / І. А. Абрамава [і інш.] ; уклад. М. В. Півавар ; навук. рэд.: А. М. Дарафееў, А. М. Дулаў, І. А. Абрамава. — Мн. : Паркус плюс, 2008. — С. 160.

3. **Зуев, Н.** Неизвестная командировка профессора Адамова / Н. Зуев // Белорусская нива. — 2012. — 14 июня. — С. 11.

4. **Зуеў, М.** Восеньскае падарожжа прафесара Адамава / М. Зуеў // Зара (Бешанковічы). — 2006. — 21 лістап. — С. 3.

5. **Карлюкевіч, А.** Паплечнік Лупіновіча / А. Карлюкевіч // Родная прырода. — 2001. — № 1. — С. 28.

6. **Эльяшевич, Е. Г.** Первые лечебно-ботанические сады на территории современной Беларуси / Е. Г. Эльяшевич // Вестник фармации. — 2013. — № 4. — С. 86—92.

## ЛАНДШАФТНЫ ЗАКАЗНІК «КАЗЬЯНСКІ», ШУМІЛІНСКІ Р-Н

55-год з часу ўтварэння (1960)



Заходней вёскі Казьяны ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці раскінуўся неаглядны мазаічны комплекс верхавых і пераходных балот, адкрытых нізінных балот, заліўных лугоў, азёр, рэк, пясчаных дзюн,

2 тысячы тэхнічных, лекавых, ягадных раслін. У цяпліцах гадавалася каля 300 відаў экзатычных раслін. Мелася добрая бібліятэка. Асабліва шырока ў ёй была прадстаўлена літаратура па батаніцы, лекавых раслінах, пчалярстве, сельскай гаспадарцы, садоўніцтве. Лёс бібліятэкі У. У. Адамава дакладна не вядомы. Па некаторых звестках, вялікая частка яе была перададзена грамадскай арганізацыі, а астатняя літаратура перавезена ў Мінск, дзе з сярэдзіны 1920-х гг. жыў і працаваў навуковец. Таксама тут быў батанічны музей, сабраны гербарый. У наваколлях возера Лётцы батанік адшукаў і на працягу 20 год праводзіў назіранні за невядомым раней відам расліны (Alisma submersum). Зараз у будынку былога маёнтка знаходзіцца Вялікалятчанскі дзіцячы дом для дзяцей-сірот.

З Лётцаў У. Адамаў з'ехаў спачатку ў Мінск, а потым, цяжка хворы, ён жыў у пасёлку Нікіта ў Крыму, сумяшчаючы лячэнне з працай у Нікіцкім батанічным садзе. Сад паступова занепаў. Значная частка калекцыі, ад 200 да 300 відаў раслін, у сярэдзіне 1920-х гг. была перанесена ў Віцебск, у мясцовы батанічны сад. Але і цяпер у Вялікіх Лётцах можна ўбачыць рэшткі былой раскошы, напрыклад, бэз венгерскі, ліпу шыракалістую, бузіну чорную, маліну водарную і іншыя. Усяго каля паўсотні відаў дрэў і кустоўяў. А яшчэ сфатаграфавацца каля дуба-волата ў амаль чатыры чалавечыя абхваты.

Асноўнымі працамі У. Адамава з'яўляюцца працы па сістэматызацыі раслін, дэндралогіі, геабатаніцы. Сярод іх – працы, прысвечаныя садам у наваколлях Віцебска («Бачэйкаўскі сад», «Бешанковіцкі сад», «Фатыньскі сад і гаспадарка»). У «Запісках Беларускага дзяржаўнага інстытута сельскай гаспадаркі» апублікаваў артыкул «Новая адкрытая ў Віцебску расліна (Alisma submersum)».

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Адамов** Владимир Владимирович // Республика Беларусь : энциклопедия : в 7 т. / редкол.: Г. П. Пашков (гл. ред.) и др. — Мн. : БелЭн, 2006. — Т. 2 : А—Герань. — С. 41—42.

2. **Адамаў** Уладзімір Уладзіміравіч // Віцебскі раён: краязнаўчыя



**15 гадоў** таму (2000) створаны Аршанскі клуб аўтарскай песні і паэзіі «Отражение» пры гарадскім Доме культуры чыгуначнікаў.

**15 гадоў** таму (2000) заснаваны ЗАТ «Віцебскі завод палімерных вырабаў» у г. Віцебску.

**15 гадоў** таму (2000) створаны Віцебскі мужчынскі народны хор «Аксіяс» пры Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава.

**15 гадоў** таму (2000) створаны Віцебскі ўзорны фальклорны калектыў «Папараць-кветка» ў г. Віцебску пры СШ № 25.

**15 гадоў** таму (2000) створаны Віцебскі ўзорны фальклорны гурт «Вытокі» ў г. Віцебску пры СШ № 10.

**10 гадоў** таму (2005) СВК «Дворище-Рос» у Расонскім раёне рэарганізаваны ў КУСП шляхам далучэння саўгаса «Россонский».

**10 гадоў** таму (2005) заснаваны «Ладэ», пансіянат ААТ «Ладэ-Лепель» у Лепельскім раёне.

**10 гадоў** таму (2005) заснавана «Вокныінвест» у г. Віцебску як замежнае прыватнае вытворчае ўнітарнае прадпрыемства па вытворчасці святлопразрыстых канструкцый з полівінілхларыду (ПВХ) і алюмінію (вакон, дзвярэй, уваходных і балконных груп).

**10 гадоў** таму (2005) заснавана замежнае прыватнае вытворча-гандлёвае ўнітарнае прадпрыемства «Канадскія тэхналогіі» ў г. Віцебску.

**10 гадоў** таму (2005) быў адкрыты Расонскі раённы Дом рамёстваў.

**10 гадоў** таму (2005) створана Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі ў г. Віцебску.

**10 гадоў** таму (2005) створаны Віцебскі ўзорны фальклорны ансамбль «Весніцы» ў г. Віцебску.

# Студзень

**3 студзеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Шыёнак Аляксандр Сяргеевіч, акварэліст, ураджэнец в. Каўлякі Бешанковіцкага раёна.

**5 студзеня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Жлоба Мікалай Фёдаравіч, беларускі архітэктар, працаваў над паркам імя Фрунзе і імя Леніна ў г. Віцебску і над комплексам паркаў у г. Оршы.

**6 студзеня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзілася Маслоўская Ганна Іванаўна (1920–1980), Герой Савецкага Саюза, ураджэнка в. Курсевічы Пастаўскага раёна.

**6 студзеня** – 50 гадоў таму (1965) вёска Дабрынь Аршанскага раёна ўвайшла ў склад Дубровенскага раёна.

**7 студзеня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч (1910–1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**7 студзеня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Кандрацьеў Рыгор Пятровіч, беларускі спартсмен і трэнер па футболе, ураджэнец в. Любанічы Талачынскага раёна.



# Чэрвень

**АДАМАЎ УЛАДЗІМІР УЛАДЗІМІРАВІЧ**

Да 140-годдзя з дня нараджэння (1875)

Адамаў Уладзімір Уладзіміравіч нарадзіўся 12 чэрвеня 1875 года ў г. Санкт-Пецярбургу, геабатанік, фларыст, дэндролаг, выдатны даследчык флоры беларускага Палесся і Крыма. З'яўляецца адным з першых даследчыкаў расліннасці Беларусі. Заснаваў Вялікалятчанскі батанічны сад (каля Віцебска) і батанічны сад БДУ.

Пасля заканчэння ў 1899 годзе Імператарскага Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта працаваў у Мінскай і Віцебскай губернях. У 1920–1935 гг. кіраваў батаніка-лізіметрычным аддзяленнем Мінскай балотнай даследчай станцыі, секцыяй натуралізацыі Беларускага аддзялення Усесаюзнага Інстытута прыкладной батанікі; кіраваў геабатанічнай экспедыцыяй Упраўлення меліярацыі Наркамзема БССР.

У Вялікіх Лётцах знаходзіўся маёнтак У. У. Адамава, дзе ён пражыў значную частку свайго жыцця. Тут ён і заснаваў свой сад. Дзякуючы актыўнай дзейнасці У. Адамава, а таксама сувязям, якія даследчык меў з батанічнымі садамі еўрапейскіх сталіц, Расіі і Азіі, у садзе былі сабраны расліны з розных месцаў паўночнага паўшар'я і акліматызаваныя прадстаўнікі азіяцкай, заходнееўрапейскай і іншых флор. Асаблівую цікавасць у садзе выклікалі калекцыі дрэвавых і травяністых раслін-альбіносаў і раслін сямейства араліевых (аралія маньчжурская, акантапанакс сядзячакветны). Сам У. Адамаў вельмі ганарыўся калекцыяй розных гатункаў бэзу, які цвіў у садзе на працягу некалькіх месяцаў. Усяго на 1924 год у садзе расло каля 400 відаў дрэў і кустоўяў, больш за

А. М. Дарафееў, А. М. Дулаў, І. А. Абрамава. — Мн. : Паркус плюс, 2008. — С. 172—174.

6. **Фядосік, А. С.** Нікіфароўскі Мікалай Якаўлевіч / А. С. Фядосік // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш. —Мн. : БелЭн, 2000. — Т. 11 : Мугір—Паліклініка. — С. 342.

7. **Ціхамірава, І.** Настаўнік, этнограф, краязнаўца / І. Ціхамірава // Сцяг Перамогі (Лёзна). — 2005. — 17 мая. — С. 2.



**10 студзеня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Галубовіч Васіль Васілевіч (1910–1991), беларускі тэатральны мастак, ураджэнец г. п. Коханава Талачынскага раёна.

**12 студзеня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Зяньковіч Васілій Аляксандравіч, беларускі спецыяліст у вобласці дакладнага электроннага машынабудавання, пачэсны радыст СССР (1973), вынаходнік СССР (1979), ураджэнец г. Віцебска.

**14 студзеня** – 130 гадоў таму (1885) нарадзіўся Тарыч Юрый Віктаравіч (1885–1967), беларускі і расійскі кінарэжысёр, сцэнарыст, заснавальнік беларускага кіно, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, ураджэнец г. Полацка.

**14 студзеня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Забагонскі Сямён Аляксандравіч (1910–1955), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Залучча Верхнядзвінскага раёна.

**15 студзеня** – 165 гадоў таму (1850) нарадзілася Кавалеўская Соф'я Васілеўна (1850–1891 Корвін-Крукоўская), матэматык, пісьменніца, публіцыст, ураджэнка г. Масквы. Дзяцінства і юнацкія гады правяла ў маёнтку Палібіна Віцебскай губерні.

**15 студзеня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Ратнікаў Генадзь Васілевіч, беларускі кіназнаўца, педагог, кандыдат мастацтвазнаўства, ураджэнец г. п. Шуміліна.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) увайшла ў склад Пастаўскага раёна в. Навасёлкі.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) утвораны Плiскi раён, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў БССР (1940–1962) у Вілейскай вобласці. 25.12.1962 быў падзелены між Глыбоцкім і Міёрскім раёнамі.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) утварыўся Відзаўскі раён (1940–1960), адміністрацыйна тэрытарыяльная адзінка ў БССР у Вілейскай вобласці з цэнтрам у г. п. Відзы. 20.01.1960 далучаны да Браслаўскага раёна.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) утвораны Глыбоцкі раён у складзе Вілейскай вобласці.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) быў утвораны Докшыцкі раён у складзе Вілейскай вобласці.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) створаны Пастаўскі раён у складзе Вілейскай вобласці на тэрыторыі былога Пастаўскага павета.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) створаны Шаркаўшчынскі раён у складзе Вілейскай вобласці.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) створаны Браслаўскі раён у складзе Вілейскай вобласці.

**15 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) утвораны Дунілавіцкі раён, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў БССР.



Апошні яго прыезд у Бешанковічы звязаны з абаронай помніка гісторыі і культуры. Было гэта ў 1899 годзе. Да нас ён прыехаў разам з такім жа паборнікам мінуўшчыны глыбокай Дзмітрыем Іванавічам Даўгялам. Яны вырашылі заступіцца за Мікольскую царкву, якая знаходзілася на супрацьлеглым беразе Заходняй Дзвіны, у так званай задзвінскай слабодцы мястэчка Бешанковічы. Царква была драўляная, і пабудавалі яе ў 1778 годзе. Храм хацелі закрыць. Вось на яго абарону і выступілі даследчыкі. Імі ў 1899 годзе нават была выдадзена кніга ў Віцебску пад назвай «Мікольская царква ў задзвінскай слабодцы мястэчка Бешанковічы Лепельскага павета» Але і гэта не абараніла праваслаўную святыню жыхароў Прыдзвіння. Яна была закрыта.

Жыццю і нястомнай дзейнасці даследчыка, выдатнага сына Беларусі, у тым ліку і Віцебшчыны, Мікалая Якаўлевіча Нікіфароўскага прысвечаны працы вядомых гісторыкаў краіны В. К. Стукаліча, В. К. Бандарчыка, І. Г. Чыгрынава і іншых. І гэта заслужана, паколькі для патомкаў ён пакінуў прыкметны след у этнаграфіі і фальклоры.

Памёр 10 чэрвеня 1910 года. Пахаваны ў Віцебску.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Бандарчык, В.** Нікіфароўскі Мікалай Якаўлевіч / В. Бандарчык // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал.рэд.) і інш. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 1999. — Т. 5 : М—Пуд. — С. 326—327.

2. **Бондарчик, В. К.** Николай Яковлевич Никифоровский : очерк жизни и деятельности / В. К. Бондарчик, И. Г. Чигринов. — Мн. : АН БССР, 1960. — С. 104.

3. **Іваноў, С.** Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі (1845–1910 гг.) / С. Іваноў // Сцяг Перамогі (Лёзна). — 2007. — 20 лістап. — С. 3.

4. **Крачкоўскі, А.** Вядомы этнограф і фальклярыст / А. Крачкоўскі // Зара (Бешанковічы). — 2002. — 22 кастр. — С. 2.

5. **Нікіфароўскі** Мікалай Якаўлевіч // Віцебскі раён: краязнаўчыя нарысы / І. А. Абрамава [і інш.] ; уклад. М. В. Півавар ; навук. рэд.:

датычных матэрыяльнай і духоўнай культуры, вуснапаэтычнай творчасці беларусаў. Мікалай Якаўлевіч – аўтар першай спецыяльнай працы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці сельскага насельніцтва.

Этнаграфічны аддзел ТАПЭ з 1892 года пачаў выдаваць серыю нарысаў М. Нікіфароўскага пад агульнай назвай «Нарысы Віцебскай Беларусі». Асноўную ўвагу ў гэтай працы даследчык удзяляў характарыстыцы становішча розных груп насельніцтва Віцебшчыны (старцаў, музыкантаў і інш.) у час прыгонніцтва. «Нарысы…» складаліся з васьмі частак і былі завершаныя ў 1899 годзе. 15 кастрычніка 1893 года імператарскае грамадства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі прысвоіла Нікіфароўскаму сярэбраны медаль за багаты сабраны этнаграфічны матэрыял.

М. Нікіфароўскі таксама аўтар «Нарысаў простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку» (1895) – буйнейшага даследавання матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларусаў XIX ст., у прыватнасці сялян Віцебшчыны.

Трэцяя капітальная праца М. Нікіфароўскага «Простанародныя прыкметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны» (1897), змяшчае 2307 народных прыкмет, павер'яў, забабонаў, абрадаў, звычаяў, сродкаў народнай медыцыны і ветэрынарыі, а таксама сказы і паданні пра асілкаў.

З фальклорных прац М. Нікіфароўскага заслугоўвае ўвагі першы буйны зборнік беларускіх частушак «Беларускія песні-частушкі» (1911), выдадзены ўжо пасля смерці збіральніка – зборнік змяшчае 2356 частушак, сабраных М. Нікіфароўскім і яго карэспандэнтам у 1860–1905 гг., і дапамагае прасачыць працэс развіцця частушачнага жанру з сяр. XIX да пач. XX ст. Таксама М. Нікіфароўскі ўкадальнік зборнікаў «Простанародныя загадкі» (1898), «Нячысцікі. Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу» (1907, 2-е выд. Віцебск, 1995), «Напаўпрыказкі і напаўпрыслаўкі» (1928) і інш.

Макалай Якаўлевіч абкалясіў прыдзвінскі край уздоўж і ўпоперак.



**18 студзеня** – 60 гадоў таму (1955) нарадзілася Скрыпчанка Таццяна Сяргееўна, беларускі гісторык, археолаг, кандыдат гістарычных навук, ураджэнка г. Мінска. Абследавала помнікі археалогіі на тэрыторыі Віцебскай вобласці.

**20 студзеня** – 70 гадоў таму (1945) нарадзілася Бальчэўская Галіна Францаўна (1945–2005), беларуская актрыса, ураджэнка в. Палессе Мядзельскага раёна. Працавала ў Беларускім тэатры імя Я. Коласа.

**22 студзеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Лісіца Іван Ігнатавіч, беларускі мастак, выкладаў у Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава.

**23 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Кудзіенка Анатоль Дзмітрыевіч (1940–210), беларускі архітэктар, педагог, кандыдат архітэктуры, ураджэнец с. Ленінскае Хабараўскага краю (Расія). Да асноўных яго работ адносяць праекты жылых дамоў у г. Шклове, г. п. Барань Аршанскага раёна і інш.

**23 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Ізобаў Мікалай Аляксеевіч, беларускі матэматык, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, акадэмік НАН Беларусі, член-карэспандэнт, ураджэнец в. Красыні Лёзненскага раёна.

**24 студзеня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Цітоў Міхаіл Севасцьянавіч (1925–2008), удзельнік партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны работнік прамысловасці БССР, ураджэнец в. Вялікае Лосвіда Гарадоцкага раёна.

**25 студзеня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзілася Марыненка Таццяна Васілеўна (1920–1965), Герой Савецкага Саюза, ураджэнка в. Сухі Бор Полацкага раёна.

**27 студзеня** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Ахола-Вало Александэры (Аляксандр Пятровіч 1900–1997), мастак, ураджэнец Санкт-Пецярбурга, некаторы час жыў у Віцебску.

**28 студзеня** – 130 гадоў таму (1885) нарадзіўся Дубіна Антон Васілевіч (1885–1937), дзяржаўны дзеяч Беларусі, ураджэнец г. Веліж Віцебскай губерні, зараз Смаленская вобласць Расіі.

**28 студзеня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Герасімаў Рыгор Пятровіч (1905–1961), адзін з кіраўнікоў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну.

**28 студзеня** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Баталаў Рыгор Міхайлавіч (1915–1988), генерал-лейтэнант, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец г. Віцебска.

**28 студзеня** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Дайнэка Леанід Мартынавіч, беларускі пісьменнік, працаваў на Віцебскай абласной студыі тэлебачання.

**29 студзеня** – 295 гадоў таму (1720) нарадзіўся Багамолец Францішак (1720–1784), польскі драматург, публіцыст, ураджэнец Віцебшчыны.

**29 студзеня** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Ярмоленка Мікалай Фёдаравіч (1900–1972), беларускі хімік, прафесар, доктар хімічных навук, акадэмік НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навук Беларусі, ураджэнец в. Клюкаўка Аршанскага раёна.



духоўнае вучылішча. З 1860–х гадоў Мікалай Якаўлевіч сваё жыццё і дзейнасць поўнасцю прысвячае вывучэнню побыту і культуры Беларусі.

У ліпені 1861 года М. Нікіфароўскага як лепшага вучня з духоўнага вучылішча перавялі ў Віцебскую семінарыю. У семінарыі М. Нікіфароўскі захапіўся кнігамі: біяграфіямі герояў вайны 1812 г., падарожжамі, выпісваў у сшыткі выказванні, выразы, старажытныя народныя вераванні і забабоны. Рыхтуючыся стаць святаром, М. Нікіфароўскі збіраў матэрыялы для барацьбы з перажыткамі паганства. Пасля заканчэння семінарыі (1867) яму прапанавалі паступіць у Пецярбургскую духоўную акадэмію за свой кошт, але грошай не было і ніхто з блізкіх не мог дапамагчы. Пасля смерці маці гаспадарка заняпала, М. Нікіфароўскі прасіў у архірэя дапамогу і месца свяшчэнніка, але атрымаў адмову. М. Нікіфароўскі вырашыў стаць настаўнікам і пасля 1,5-месячнай падрыхтоўкі быў прызначаны выкладчыкам народнага вучылішча ў в. Лоўжа. Большую частку жыцця М. Нікіфароўскі працаваў у навучальных установах Віцебска, але вышэй настаўніка падрыхтоўчага класа гімназіі ці семінарыі яго кар’ера не пайшла.

Нікіфароўскі пакінуў багатую спадчыну па этнаграфічнаму вывучэнню Віцебшчыны, асабліва плённую пасля знаёмства з П. В. Шэйнам. М. Нікіфароўскі больш за 20 гадоў супрацоўнічаў з П. Шэйнам як карэспандэнтам, даслаў яму значную колькасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, але ў выданнях П. Шэйна змешчаная толькі іх частка, астатняе перадана ў архіў Акадэміі навук. М. Нікіфароўскаму фальклорна-этнаграфічныя зборнікі П. Шэйна ў значнай ступені абавязаныя сваёй навуковай каштоўнасцю. Пры гэтым, М. Нікіфароўскамі не меў ніякай карысці, адно што хацеў каб усё ім сабранае ўбачыла свет.

У 1890 годзе М. Нікіфароўскі стаў сябрам Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (ТАПЭ) пры Маскоўскім універсітэце і рэдактарам часопіса «Этнографическое обозрение», пачаў выступаць з самастойнымі працамі. Апублікаваў каля 20 даследаванняў

4. **Салтук, А.** Напісанае застаецца / А. Салтук // Віцебскі рабочы. — 2005. — 30 крас. — С. 4.

5. **Шнейдер, А.** Драматург, прозаик, историк / А. Шнейдер // Наша Талачыншчына. — 2005. — 7 мая. — С. 6.



## НІКІФАРОЎСКІ МІКАЛАЙ ЯКАЎЛЕВІЧ

Да 170-годдзя з дня нараджэння (1845)

Нікіфароўскі Мікалай Якаўлевіч нарадзіўся 17 мая 1845 года ў вёсцы Вымна Віцебскага раёна. Беларускі этнограф і фальклярыст.

Нарадзіўся ў сям'і панамара вясковай царквы. Сям'я жыла бедна, блізка да жабрацтва, але маці імкнулася даць двум сынам і дачцэ пачатковую адукацыю. Першымі настаўнікамі М. Нікіфароўскага былі выпадковыя людзі: адстаўны салдат, хросны бацька, пісьменны падлетак, манах, сельскі святар. У 1854–1855 гг. у панскім маёнтку была арганізавана школа для дзяцей сялян, дзе выкладаў зволены гімназіст Віцебскай гімназіі, бацькі ўладкавалі М. Нікіфароўскага ў гэту школу. Яшчэ адным настаўнікам М. Нікіфароўскага быў Іван Зазубовіч, былы слухач Віцебскага духоўнага вучылішча. І. Зазубовіч падрыхтаваў М. Нікіфароўскага да паступлення ў Віцебскі архірэйскі хор, а потым – у



**29 студзеня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Кузняцоў Міхаіл Ціханавіч (1925–1944), Герой Савецкага Саюза, удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, ураджэнец Разанскай вобл. (Расія).

## Люты

**5 гадоў** таму (2010) заснавана праграма раённага радыё «Дубровенскае радыёвяшчанне» ў г. Дуброўна.

**2 лютага** – 75 гадоў таму (1940) нарадзілася Салдатава (у дзявоцтве Баранава) Святлана Іосіфаўна, беларуская спартсменка (фехтаванне на рапірах), ураджэнка г. Віцебска.

**4 лютага** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Багданаў Рыгор Багданавіч (1910–1943), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Марцюшы Гарадоцкага раёна.

**7 лютага** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Мядзведзеў Аляксандр Міхайлавіч, беларускі археолаг, ураджэнец г. Мінска. Праводзіў археалагічныя даследаванні на гарадзішчах Глыбокае і Запруддзе Глыбоцкага, Рацюнкі Браслаўскага раёнаў.

**8 лютага** – 205 гадоў таму (1810) нарадзіўся Хруцкі Іван Фаміч (1810–1885), беларускі жывапісец, акадэмік жывапісу, ураджэнец п. Ула Бешанковіцкага раёна.

**8 лютага** – 160 гадоў таму (1855) нарадзіўся Гласко Іван Антонавіч (1855–1881 псеўданім Рапацкі), дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст, ураджэнец Полацкага павета.

**8 лютага** – 50 гадоў таму (1965) нарадзілася Баранкоўская Святлана Аляксандраўна, беларуская мастачка, ураджэнка Калужскай вобласці (Расія). Скончыла Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны тэхнікум і Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт.

**10 лютага** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Кузьмін Андрэй Канстанцінавіч, беларускі трэнер (веласіпедны спорт, шасэйныя гонкі), ураджэнец в. Загараддзе Талачынскага раёна.

**12 лютага** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Агейчанка Фёдар Яфімавіч (1905–1954), беларускі і расійскі вучоны ў галіне паталагічнай анатоміі, ураджэнец п. Выдрэя Лёзненскага раёна.

**12 лютага** – 80 гадоў таму (1935) адноўлены Ветрынскі раён у складзе Полацкай акругі, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў БССР (1924–1931, 1935–1960 гг.). З 1960 г. яго тэрыторыя перададзена ў склад Ушацкага і Полацкага раёнаў.

**12 лютага** – 80 гадоў таму (1935) утвораны Мехаўскі раён, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, якая ўключала 15 сельсаветаў, выдзеленых з Гарадоцкага раёна. 18.03.1958 – перайменаваны ў Езярышчанскі раён.



«Куды ноч, туды сон» (1987). Гістарычная хроніка «Змова» (напісана ў 1983, ставілася ў Крымскім тэатры) прысвечана падзеям Кастрычніка. У гэты ж час Алесь Петрашкевіч працаваў і над п'есай «Мой друг, Вялікі Чалавек» (напісана ў 1984–1985). Гэта даследаванне складаных адносін У. Леніна і М. Горкага. У 1987 на беларускім радыё па п'есе пастаўлены спектакль. Алесь Петрашкевіч звяртаўся і да тэмы Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху (трагедыя «Злавеснае рэха», 1984, пастаўлена Магілёўскім абласным тэатрам драмы і камедыі). Да 40-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне Беларускі тэатр юнага гледача паставіў у многім біяграфічную драму «У спадчыну – жыццё». Тэме партызанскай і падпольнай барацьбы моладзі прысвечаны пяцісерыйны тэлевізійны фільм «Нас выбраў час» (1976–1978, сцэнарый А. Петрашкевіча і У. Халіпа). Аўтар сцэнарыя мастацкай кінастужкі «Нядзельная ноч» (1977), лібрэта оперы «Новая зямля» паводле паэмы Я. Коласа (пастаўлена Беларускім тэатрам оперы і балета; тая ж паэма была інсцэніравана для Беларускага радыётэатра), гістарычнай драмы пра Ф. Скарыну «Прарок для Айчыны» (у 1992 па ёй пастаўлены тэлеспектакль у дзвюх частках). Творам драматурга ўласцівы публіцыстычнасць, сцэнічнасць, дынамізм сюжэта, вострая інтрыга, дакладнасць моўнай характарыстыкі вобразаў, спалучэнне народнага гумару са з'едлівай сатырай. Выступаў у друку з фельетонамі і публіцыстычнымі артыкуламі.

Памёр у 2012 г.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Алесю** Петрашкевічу-80 // Наша слова. — 2010. — 28 крас. — С. 1.

2. **Маляўка, П. І.** Петрашкевіч Алесь / П. І. Маляўка // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. / пад рэд. А. В. Мальдзіса. — Мн. : БелЭн імя П. Броўка, 1995. — Т. 5. — С. 13—17.

3. **Пісьменнік** і энцыклапедыст // Краязнаўчая газета. — 2005. — № 16 (красавік). — С. 4.

адказны сакратар, у 1973–1975 і ў 1979–1991 намеснік галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Экцыклапедыі. З 1991 кіраўнік арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяць» пры Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Сябра Рады СП Беларусі (з 1991). Старшыня Беларускага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур (з 1991).

Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Вярхоўнага Савета УССР, медалём Ф. Скарыны, іншымі медалямі.

Творчы почарк Алеся Петрашкевіча як публіцыста, фельетаніста і сатырыка пачаў складвацца ў 50-я гады (першая публікацыя ў рэспубліканскім друку датуецца 1954). Пільнае вока, добры стыль, трапнае слова вылучалі яго праблемныя публікацыі. Першы мастацкі твор – сатырычнае апавяданне «Кары егіпецкія», з якога потым нарадзілася камедыя «Адкуль грэх» (1970, пастаўлена Беларускім тэатрам імя. Я. Купалы). «Праблема веку» (алкагалізм, бюракратызацыя апарата кіравання), Разбурэнне прыроды і эрозія маральных устояў грамадства раскрываецца ў драмах «Трывога» (1974, пастаўлена Беларускім тэатрам імя Я. Коласа, іншымі тэатрамі Беларусі і за яе межамі), «Соль» (1981, ставілася Рускім драматычным тэатрам БССР, у тэатрах Украіны), сатырыстычных камедыях «Злыдзень» (1974, пастаўленна Магілёўскім абласным тэатрам драмы і трагедыі) і «Укралі кодэкс» (1976, ставілася ў Гомельскім абласным драматычным тэатры, у тэатрах Віцебска, Брэста, Харкава і інш.).

Распрацоўваў гістарычную тэматыку. П’еса «Напісанае застанецца» (1979, пастаўлена ў Беларускім тэатры імя Я. Купалы і ў Гродне) расказвае пра дзейнасць Ф. Скарыны.

У трагедыі «Русь Кіеўская» («Гора і слава, 1982, пастаўлена Крымскім рускім драматычным тэатрам) асвятляецца перыяд хрышчэння Русі, паказваецца трагізм і непазбежнасць рашучай ломкі старых устояў і звычаяў. Аўтар драмы «Мост упоперак ракі» (1986), п’есы-фантасмагорыі



**14 лютага** – 95 гадоў таму (1920) у Віцебскай мастацкай школе пад кіраўніцтвам К. Малевіча і Л. Лісіцкага створана суполка мастакоў-наватараў «УНОВИС» («Утвердители нового искусства»).

**15 лютага** – 30 гадоў таму (1985) нарадзілася Кадушкевіч Юлія Раманаўна, беларуская актрыса, ураджэнка г. Віцебска.

**16 лютага** – 250 гадоў таму (1765) нарадзіўся Мусніцкі Нікодым (1765–1805), польскі паэт, драматург, гісторык, педагог, ураджэнец Літвы. Выкладаў рыторыку, французскую мову і філасофію ў Мсціславе і Віцебску. З 1800 працаваў выкладчыкам тэалогіі ў Полацкім езуіцкім калегіуме.

**19 лютага** – 125 гадоў таму (1890) нарадзіўся Сваяк Казімір (1890–1926 сапраўднае Стаповіч Канстанцін Мацвеевіч), пісьменнік, рэлігійны і грамадскі дзеяч, ураджэнец Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Служыў ксяндзом у в. Камаі Пастаўскага раёна.

**19 лютага** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Нікалаеў Віктар Мікалаевіч, беларускі мастак, ураджэнец г. Мінска, сярод твораў якога маюцца і прысвечаныя Віцебшчыне: «Віцебская львіца» (1989) і «Абуджэнне Дзвіны» (1997).

**20 лютага** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Ілазараў Ісай Ілазаравіч (1920–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**20 лютага** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Глазуноў Пётр Аляксеевіч (1920–1992), лётчык, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Петрачкі Віцебскага раёна.

**24 лютага** – 420 гадоў таму (1595) нарадзіўся Сарбеўскі Мацей Казімір (1595–1640), лацінамоўны паэт Польшчы, Беларусі і Літвы, тэарэтык літаратуры, філосаф, тэолаг, ураджэнец Мазавецкага ваяводства (Польшча). Працаваў у Полацкім і Нясвіжскім езуіцкім калегіумах, Віленскай акадэміі.

**24 лютага** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Барадулін Рыгор Іванавіч (1935–2014), народны паэт Беларусі, перакладчык, ураджэнец в. Гарадок Ушацкага раёна.

**25 лютага** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Кляшчоў Аляксей Яўхімавіч (1905–1968), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, партызан і падпольшчык, дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР, Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр.

**27 лютага** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Бараноўскі Альгерд Антонавіч, партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі, ураджэнец г. Магілёва. Працаваў у Віцебску.

**27 лютага** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Лук'янаў Віктар Міхайлавіч, беларускі акварэліст, ураджэнец в. Власава Віцебскага раёна.



# *Май*



**ПЕТРАШКЕВІЧ АЛЕСЬ**

Да 85-годдзя з дня нараджэння (1930)

Алесь Петрашкевіч (Аляксандр Лявонавіч; псеўданім Алесь Аляксееў, Алесь Тутэйшы) нарадзіўся 1 мая 1930 года ў весцы Пярэвалачня Талачынскага района Віцебскай вобласці. Драматург, празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1974. Член Саюза журналістаў Беларусі з 1961. Кандыдат гістарычных навук (1967). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976; за ўдзел у выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі).

Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Алесь Петрашкевіч скончыў 3 класы пачатковай школы. У 1948 скончыў Забалоцкую сямігадовую, у 1951 – Кохانаўскую сярэднюю школу. У 1955 скончыў БДУ, атрымаў дыплом юрыста. З 1954 працаваў у ЦК ЛКСМБ інструктарам, загадчыкам лектарскай групы, намеснікам загадчыка аддзела. З 1961 у ЦК КПБ: інструктар, загадчык сектара (1963–1967), загадчык аддзела культуры (1976–1979). Рэктар Мінскага інстытута культуры (1975–1976). З 1967

Адэса), срэбраны прызёр у індывідуальным і камандным ката (1994, Анкара; 1998, Німбурк, Чэхія), бронзавы прызёр (1998, Вроцлаў; 1999, Кадзіс, Іспанія).

Мае афіцыйныя прызы: «Лучшая спортсменка чемпионатов мира» (2000, Токіа), Еўропы (2001, Тбілісі). Усяго на чэмпіянатах свету і Еўропы 1994–2004 Вількіна заваявала 33 медалі: 22 залатыя, 6 срэбраных, 5 бронзавых (2004). Чэмпіёнка СССР, СНД (5-кратная), Усх. Еўропы (9-кратная), Літвы, Македоніі, Расіі, Украіны, Беларусі (46-краная) па каратэ. Мнагакратная пераможца міжнародных спаборніцтваў. Трэнеры па каратэ-до: В. Б. Кірыенка (1977–78), А. Я. Вількін (з 1979).

Чэмпіёнка, уладальніца Кубка Беларусі па акрабатыцы.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Борисевич, А.** О женщине, которая бьет / А. Борисевич // Прессбол. — 1995. — 7 марта. — С. 3.

2. **Вилькина** Светлана Борисовна // Спортивная энциклопедия Беларуси / редкол.: Г. П. Пашков (гл.ред.) [и др.]. — Мн. : БелЭн им. П. Бровки, 2005. — С. 110.

3. **Лысоконь, О.** Кимоно красавицам к лицу / О. Лысоконь // Беларусь. — № 3. — 1999. — С. 48—49.

4. **Старасценка, У.** Каратэ — любоў і натхненне / У. Старасценка // Культура. — 19—25 студз. — 2002. — С. 11.



**27 лютага** – 50 гадоў таму (1965) нарадзіўся Азаронак Юрый Уладзіміравіч, беларускі рэжысёр дакументальнага кіно, ураджэнец в. Рудня Гарадоцкага раёна.

**28 лютага** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Бабаедаў Іван Цімафеевіч (1925–2002), беларускі мастак, ураджэнец в. Бабаедава Бешанковіцкага раёна.

## Сакавік

**1 сакавіка** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Вялікі Зіновій Сямёнавіч (1900–1983), беларускі акцёр, рэжысёр, ураджэнец Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Коласа.

**1 сакавіка** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Яцкевіч Уладзімір Уладзіміравіч, беларускі навуковец у галіне трактарнага і дарожнага машынабудаўніцтва, доктар тэхнічных навук, прафесар, ураджэнец в. Пліскі Полацкага раёна.

**2 сакавіка** – 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Юсікаў Васілій Раманавіч, прафсаюзны дзеяч, з 2000 г. намеснік генеральнага дырэктара трэста №9 г. Віцебска, ураджэнец в. Замошша Віцебскага раёна. З верасня 2002 г. старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў.

**3 сакавіка** – 300 гадоў таму (1715) нарадзіўся Смагаржэўскі Ясон (1715–1788), уніяцкі царкоўны дзеяч, архіепіскап полацкі, віцебскі, мсціслаўскі, аршанскі і магілёўскі, ураджэнец Ваўкавыскага павета Вялікага Княства Літоўскага. З 1746 г. адміністратар Полацкай архіепархіі.

**3 сакавіка** – 75 гадоў таму (1940) створаны Віцебскі абласны партыйны архіў у адпаведнасці з прынятай ЦК КП(б)Б пастановай «Аб арганізацыі абласных партыйных архіваў».

**3 сакавіка** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Ладысеў Уладзімір Фёдаравіч, беларускі гісторык, доктар гістарычных навук (1989), прафесар (1990), ураджэнец в. Вялікая Дзяцель Дубровенскага раёна.

**5 сакавіка** – 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Каваленя Аляксандр Дзмітрыевіч (1895–1937), беларускі археолаг, ураджэнец в. Кашніцы Гродзенскага павета. Праводзіў даследаванні помнікаў жалезнага веку ў басейне рэк Днепр, Заходняя Дзвіна (Віцебскі, Гарадоцкі, Аршанскі раёны) і Сож. У 1926–1928 гг. арганізаваў 4 археалагічныя экспедыцыі: на Тураўшчыну, у басейн р. Свіслач, у Дубровенскі і Ушацкі раёны.

**6 сакавіка** – 35 гадоў таму (1980) нарадзіўся Жарнасек Аляксей Валер`евіч, заслужаны майстар спорту Беларусі (2009), Чэмпіён свету і Еўропы, уладар Кубка свету (2009 – у фігурным катанні), рэкардсмен свету (2005), ураджэнец г. Наваполацка.





**ВІЛЬКІНА**
**СВЯТЛАНА БАРЫСАЎНА**
55 год з дня нараджэння (1960)

Вількіна Святлана Барысаўна нарадзілася 1 красавіка 1960 года ў Віцебску. Беларуская спартсменка і трэнер (шатакан каратэ-до). Майстар спорту СССР па акрабатыцы (1976), майстар спорту Беларусі па каратэ (1993), майстар спорту Беларусі міжнароднай класіфікацыі па каратэ (1995). Заслужаны майстар спорту Беларусі па каратэ (1999). 5-ы дан (2002). Суддзя нацыянальных (1994) і міжнародных (1998) катэгорый. Скончыла Беларускі інстытут фізічнай культуры (1981). З 1992 у БІТУ, старшы выкладчык. З 1994 года тэхнічны дырэктар і старшы трэнер у раздзеле ката Беларускай федэрацыі шатакан каратэ-до. З 1996 галоўны інструктар клуба «Академия каратэ», з 2002 – «Барс» (Мінск).

Чэмпіёнка свету ў асабістым ката (1997 і 2000 – Токіа; 2002, Штральзунд, Германія), у камандным ката (1999, Масква; 2001, Рыга), у мікст ката (2000, Токіа; 2002, Штральзунд). Срэбраны прызёр чэмпіянатаў свету ў асабістым і камандным ката (1997, Арэцца, Італія; 2000, Токіа; 2002, Штральзунд), бронзавы прызёр у індывідуальным і камандным ката (1997, Токіа; 1999, Бохум, Германія; 2001, Рыга). Чемпіёнка Еўропы ў індывідуальным ката (1998, Штральзунд; 2001, Тбілісі; 2003, Кіеў), у камандным ката (1998, Штральзунд; 1998, г. Вроцлаў, Польшча; 2001, Тбілісі; 2003, Кіеў; 2004, г. Адэса,Украіна), у мікст ката (1998, Штральзу 2001, Тбілісі; 2003, Кіеў), у індывідуальным ката сярод ветэранаў (2001, Тбілісі; 2003, Кіеў 2004, Адэса), у камандным ката сярод ветэранаў (2004,

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Вуль** (Францішак Элегій Карафа-Корбут), (1835—1880-я гады) // Пачынальнікі : з гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мн. : Беларуская навука, 2003. — С. 367—376.

2. **Вуль** Ялегі Пранціш // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. / рэдкал.: І. Э. Багдановіч [і інш.]. — Мн., 1993. — Т. 2. — С. 52—53.

3. **Вуль, Я. П.** К дудару Арцёму ат наддзвінскага мужыка / Я. П. Вуль // Пачынальнікі : з гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мн. : Беларуская навука, 2003. — С. 262—263.

4. **Вуль, Я. П.** Няновая думка / Я. П. Вуль // Пачынальнікі : з гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мн. : Беларуская навука, 2003. — С. 263—264.

5. **Запрудскі, І.** «Што пасееш, будзе цэла...»: Вуль, ці Францішак Элегій Карафа-Корбут (1835—пасля 1863) / І. Запрудскі // Настаўніцкая газета. — 2005. — 16 крас. — С. 7.

6. **Запрудскі, І.** Ялегі Пранціш Вуль і пытанне атрыбуцыі паэмы «Тарас на Парнасе» / І. Запрудскі // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. — Мн., 2004. — Вып. 5. — С. 49—62.

7. **Вуль** Ялегі Пранціш [Электронны рэсурс] // Прыдзвінскі край: гісторыя і сучаснасць. — Рэжым доступу: http://vlib.by/pridvinie/index.php/mtree-lib/pismenniki-paety-litaratary/vul-yalegi-prantsish. — Дата доступу: 14.12.2014.



**8 сакавіка** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Логінаў Уладзімір Фёдаравіч, беларускі і расійскі навуковец у галіне кліматалогіі і геаэкалогіі, акадэмік НАН Беларусі, доктар геаграфічных навук, прафесар, ураджэнец в. Зеляноўка Гарадоцкага раёна.

**9 сакавіка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Ляўковіч Міхаіл Васілевіч, беларускі мастак, ураджэнец в. Язна Міёрскага раёна. З 1976 г. выкладае ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава.

**10 сакавіка** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Марачкін Аляксей Антонавіч (Алесь МАRА), жывапісец, графік, ураджэнец в. Новая Слабада Чэрыкаўскага раёна. Вучыўся ў Віцебскім педагагічным інстытуце.

**12 сакавіка** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Гаравец Аляксандр Канстанцінавіч, Герой Савецкага Саюза, намеснік камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка, старшы лейтэнант.

**12 сакавіка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Шафранскі Якаў Міхайлавіч, беларускі навуковец у галіне матэматычнай кібернетыкі і інфарматыкі, кандыдат фізіка-матэматычных навук, ураджэнец г. Віцебска.

**12 сакавіка** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Чарняўскі Ігар Мяфодзевіч, беларускі археолаг архітэктуры, ураджэнец г. Чачэрска Гомельскай вобласці. Вёў раскопкі мураваных пабудоў 12–18 стст. грамадзянскага характару ў г. Віцебску.

**14 сакавіка** – 125 гадоў таму (1890) нарадзіўся Сюбараў Аляксей Яфімавіч (1890–1978), беларускі навуковец у галіне пладаводства і селекцыі, ураджэнец в. Белікі Віцебскага раёна.

**15 сакавіка** – 165 гадоў таму (1850) нарадзіўся Савіч-Заблоцкі Войслаў (1850–1893), паэт, празаік, публіцыст ураджэнец маёнтка Панчаны Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Міёрскі раён).

**15 сакавіка** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Алфёраў Жарэс Іванавіч, расійскі фізік, заснавальнік фізікі і электронікі паўправадніковых гетэраструктур. Акадэмік Расійскай АН, лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

**16 сакавіка** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Сямёнаў Уладзімір Іванавіч (1905–1996) у г. Віцебску, інжынер, краязнаўца, пачэсны грамадзянін г. Петрапаўлаўска-Камчацкага, майстар спорту СССР па турызме, сапраўдны член Камчацкага аддзялення Рускага Геаграфічнага таварыства, знаўца і папулярызатар Камчаткі, заснавальнік спартыўнага турызму на Камчатцы.

**19 сакавіка** – 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Касабуцкі Іван Сцяпанавіч (1895–1974), генерал-лейтэнант, удзельнік грамадзянскай вайны, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнец г. Сянно.



# *Красавік*

**ВУЛЬ**

**ЯЛЕГІ ПРАНЦІШ**

Да 180-годдзя з дня нараджэння (1835)

Сапраўднае імя Карафа-Корбут Элігій Францішак Маўрыкіевіч – беларускі паэт. Нарадзіўся 9 (21) красавіка 1835 года ў Віцебску ў сям'і дробнага чыноўніка. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі, але не скончыў сёмы выпускны клас. У 1856–1862 гг. працаваў пісарам у Віцебскай палаце дзяржаўных маёмасцей. За ўдзел у паўстанні 1863–1864 гг. разам з бацькам і братам быў сасланы ў Сібір. Апошнія гады жыў у Варшаве, дзе з В. Каратынскім і А. Плугам стварыў беларускі гурток.

Як паэт фарміраваўся пад уплывам А. Вярыгі-Дарэўскага. У 1859 годзе ўпісаў у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага свой адзіны вядомы на беларускай мове верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка» – узор беларускай грамадзянскай лірыкі сярэдзіны 19 ст., які яскрава выяўляе талент і дэмакратычныя пазіцыі аўтара. Ад імя прыгоннага беларускага селяніна Вуль вітаў творчасць і дзейнасць Вярыгі-Дарэўскага, накіраваную на абарону і асвету працоўнага народа. Верш адметны дасканаласцю формы, паэтычнай сімволікай, натуральнасцю і чысцінёй мовы. Менш арыгінальны яго польскі верш «Няновая думка» (1859), таксама ўпісаны ў «Альбом». Творы Вуля пры жыцці не друкаваліся. Верш «К дудару Арцёму...» ўпершыню апублікаваны ў «Нашай ніве» (09.11.1912).

Памёр пасля 1880 года.

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Алимова, Е.** «Я молодая женщина!» / Е. Алимова // Витебский проспект. — 2005. — 18 марта. — С. 18.

2. **Волкова, Л.** Тепло ее души / Л. Волкова // Витьбичи. — 2005. — 17 марта. — С. 11.

3. **Иванова, Г.** Еще не вечер! / Г. Иванова // Народнае слова. — 2010. — 30 сак. — С. 5.

4. **Палунчанка, В.** Творчы тандэм / В. Палунчанка // Бібліятэка прапануе. — 2012. — № 7. — С. 31—33.

5. **Пастернак, Т.** Творческий юбилей / Т. Пастернак // Народнае слова. — 2008. — 26 студз. — С. 5.

6. **Потенкова, С.** О том, что сердцу мило / С. Потенкова // Народнае слова. — 2009. — 16 мая. — С. 5.




**21 сакавіка** – 100 гадоў тому (1915) нарадзілася Курдзянок Зінаіда Валянцінаўна (1915–1985), беларуская актрыса, заслужаная артыстка Беларусі (1976), ураджэнка г. Віцебска.

**21 сакавіка** – 85 гадоў тому (1930) нарадзілася Бабарыка Маіна Максімаўна, беларуская пісьменніца, ураджэнка г. Віцебска.

**23 сакавіка** – 110 гадоў тому (1905) нарадзіўся Базылевіч Аляксандр Мікіціч (1905–1987), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, партыйны дзеяч Беларусі, ураджэнец в. Гарадзец Бешанковіцкага раёна.

**24 сакавіка** – 110 гадоў тому (1905) нарадзіўся Флёраў Іван Андрэевіч (1905–1941), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Расійскай Федэрацыі, ураджэнец в. Двурэчкі Ліпецкай вобласці (Расія).

**26 сакавіка** – 100 гадоў тому (1915) нарадзіўся Мацюшонак Міхаіл Міхайлавіч (1915–1978), Герой Сацыялістычнай Працы, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнец хут. Пятроўшчына Глыбоцкага раёна.

**28 сакавіка** – 75 гадоў тому (1940) нарадзіўся Платонаў Канстанцін Міхайлавіч, грамадскі дзеяч Беларусі, генерал-маёр міліцыі, кандыдат эканамічных навук, ураджэнец Бранскай вобласці (Расія). Скончыў Віцебскі педагагічны ін-т. Настаўнічаў у Верхнядзвінскім раёне. Працаваў у Віцебску.

**29 сакавіка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзілася Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна, беларуская пісьменніца, паэтэса, драматург, ураджэнка в. Слабодка Браслаўскага раёна.

## Красавік

**55 гадоў** таму (1960) заснавана Тэлерадыёкампанія «Віцебск».

**1 красавіка** – 55 гадоў таму (1960) нарадзілася Вількіна Святлана Барысаўна, беларуская спартсменка і трэнер (шатакан каратэ-до), заслужаны майстар спорту Беларусі па каратэ-до, майстар спорту СССР па акрабатыцы, ураджэнка г. Віцебска.

**4 красавіка** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Шацько Вячаслаў Іванавіч, гісторык, ураджэнец в. Замасточча Чашніцкага раёна.

**5 красавіка** – 60 гадоў таму (1955) нарадзілася Сухадольская Вера Пятроўна, мастак, займаецца аднаўленнем традыцый маляванак, ураджэнка г. Віцебска.

**5 красавіка** – 50 гадоў таму (1965) нарадзілася Парамыгіна Святлана Вячаславаўна, беларуская спартсменка (біятлон), выхаванка Віцебскай абласной СДЮШАР прафсаюзаў па зімовых відах спорту «Алімпіец», заслужаны майстар спорту Беларусі, срэбны прызёр XVII зімовых Алімпійскіх гульняў, чэмпіёнка Еўропы і свету.





**БАБАРЫКА**
**МАІНА МАКСІМАЎНА**

85 год з дня нараджэння (1930)

Нарадзілася 21 сакавіка 1930 года ў г. Віцебску ў сям'і служачых. Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі (2005), член Саюза журналістаў СССР (1971) і Саюза журналістаў Беларусі (1976), дзіцячая пісьменніца, паэтэса.

Дзяцінства Маіны Бабарыкі выпала на гады Вялікай Айчыннай вайны. Яе сям'я была эвакуіравана ў татарскую вёску Урсала. Вярнулася ў Віцебск, вучылася ў СШ № 10, пасля – у школе рабочай моладзі пры фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі». У 1968 годзе скончыла Віцебскі педінстытут, факультэт пачатковых класаў. Працавала на Віцебскай студыі тэлебачання, узначальвала рэдакцыю праграм для дзяцей і юнацтва (1965–1985).

Першая публікацыя, якую Маіна Максімаўна лічыць пачаткам сваёй творчасці, – вершы ў фабрычнай шматтыражцы «Сцяг індустрыялізацыі» (1953). Піша на рускай мове. Аўтар кніг: «Книжкина неделя» (1964); «Непоседы» (1965); «Про Светку и её друзей» (1967); «За круглым оконцем» (1972); «А у нас во дворе» (1974); «Возвращение в юность» (1996); «Бабушкины сказки» (2003), «Сны наяву» (2003), «Забор» (2005), «Как заболела и поправилась телепередача» (2007), «Шорох времени» (2010).

Узнагароджана памятным знакам ЦК УЛКСМ за эстэтычнае і ідэалагічнае выхаванне дзяцей і моладзі (1968), бронзавым медалём ВДНГ СССР за цыкл перадач пра людзей і калектывы Віцебшчыны – удзельнікаў ВДНГ (1975), медалём Саюза пісьменнікаў Беларусі «За большой вклад в литературу» (2014).

дацэнтам Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава. З 1985 года – загадчык кафедры грамадскіх, пазней – гуманітарных навук Акадэміі фізічнага выхавання і спорту. З верасня 1994 года працуе ў БДУ, у 1996–2012 гг. – прафесар кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу гістарычнага факультэта БДУ. Званне доктара гістарычных навук прысвоена ў 1989 годзе, прафесара – у 1990 годзе.

Даследуе гісторыю міжваеннай Польшчы, нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, дзейнасць палітычных партый і арганізацый, праблемы нацыянальнай дзяржаўнасці Беларусі. Упершыню ў гістарычнай навуцы ажыццявіў сістэмную рэканструкцыю дзейнасці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі па арганізацыі барацьбы працоўных за дэмакратычныя правы і свабоды ў 1926–1938 гг. З'яўляецца аўтарам больш за 200 навуковых прац.

Мае ўзнагароды: медаль «За освоение целинных земель»; нагрудны знак «Отличник высшей школы»; стыпендыят Прэзідэнта РБ (2003).

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Дудараў, Л.** Прафесар гісторыі з вёскі Дзяцель / Л. Дудараў // Дняпроўская праўда (Дуброўна). — 2000. — 15 ліп. — С. 3.

2. **Каханоўскі, А.** Даследчык гісторыі Беларусі міжваеннага часу: (да 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Фёдаравіча Ладысева) / А. Каханоўскі // Беларускі гістарычны часопіс. — 2010. — № 3. — С. 37—39.

3. **Ладысев** Владимир Фёдорович // Историки Беларуси в начале XXI столетия : биобиблиографический справочник / Г. В. Корзенко. — Мн. : Беларуская наука, 2007. — С. 214—215.

4. **Ладысев** Владимир Фёдорович // Регионы Беларуси : энциклопедия : в 7 т. / редкол.: Т. В. Белова (гл. ред.) [и др.]. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 2011. — Т. 2 : в 2 кн. Кн. 2. — С. 21—22.

5. **Стралец, М.** Уладзімір Фёдаравіч Ладысеў: партрэт вучонага і педагога // Гісторыя: праблемы выкладання. Серыя «У дапамогу педагогу». — 2010. — № 3. — С. 62—63.



**6 красавіка** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Шапіра Фёдар Львовіч, член-карэспандэнт АН СССР, прафесар, фізік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, ураджэнец г. Віцебска.

**7 красавіка** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Тараткевіч Міхаіл Васілевіч, беларускі філосаф, сацыёлаг, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, доктар філасофскіх навук, ураджэнец в. Чарсцвяды Ушацкага раёна. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху.

**9 красавіка** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Нікалаеў Аляксандр Аляксандравіч (1925–2006), беларускі навуковец у галіне паталагічнай анатоміі, доктар медыцынскіх навук, прафесар, супрацоўнік Віцебскага медыцынскага ўніверсітэта (1956–2001), ураджэнец г. Віцебска.

**11 красавіка** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Глебаў Аляксандр Міхайлавіч (1955–2008), беларускі фотамастак, жыў у Віцебску.

**12 красавіка** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Судакоў Міхаіл Паўлавіч (1920–1943), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**14 красавіка** – 100 гадоў таму (1915) нарадзілася Дубкова Марыя Лукінічна (1915–1989), прафсаюзны дзеяч, ураджэнка г. Полацка.

**14 красавіка** – 75 гадоў таму (1940) нарадзілася Астаповіч Наталля Іванаўна (1940–2005), беларускі вучоны ў галіне фізіялогіі і біяхіміі мікраарганізмаў, ураджэнка г. Оршы.

**16 красавіка** – 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Дзіклоў Уладзімір Уладзіміравіч, кандыдат навук у галіне інфармацыйных тэхналогій, з чэрвеня 2010 г. старшыня Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафесійнага саюза работнікаў энергетыкі, электратэхнічнай і паліўнай прамысловасці, ураджэнец г. Віцебска.

**16 красавіка** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Чэпік Мікалай Пятровіч (1960–1980), Герой Савецкага Саюза, воін-інтэрнацыяналіст, удзельнік баявых дзеянняў у Афганістане, ураджэнец в. Май Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці.

**16 красавіка** – 50 гадоў таму (1965) нарадзіўся Жукаў Віктар Віктаравіч, мастак-аматар, ураджэнец г. Кіева. Захапляецца фатаграфіяй, скульптурай, кінамастацтвам, малюнкам і жывапісам. Зараз жыве ў в. Новыя Гараны Полацкага раёна.

**18 красавіка** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Мілавідаў Ігар Мікалаевіч (1910–1984), генерал-лейтэнант артылерыі ў Вялікую Айчынную вайну, ураджэнец в. Падгароддзе Верхнядзвінскага раёна.

**20 красавіка** – 20 гадоў таму (1995) Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці пераўтвораны ў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт.



# Сакавік



**ЛАДЫСЕЎ**
**УЛАДЗІМІР ФЁДАРАВІЧ**
75-год з дня нараджэння

Ладысеў Уладзімір Фёдаравіч нарадзіўся 3 сакавіка 1940 года ў в. Дзяцель (Вялікая Дзяцель) Дубровенскага раёна ў сялянскай сям'і. Беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар.

Пасля заканчэння Дзяцельскай сямігадовай школы паступіў у 1954 годзе ў Віцебскае мастацка-педагагічнае вучылішча. Працаваў настаўнікам у школах Дубровенскага раёна, Дзяцельскай сямігодцы, сямігадовых школах Гродненскай і Віцебскай абласцей (1958–1959). У 1959 годзе прызваны ў Савецкую Армію на службу да 1962 года. Паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які скончыў у 1967 годзе. У студэнцкія гады выязджаў у Казахстан на цалінныя новабудоўлі, у Алжырскую Народную Дэмакратычную Рэспубліку. Працаваў выкладчыкам Высокага СПТВ Аршанскага раёна ў 1967–1968 гг. Працягнуў вучобу ў аспірантуры БДУ (1968–1971). Пасля заканчэння працаваў выкладчыкам у БДУ. З 1971 года – асістэнт, старэйшы выкладчык, дацэнт кафедры гісторыі КПСС прыродазнаўчых факультэтаў БДУ. З 1979 года працаваў намеснікам начальніка Упраўлення выкладання грамадскіх навук Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР,

энциклопедия : [в 7 т.] / редкол.: Г. П. Пашков (гл. ред.) и др. — Мн. : БелЭн, 2006. — Т. 2 : А—Герань. — С. 48.

4. **Азарёнок, Ю.** «Успех окрыляет» / Ю. Азарёнок ; бесед. А. Мишурный // Віцебскі рабочы. — 2005. — 3 лют. — С. 15.

6. **Азарёнок** Юрий Владимирович [Электронный ресурс] // Национальная киностудия «Беларусьфильм». — Режим доступа: http://www.belarusfilm.by/studio/personas/3696/. — Дата доступа: 11.12.2014.



**21 красавіка** – 180 гадоў таму (1835) нарадзіўся Вуль Ялегі Пранціш (1835–1880-я гг. сапраўднае імя Карафа-Корбут Элігій Францішак Маўрыкіевіч), беларускі паэт, ураджэнец г. Віцебска. У 1856–62 гг. працаваў пісарам у Віцебскай палаце дзяржаўных маёмасцей.

**23 красавіка** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Егарэйчанка Аляксандр Андрэевіч, беларускі археолаг, доктар гістарычных навук. Праводзіў археалагічныя раскопкі на гарадзішчах Зазоны, Рацюнкі, Тарклова ў Браслаўскім Паазер'і.

**25 красавіка** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Савуцін Пётр Мацвеевіч (1925–1995), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны з 1943 г. на Цэнтральным, Беларускім і 1-м Беларускім франтах, поўны кавалер ордэна Славы, ураджэнец в. Вялікае Сяло Лёзненскага раёна.

**27 красавіка** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Ананьеў Марцін Аляксеевіч (1900–1982), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Ісайкі Гарадоцкага раёна.

**27 красавіка** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Звераў Анатолій Міхайлавіч (1925–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**27 красавіка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Козіч Пётр Серафімавіч, беларускі карыкатурыст, з 1991 г. працуе ў газеце «Віцьбічы», ураджэнец в. Юнкі Пастаўскага раёна.

**28 красавіка** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Казіміроўскі Саламон Савелевіч (1915–2011), беларускі рэжысёр, Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ураджэнец г. Бабруйска. У 1940–1941 і 1967–1975 працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Коласа.

**28 красавіка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Суханаў Аляксандр Сяргеевіч, прафсаюзны дзеяч, з 1987 г. намеснік старшыні Кастрычніцкага райвыканкама г. Віцебска, з 1997 намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама. З верасня 1999 г. старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.

**29 красавіка** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Чарвякоў Яўген Трафімавіч, машыніст, ганаровы чыгуначнік, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец г. п. Шуміліна. У 1976–1991 гг. машыніст-інструктар лакаматыўнага дэпо станцыі Віцебск Беларускай чыгункі.

## Май

**45 гадоў** таму (1970) адкрыты Бягомльскі музей народнай славы.

**1 мая** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Талмачоў Аляксей Емяльянавіч (1925–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец с. Нова-Свініно Краснаярскага краю (Расія).



тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. Зараз працуе ў аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў Упраўлення справамі Прэзідэнта Беларусі.

Стаяў ля вытокаў фестывалю «Залаты Віцязь» і тройчы быў яго лаўрэатам.

Сярод фільмаў: «Мяне хочуць забіць» (1991), «Бал сатаны» (1993), «Маналог пасля смерці» (1994), «Нянавісць. Дзеці ілжы» (1994), «Смяротны грэх» (1995), «Закуліса» (1995); дакументальныя серыялы «Тайныя спружыны палітыкі» (2001), «Канспіралогія» (2004), «Духоўная вайна» (2006) і інш.

Узнагароды:

Спецыяльны прыз за лепшую студэнцкую работу ў дакументальным кіно на Міжнародным кінафестывалі славянскага кіно «Залаты Віцязь» (г. Нові-сад, Югаславія, 1993);

Прэмія Прэзідэнта «За духовное возрождение» за стварэнне аўтарскай тэлепраграмы «Канспіралогія» (2005);

Прыз Парламентскага Сходу Саюза Беларусі і Расіі «За верность нравственным идеалам в киноискусстве» за фільм «Духоўная вайна» (2006);

Лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2007);

Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь (2008).

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Азаронак** Юрый Уладзіміравіч // Культура Беларусі : энцыклапедыя / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 2010. — Т. 1 : А—Б. — С. 70.

2. **Азарёнок** Юрий Владимирович // Регионы Беларуси : энциклопедия : в 7 т. / редкол.: Т. В. Белова (гл. ред.) и др. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 2010. — Т. 2 : Витебская область : в 2 кн. Кн. 1. — С. 11.

3. **Азарёнок** Юрий Владимирович // Республика Беларусь :

Дата доступа: 11.12.2014.

6. **Героі** Савецкага Саюза [Электронный ресурс] // Нашы землякі / Городокская централизованная библиотечная система : официальный сайт. — Режим доступа: http://gcb.vitebsk.net/index.php/kraevedenie/94-nashi-zemlyaki. — Дата доступа: 11.12.2014.



## АЗАРОНАК
## ЮРЫЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ

50 год з дня нараджэння (1965)

Азаронак Юрый Уладзіміравіч нарадзіўся 27 лютага 1965 года ў в. Рудня Лепельскага (паводле іншых звестак Гарадоцкага) раёна. Беларускі рэжысёр дакументальнага кіно, журналіст, грамадскі дзеяч.

Вучыўся ў Лепельскім гідрамеліярацыйным тэхнікуме, скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў у 1994 годзе. З 1995 года працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», з 1999 года – галоўны рэдактар мастацкіх праграм на Беларускім тэлебачанні. У 2000 годзе з’яўляўся загадчыкам літаратурна-драматычнай рэдакцыяй Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. У 2002 годзе – кіраўнік інфармацыйнага аддзела Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. З 2003 года – прэс-сакратар Генеральнай пракуратуры Беларусі. У 2005–2008 гг. займаў пасаду намесніка старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай



**1 мая** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Амбросенка Аляксей Пятровіч, аўтамеханік, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец в. Марчанкі Гарадоцкага раёна.

**1 мая** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Даўгяла Алег Георгіевіч (1930–1986), беларускі вучоны ў галіне тэрапіі, доктар медыцынскіх навук, прафесар, ураджэнец г. Полацка. З 1971 г. працаваў у Віцебскім медыцынскім інстытуце.

**1 мая** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцевіч), беларускі пісьменнік, драматург, кандыдат гістарычных навук, заслужаны работнік культуры Беларусі, ураджэнец в. Перавалачня Талачынскага раёна.

**3 мая** – 70 гадоў таму (1945) нарадзілася Ляховіч Валянціна Антонаўна, беларускі мастак, у 1974–2000 гг. выкладала ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце.

**3 мая** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Грушоў Вячаслаў Георгіевіч, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа, заслужаны артыст Беларусі.

**3 мая** – 25 гадоў таму (1990) утворана Упраўленне справамі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта рашэннем Віцебскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

**5 мая** – 190 гадоў таму (1825) нарадзіўся Гарэцкі Фадзей Антонавіч (1825–1868), жывапісец, ураджэнец в. Дусняты Віленскага павета (Літва). У 1848–1849 гг. жыў на Віцебшчыне.

**7 мая** – 155 гадоў таму (1860) нарадзіўся Гарбачэўскі Іван Данілавіч (1860–1914), беларускі настаўнік, краязнаўца, гісторык, этнограф, пісьменнік, фалькларыст. У 1894–1898 гг. супрацоўнічаў у газеце «Витебские губернские ведомости».

**7 мая** – 125 гадоў таму (1890) нарадзіўся Рыжоў Іван Паўлавіч (1890–1938), партыйны і прафсаюзны дзеяч Беларусі. З 1923 г. сакратар Полацкага, Віцебскага павятовых камітэтаў партыі, з 1925 г. – Віцебскага акруговага камітэта КП(б)Б.

**7 мая** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Далжонак Арэст Васілевіч, беларускі дзеяч аматарскага мастацтва, харавы дырыжор, заслужаны работнік культуры Беларусі, ураджэнец в. Падомхі Докшыцкага раёна.

**7 мая** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Ліпчык Міхаіл Яўстафавіч, беларускі баяніст, заслужаны артыст Беларусі, ураджэнец г. Глыбокае.

**8 мая** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Жураў Віталій Мікалаевіч, дарожны майстар, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец в. Іванаўка Гарадоцкага раёна. У 1970–1973 гг. старшыня прафсаюзнага камітэта Віцебскай дыстанцыі пуці Беларускай чыгункі.

**10 мая** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Яронька Віктар Іванавіч (1920–1991), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец горада Полацка.



2 населеныя пункты. Утрымлівалі іх да падыходу асноўных сіл палка. Пры гэтым пад камандаваннем Багданава батальён адбіў 10 атак ворагаў. Адбіваючы контратаку ворага, Р. Б. Багданаў быў смяротна паранены. Яго не стала 1 кастрычніка 1943 года.

17 кастрычніка 1943 года гвардыі старшаму лейтэнанту Рыгору Багданавічу Багданаву за мужнасць, знаходлівасць, адвагу і рашучасць, праяўленыя пры фарсіраванні Дзісны і Дняпра і ў баях на плацдарме, пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Суворава III ступені.

Пахаваны ў с. Жукін Кіева-Святошынскага раёна Кіеўскай вобласці. Яго імём названы былі Бескатаўская васьмігадовая школа (с. Бескатава Гарадоцкага р-на).

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Багданаў** Рыгор Багданавіч // Ваенная энцыклапедыя Беларусі = Военная энциклопедия Беларуси / рэдкал.: Л. У. Языковіч (гал. рэд.) [і інш.] ; склад.: В. Ц. Осіпаў [і інш.] ; маст. В. А. Ляхар. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 2010. — С. 90.
2. **Богданов** Григорий Богданович // Регионы Беларуси : энциклопедия : в 7 т. / редкол.: Т. В. Белова [и др.]. — Мн. : БелЭн им. П. Бровки, 2010. — Т. 2 : Витебская область : в 2 кн. Кн. 1. — С. 73.
3. **Богданов** Григорий Богданович // Слава и гордость земли Витебской : биографический справочник / сост. М. Н. Пригожий. — Витебск : Витеб. обл. тип., 2009. — С. 19.
4. **Богданов** Григорий Богданович [Электронный ресурс] // Патриотический интернет-проект «Герои страны». — Режим доступа: http://www.warheroes.ru/hero/hero.asp?Hero_id=10073. — Дата доступа: 11.12.2014.
5. **Богданов** Григорий Богданович — Биография [Электронный ресурс] // Помни Про : электронный мемориал / руков. П. В. Ковалёв. — 2011—2014. — Режим доступа: http://pomnipro.ru/memorypage61900/biography. —

# Люты



**БАГДАНАЎ**
**РЫГОР БАГДАНАВІЧ**

Да 115-годдзя з дня нараджэння (1910)

Багданаў Рыгор Багданавіч нарадзіўся 4 лютага 1910 года ў в. Марцюшы Гарадоцкага раёна ў сялянскай сям'і. Герой Савецкага Саюза.

Скончыў пачатковую школу. У Чырвонай Арміі з 1932 года. Скончыў курсы малодшых лейтэнантаў у 1938 годзе. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны з 1941 года. Член КПСС з 1942 года. Удзельнік баёў на Заходнім, Цэнтральным, Варонежскім франтах.

Гвардыі старшы лейтэнант камандаваў батальёнам 385-га стралковага палка 112-й Рыльскай стралковай дывізіі, якая была ў складзе 60-й арміі Цэнтральнага фронту. Яго батальён вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра паўночней ад Кіева. Атрымалі загад пераправіцца праз Дняпро ў раёне Чарнігава і раптоўным ударам дэзарганізаваць тылы праціўніка. Праследуючы ворага, 24 верасня 1943 года байцы батальёна фарсіравалі Дзісну і выйшлі да Дняпра. Пераправіліся на правы бераг, выкарыстаўшы для гэтага падручныя сродкі, захапілі плацдарм і занялі



**10 мая** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Пярэднеў Уладзімір Пятровіч (1935–2000), навукоўца ў галіне агародніцтва і аграхіміі, ураджэнец в. Пугачова Докшыцкага раёна.

**11 мая** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Кавальчук Валерый Віктаравіч, беларускі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ураджэнец г. Гомеля. У Віцебску з 1977 г.

**11 мая** – 40 гадоў таму (1975) нарадзілася Козік Любоў Антонаўна, гісторык, ураджэнка в. Нікалаева Шумілінскага раёна.

**13 мая** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Манковіч Сцяпан Сцяпанавіч (1905–1978), прафсаюзны дзеяч, Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Мінскай вобласці, ураджэнец в. Беразіно Докшыцкага раёна.

**14 мая** – 95 гадоў таму (1920) пачалася Майская аперацыя (14 мая–8 чэрвеня 1920) – наступальная аперацыя савецкіх войск Заходняга фронту ў польска-савецкую вайну 1919–1920 гг.

**14 мая** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Данілаў Аляксандр Мікалаевіч, беларускі сацыёлаг, доктар сацыялагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, былы сакратар камсамола Віцебскага ветэрынарнага інстытута, загадчык аддзела Віцебскага абласнога камітэта ЛКСМ Беларусі, ураджэнец г. Віцебска.

**15 мая** – 170 гадоў таму (1845) нарадзіўся Чэрскі Іван Дзяменцьевіч (1845–1892), геолаг, географ, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., даследчык Сібіры, ураджэнец Верхнядзвінскага раёна.

**15 мая** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Янушкоўскі Іван Іванавіч (1915–1944), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Пыжы Лёзненскага раёна.

**16 мая** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Ісачанка Уладзімір Рыгоравіч (1925–2011), беларускі архітэктар, ураджэнец г. Гомеля. Заслужаны архітэктар Беларусі. Сярод яго работ (у калектыве аўтараў) – прафілакторый у г. Наваполацку.

**17 мая** – 170 гадоў таму (1845) нарадзіўся Нікіфароўскі Мікалай Якаўлевіч (1845–1910), беларускі этнограф-фалькларыст, асветнік, ураджэнец в. Вымна Віцебскага раёна. Працаваў настаўнікам у народных вучылішчах і гімназіях Віцебска і Віцебскай губерні.

**17 мая** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Наталевіч Нікіфар (Нічыпар) Якаўлевіч (1900–1964), дзяржаўны дзеяч Беларусі, ураджэнец г. Оршы.

**17 мая** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Кузмянкоў Аляксандр Яўсеевіч, прафсаюзны дзеяч, з 1979 г. дырэктар саўгаса «Ветрынскі» Полацкага раёна, ураджэнец в. Кроцікі Дубровенскага раёна. З 2005 г. старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу.



«Р. М. Баталаву – майму аднапалчаніну, выдатнаму военачальніку, які паслужыў прататыпам вобраза Баталіна ў гэтым першым маім творы, – на памяць, М. Аляксееў».

Памёр 19 верасня 1988 года.

**ЛІТАРАТУРА**

1. **Баталаў** Рыгор Міхайлавіч // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мн., 1996. — Т. 2. — С. 344.

2. **Баталаў** Рыгор Міхайлавіч // Памяць : Віцебск : гісторыка-дакументальныя хронікі гаралоў і раёнаў Беларусі : у 2 кн. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.] ; склад. А. І. Мацяюн ; маст. Э. Э. Жакевіч. — Мн., 2002. — Кн. 1. — С. 619—620.

3. **Баталов** Григорий Михайлович // Герои Советского Союза : краткий биографический словарь : в 2 т. / А. А. Бабаков [и др.]. — М., 1987. — Т. 1. — С. 126.

4. **Львоў, У.** Ад Сталінграда да Прагі / У. Львоў // Віцебскі рабочы. — 1981. — 3 сак. — С. 3.

сістэму яго абароны. Цераз барадаеўскі плацдарм адразу ж пераправіліся на правы бераг Дняпра дывізія, а затым уся армія. Наступленне нашых войск паспяхова працягвалася.

Так, паказваючы асабісты прыклад мужнасці, стойкасці і воінскага майстэрства Р. М. Баталаў забяспечыў выдатнае выкананне палком пастаўленай задачы. Увесь асабовы састаў палка тады быў адзначан урадавымі ўзнагародамі, а 9 воінам, у тым ліку Р. М. Баталаву, якія асабліва вызначыліся, было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

У жніўні 1944 года Баталаў, будучы намеснікам камандзіра 72-й гвардзейскай стралковай дывізіі, актыўна ўдзельнічаў у правядзенні славутай Яса-Кішынеўскай аперацыі. Дывізія прарвала Тыргу-Фурмоскі ўмацаваны раён ворага, а ў канцы жніўня, пераадолеўшы Карпацкі хрыбет, паспяхова развіла хуткае наступленне ў Трансільваніі. Неўзабаве Баталаў быў узнагароджан ордэнам Кутузава II ступені.

У 1944–45 гг. Р. М. Баталаў змагаўся з гітлераўцамі на тэрыторыі Румыніі, Венгрыі, Чэхаславакіі і Аўстрыі, удзельнічаў у вызваленні Будапешта, Браціславы і Прагі.

Пасля вайны закончыў Ваенную акадэмію імя М. Р. Фрунзе, а ў 1959 годзе – Ваенную акадэмію Генеральнага штаба Узброеных сіл СССР. Да 1971 года служыў у радах Савецкай Арміі, перадаваў маладым воінам і афіцэрам свае багатыя ваенныя веды і вопыт.

У 1960 годзе яму было прысвоена званне генерал-лейтэнанта.

У беларускага пісьменніка М. Аляксеева ёсць раман «Салдаты». На яго старонках створаны вобразы строгага, але клапатлівага генерал-маёра Сізова, адважнага і вопытнага камандзіра стралковага палка Баталіна, мужнага артылерыста Гунько, смелага і кемлівага разведчыка Шахаева. Здзіўляешся, наколькі жывымі, праўдзівымі паўстаюць перад чытачом карціны баёў, героі рамана. Але мала хто ведае, што прататыпам вобраза Баталіна ў гэтым творы з’явіўся ён, наш зямляк Рыгор Міхайлавіч Баталаў. Аб гэтым сведчыць і надпіс зроблены рукой аўтара:



**18 мая** – 90 гадоў таму (1925) нарадзілася Юргель Соф`я Марцінаўна (1925–2007), Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнка в. Казюкі Глыбоцкага раёна.

**19 мая** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Барадаўка Іван Міхайлавіч (1925–1996), Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец в. Зялёная Талачынскага раёна.

**21 мая** – 100 гадоў таму (1915) нарадзілася Фраленка Алена Уладзіміраўна (1915–1999), беларускі вучоны ў галіне ўнутранай медыцыны, доктар медыцынскіх навук, прафесар, ураджэнка г. Верхнядзвінска.

**22 мая** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Каспяровіч Мікалай Іванавіч (1900–1937), беларускі этнограф, мовазнаўца, краязнаўца, літаратуразнаўца, гісторык культуры, мастацтвазнаўца, ураджэнец в Ізабалёва Пухавіцкага раёна. Некаторы час працаваў інспектарам Віцебскага аддзела народнай асветы. Сярод яго навуковых прац – працы, прысвечаныя даследаванням Віцебшчыны.

**24 мая** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Заслаўскі Яўген Львовіч (1920–2007), беларускі архітэктар, ураджэнец г. Александрыя Кіраваградскай вобласці (Украіна). З'яўляецца заслужаным архітэктарам Беларусі, кандыдат архітэктуры. Сярод асноўных работ (суаўтарскія) – мост цераз р. Заходняя Дзвіна ў г. Віцебску.

**24 мая** – 60 гадоў таму (1955) нарадзілася Арлова Ганна Пятроўна, беларускі навуковец у галіне педагогікі, доктар педагагічных навук, прафесар, ураджэнка г. Віцебска.

**25 мая** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Дземянцей Мікалай Іванавіч, дзяржаўны дзеяч Беларусі, ураджэнец в. Хотліна Чашніцкага раёна.

**25 мая** – 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Штукін Сяргей Сяргеевіч, навукоўца ў галіне лесаводства, ураджэнец в. Казяны Шумілінскага раёна.

**27 мая** – 50 гадоў таму (1965) нарадзіўся Рыкцер Юрый Фёдаравіч, беларускі спартсмен (водналыжны спорт), заслужаны майстар спорту Беларусі, чэмпіён Еўропы, чэмпіён свету, ураджэнец г. Наваполацка. З 2005 г. трэнер-выкладчык спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па водналыжным спорце імя Н. Л. Генава.

**30 мая** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Трус Анатоль Міхайлавіч (1910–1989), акцёр Беларускага драматычнага тэатра імя Я. Коласа, ураджэнец Уздзенскага раёна Мінскай вобласці.

## Чэрвень

**3 чэрвеня** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Гугель Адольф Самойлавіч (1915–1999), беларускі мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча.



праціўніка. Пазіцыі атакавалі дзве варожыя пяхотныя дывізіі і да 6 танкаў. Здавалася, нішто не магло ўстаяць супраць такога масіраванага тарана. Але баталаўцы выстаялі. Васемнаццаць гадзін працягваўся жорсткі бой з пераўзыходзячымі сіламі ворага. Полк Баталава бліскуча выканаў пастаўленую перад ім баявую задачу. Прасунуўшыся цаной велізарных страт на 1,5-2 кіламетры, фашысты вымушаны былі адмовіцца ад далейшага наступлення на гэтым участку і перайсці да абароны.

Неўзабаве, выматаўшы праціўніка, дывізія перайшла ў контрнаступленне і аднавіла становішча. На плячах адступаючых гітлераўцаў 229-ы гвардзейскі стралковы полк адным з першых фарсіраваў Паўночны Данец, захапіў плацдарм і забяспечыў пераправу галоўных сіл дывізіі і арміі на заходні бераг ракі. За гэту аперацыю, праведзеную з вялікім майстэрствам, Р. М. Баталаў быў узнагароджаны другім ордэнам Чырвонага Сцяга.

Разграміўшы фашыстаў пад Белгарадам, дывізія перайшла ў наступленне ў напрамку Харкава, удзельнічала ў яго вызваленні ад захопнікаў.

У верасні 1943 года савецкія войскі, праследуючы адступаўшых гітлераўцаў, выйшлі да Дняпра ў раёне сёл Новы Орлік і Барадаеўка. Пад прыкрыццем воднага рубяжа праціўнік пачаў прыводзіць у парадак свае разгромленыя часці, умацоўваць абарону. Неабходна было з ходу фарсіраваць раку, захапіць плацдарм на яе правым беразе і забяспечыць пераправу асноўных сіл. Выканаць гэту важную задачу камандаванне арміі даручыла палку гвардыі маёра Р. М. Баталава.

У ноч з 24 на 25 верасня 1943 года полк у цяжкіх умовах фарсіраваў Днепр, захапіў плацдарм і замацаваўся на ім. Разам з першымі байцамі пераправіўся на заходні бераг Р. М. Баталаў, каб непасрэдна на месцы кіраваць адказнай аперацыяй. Адбіўшы шалёныя контратакі гітлераўцаў, полк пад прыкрыццём цемры ўварваўся ў сяло Барадаеўка і прымусіў праціўніка ў паніцы адступіць. Баталаўцы прасунуліся наперад на чатыры кіламетры, нанесшы ворагу вялікія страты і разбурыўшы ўсю



## БАТАЛАЎ
## РЫГОР МІХАЙЛАВІЧ

Да 100-годдзя з дня нараджэння (1915)

Баталаў Рыгор Міхайлавіч нарадзіўся 15 (28) студзеня 1915 года ў Віцебску. Герой Савецкага Саюза. Працаваць пачаў з чатырнаццаці гадоў у віцебскім чыгуначным дэпо, потым некаторы час узначальваў камсамольскую арганізацыю ў толькі што створаным калгасе ў адной з беларускіх вёсак. У 1937 г. скончыў Мінскае ваеннае вучылішча.

У чэрвені 1941 года Рыгор Баталаў камандаваў курсанцкім узводам. Разам з ім зведаў горыч першых няўдач, а пад Масквой атрымаў першую сапраўдную перамогу. Будучы слухачом курсаў пры акадэміі імя Фрунзе (паскораны курс 1942 год.), ён у складзе зводнага батальёна быў наводчыкам гарматы пад Мажайскам. У Сталінградзе дваццаціпяцігадовы капітан Баталаў узначаліў стралковы полк. Пад кіраўніцтвам Р. Баталава полк вызначыўся ў многіх баях, удзельнічаў у паланенні фельдмаршала Паўлюса і яго штаба. За поспехі ў баях полк быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Пасля заканчэння Сталінградскай бітвы 29-й дывізіі была прысвоена назва 72-й гвардзейскай.

У канцы лютага 1943 года дывізія была перакінута да Белграда. Гвардзейскі полк Баталава з марша заняў абарону ў раёне Маславай Прыстані, дзе адбіў шматлікія спробы ворага фарсіраваць Паўночны Данец.

Пачалося ліпеньскае наступленне гітлераўцаў. Полк Баталава, знаходзячыся ў першым эшалоне, прыняў на сябе асноўны ўдар



**5 чэрвеня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзілася Герасімовіч Эльвіра Пятроўна, беларускі тэатральны дзеяч, прафесар, кандыдат мастацтвазнаўства, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Даследавала гісторыю Беларускага тэатра імя Я. Коласа ў 1926–1941 гг.

**6 чэрвеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Дудараў Аляксей Ануфрыевіч, пісьменнік, драматург, акцёр, перакладчык, ураджэнец в. Кляны Дубровенскага раёна.

**7 чэрвеня** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Чуяшоў Віктар Іванавіч, беларускі філосаф, доктар філасофскіх навук, прафесар, ураджэнец г. Полацка. З 1984 г. у Віцебскім тэхналагічным універсітэце (з 1994 г. загадчык кафедры).

**10 чэрвеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Цароў Уладзімір Пятровіч, беларускі вучоны ў галіне ўнутраных хвароб, доктар медыцынскіх навук, прафесар, ураджэнец Гарадоцкага раёна.

**12 чэрвеня** – 140 гадоў таму (1875) нарадзіўся Адамаў Уладзімір Уладзіміравіч (1875–1937), батанік, адзін з першых даследчыкаў расліннасці Беларусі ураджэнец Санкт-Пецярбурга. Заснаваў Вялікалятчанскі батанічны сад (каля Віцебска) і батанічны сад БДУ.

**12 чэрвеня** – 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Радзевіч Леапольд Іванавіч (1895–пасля 1938), пісьменнік, выдавец, грамадскі дзеяч, ураджэнец фальварка Кур'янаўшчына (цяпер Лагойскі раён). Удзельнічаў у Першай беларускай трупе Ігната Буйніцкага.

**12 чэрвеня** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Янкоўскі Антон Антонавіч (1930–2002), беларускі фізік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, ураджэнец г. Полацка.

**13 чэрвеня** – 45 гадоў таму (1970) нарадзіўся Прусаў Алег Віктаравіч (1970–1996), беларускі мастак, адзін са стваральнікаў віцебскай групы «УБИКУС», ураджэнец г. Віцебска.

**14 чэрвеня** – 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Сербента Віталь Андрэевіч (1895–1980), беларускі гісторык і філосаф, ураджэнец в. Люкяй Марыямпальскага павета (Літва). У 1924–1925 гг. быў загадчыкам Віцебскай губсаўпартшколы.

**15 чэрвеня** – 225 гадоў таму (1790) нарадзіўся Плятэр (Броэль-Плятэр) Адам Аўгусцінавіч (1790–1862), археолаг, краязнаўца, калекцыянер, ураджэнец г. Краслава (Латвія). Быў куратарам школ Дынабургскага павета Віцебскай губерні падарожнічаў па Заходняй Дзвіне і абследаваў Падзвінне.

**15 чэрвеня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Віцьбіч Юрка (1905–1975), пісьменнік-эмігрант, ураджэнец г. Веліжа (Расія). З'яўляўся членам так званага Цэнтральнага ўрада Беларускага культурнага згуртавання, выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі.

**18 чэрвеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Кажарскі Леанід Аляксандравіч, беларускі спявак (тэнар), ураджэнец г. п. Багушэўск Сенненскага раёна. З 1989 г. вядучы саліст-вакаліст Віцебскай абласной філармоніі.



Жыве ў Віцебску.

**ЛІТАРАТУРА**


1. **Аляксандр** Шыёнак // Саюз творцаў [Выяўленчы матэрыял] = A Union of creators : фотаальбом / уклад. і аўт. тэксту М. Цыбульскі ; аўт. уступ. У. Андрэйчанка ; фат. В. Балоціна, М. Цыбульскага. — Мн. : Беларусь, 2005. — С. 141. — На беларус. і англ. мовах.

2. **Атраховіч, А.** Таямнічы свет фарбаў / А. Атраховіч // Мастацтва Беларусі. — 1991. — № 6. — С. 33—40.

3. **Рублеўскі, С.** Чысціня задумы / С. Рублеўскі // Народнае слова. — 2010. — 3 жн. — С. 5.

4. **Соловьева, Т.** Акварель Шиенка // Витебский проспект. — 2010. — 5 авг. — С. 23.

5. **Цыбульский, М. Л.** Шиенок Александр Сергеевич / М. Л. Цыбульский // Регионы Беларуси : энциклопедия : в 7 т. / редкол.: Т. В. Белова (гл. ред.) [и др.]. — Мн. : БелЭн імя П. Броўкі, 2011. — Т. 2 : Витебская область. Кн. 2. — С. 609.

6. **Шыёнак** Аляксандр Сяргеевіч // Беларускі саюз мастакоў : 1938—1998 : энцыклапедычны даведнік / аўт.-склад. Б. А. Крэпак [і інш.]. — Мн. : ВТАА «Кавалер Паблішэрс», 1998. — С. 629. — На беларус. і англ. мовах.

7. **Шиенок, А.** Влюбленный в акварель / А. Шиенок ; беседовала Р. Широкова // Вечерний Витебск. — 1998. — 28 марта. — С. 3.

# Студзень



**ШЫЁНАК**
**АЛЯКСАНДР СЯРГЕЕВІЧ**
65 год з дня нараджэння (1950)

Аляксандр Сяргеевіч Шыёнак нарадзіўся 3 студзеня 1950 года ў вёсцы Каўлякі Бешанковіцкага раёна – беларускі мастак-акварэліст.

Скончыў Бешанковіцкую сярэднюю школу № 1, у 1967 годзе паступіў у Віцебскі педінстытут на мастацка-графічны факультэт. Вучыўся ў Ф. Гумена, І. Сталярова. Удзельнік мастацкіх выставак з 1974 г. Член БСМ з 1988 г.

Працуе пераважна ў жанры пейзажа. Сярод твораў: «Зімовы пейзаж» (1972), «Возера ў лесе» (1979), «Здраўнёва» (1982), «Чырвонае воблака. Вечар» (1985), «Перад навальніцай» (1986), «Родная вёска» (1990), «Рака Дзісна» (2001), «Зімовы пейзаж. Шаркаўшчына», «Дзвіна. Рамантычны востраў» (абодва 2003), «Край прыдзвінскі», «Восень у Бешанковічах» (абодва 2004), «Пад родным небам», «Браслаўскі матыў» (абодва 2008), «Родная сядзіба», «Край віцебскі» (2009) і інш.

Творы знаходзяцца ў Віцебскім абласным мастацкім музеі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах БСМ, Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку.



**20 чэрвеня** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Паўлаў Якаў Савелевіч (1940–1996), беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар, ураджэнец в. Самуйлы Браслаўскага раёна.

**20 чэрвеня** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Пятроў Мікалай Якаўлевіч, беларускі навуковец у галіне фізічнай культуры, кандыдат біялагічных навук, прафесар, заслужаны трэнер Беларусі, ураджэнец в. Юкава Дубровенскага раёна.

**21 чэрвеня** – 80 гадоў таму (1935) вёска Гарбачэва ўвайшла ў склад Полацкай акругі, з 1938 г. – Віцебскай вобласці.

**21 чэрвеня** – 80 гадоў таму (1935) утворана Лепельская акруга (1935–1938), адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў БССР.

**22 чэрвеня** – 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Сухі Павел Восіпавіч (1895–1975), авіяканструктар, адзін са стваральнікаў рэактыўнай і звышгукавай авіяцыі, доктар тэхнічных навук, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, удзельнік Першай сусветнай вайны, настаўнік матэматыкі, ураджэнец г. Глыбокае.

**22 чэрвеня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Ткачоў Іван Лявонцьевіч (1920–1985), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, франтавік, поўны кавалер ордэна Славы, ураджэнец в. Лындзіна Лёзненскага раёна.

**23 чэрвеня** – 20 гадоў таму (1995) адкрыўся для наведвальнікаў Аршанскі этнагарфічны музей «Млын», філіял Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны.

**24 чэрвеня** – 70 гадоў таму (1945) нарадзілася Віслабокава Надзея Станіславаўна (1945–2013), беларускі педагог, ураджэнка г. Рэчыцы. Працавала ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава.

**24 чэрвеня** – 50 гадоў таму (1965) заснаваны Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці. У 1995 г. пераўтвораны ў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт.

**25 чэрвеня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Пятрусь Броўка (Пётр Усцінавіч 1905–1980), народны паэт Беларусі, грамадскі дзеяч, заслужаны дзеяч навукі, Герой Сацыялістычнай Працы.

**26 чэрвеня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Емяльянаў Анатоль Серафімавіч, фалькларыст, ураджэнец Смаленскай вобласці (Расія).

**26 чэрвеня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзілася Маленчанка Рыма Фёдараўна, заслужаная артыстка Беларусі, ураджэнка г. Оршы.

## Ліпень

**25 гадоў** таму (1990) заснавана газета «Народнае слова» Віцебскім абласным Саветам дэпутатаў.

**1 ліпеня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Юр'еў Зіновій Юравіч (сапр. Грынман Зяма Юдавіч), беларускі і рускі пісьменнік-фантаст, ураджэнец г. Чашнікі.



**22 снежня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзілася Мазала Ганна Васілеўна, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнка в. Закаліўе Лепельскага раёна.

**22 снежня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Рыбчынскі Віктар Антонавіч, беларускі акцёр, ураджэнец г. Полацка.

**22 снежня** – 45 гадоў таму (1970) нарадзіўся Каралёў Канстанцін Юр'евіч, беларускі спартсмен (каратэ), майстар спорту Беларусі, чэмпіён свету, бронзавы прызёр чэмпіянатаў Еўропы, чэмпіён СССР, Літвы, Расіі, чэмпіён і ўладальнік Кубка Беларусі, ураджэнец г. Наваполацка.

**28 снежня** – 35 гадоў таму (1980) нарадзілася Турава Рыта Мікалаеўна, беларуская спартсменка (лёгкая атлетыка, спартыўная хадзьба), майстар спорту Беларусі міжнароднага класа, срэбны прызёр чэмпіянату свету, чэмпіёнка Еўропы і бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы сярод моладзі, пераможца Кубка свету і рэкардсменка Беларусі па спартыўнай хадзе на 20 км., ураджэнка г. Дуброўна.

**30 снежня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Ільінаў Анатоль Уладзіміравіч, беларускі мастак, ураджэнец былой в. Царкаўшчына Віцебскага раёна.

**11 снежня** – 105 гадоў тæму (1910) нарадзіўся Зюбін Павел Пятровіч (1910–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**12 снежня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзілася Дучыц Людміла Уладзіміраўна, беларускі археолаг, кандыдат гістарычных навук, ураджэнка г. Мінска. Даследуе гісторыю паўночна-заходніх зямель Полацкага княства, культавыя камяні, крыжы, археалагічную мікратапаніміку, этнічную сітуацыю на тэрыторыі Беларусі.

**20 снежня** – 125 гадоў таму (1890) нарадзіўся Марыкс Аскар Пятровіч (1890–1976), мастак тэатра, графік, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага дэкарацыйнага мастацтва, ураджэнец г. Львова (Украіна). Працаваў мастаком у Беларускім тэатры імя Я. Коласа.

**20 снежня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Гутковіч Аляксандр Захаравіч (1920–1989), беларускі рэжысёр тэлебачання, драматург, акцёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1981), працаваў у Беларускіх тэатрах імя Я. Коласа і юнага гледача, ураджэнец в. Вярхоўе Бешанковіцкага раёна.

**21 снежня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Ціханенкаў Іван Міхайлавіч (1935–2002), беларускі археолаг, ураджэнец в. Барсукі Калужскай вобласці (Расія). Даследваў каменны век Падняпроўя і Падзвіння.



**2 ліпеня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Лісіцын Міхаіл Аркадзевіч (Майсей Айзікавіч) (1920–2004), беларускі музыка, дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі, ураджэнец г. Віцебска.

**7 ліпеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Крошкін Алег Уладзіміравіч, беларускі жывапісец, ураджэнец пас. Сокал-Долінскі Сахалінскай вобл. (Расія). Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут.

**9 ліпеня** – 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Булкін Васіль Аляксандравіч, расійскі археолаг і гісторык, кандыдат гістарычных навук, ураджэнец г. Санкт-Пецярбурга. Прымаў удзел у раскопках у Полацку, Мазыры, Янкавічах (Расонскі раён).

**10 ліпеня** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Сергіевіч Пётр Аляксандравіч (1900–1984), беларускі жывапісец, графік, мастак-монументаліст, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы, ураджэнец в. Стаўрова Браслаўскага раёна.

**13 ліпеня** – 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Ключнікаў Аляксандр Сяргеевіч, беларускі вучоны ў галіне мікрахвалевай радыёфізікі і інфарматыкі, доктар тэхнічных навук, прафесар. З 1988 г. рэктар, з 1993 г. заг. кафедры Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці. З 2006 г. заг. кафедры Міжнароднага ўніверсітэта «МИТСО» Віцебскі філіял.

**14 ліпеня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Шнітко Святаслаў Мікалаевіч, беларускі навуковец у галіне хірургіі і арганізацыі ваеннай аховы здароўя, доктар медыцынскіх навук, прафесар, заслужаны ўрач Беларусі, ураджэнец г. Віцебска.

**15 ліпеня** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык, ураджэнец в. Агароднікі Пастаўскага раёна.

**15 ліпеня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Мяснікоў Анатоль Фёдаравіч, беларускі гісторык, літаратар, публіцыст, кандыдат гістарычных навук, ураджэнец в. Шмідзельшчына Талачынскага раёна.

**18 ліпеня** – 285 гадоў таму (1730) нарадзіўся Катэнбрынг Юзаф (1730–пасля 1804), польскі пісьменнік, педагог, ураджэнец Польшчы. З 1749 г. выкладаў рыторыку і паэтыку на тэрыторыі Беларусі, у т. л. і ў Полацку.

**20 ліпеня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Коган Уладзімір Львовіч (1920–1995), беларускі спартсмен і трэнер па боксе, ураджэнец г. Дуброўна.

**20 ліпеня** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Тарабука Леанід Мікалаевіч, беларускі скульптар, ураджэнец г. Віцебска. З 1997 г. выкладае ў Віцебскім тэхналагічным універсітэце.

**22 ліпеня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Абраменка Дзмітрый Кузьміч (1910–1981), поўны кавалер ордэна Славы, ураджэнец в. Філіпкова Віцебскага раёна.



# Снежань

**1 снежня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Макараў Мікалай Акімавіч (1905–1975), Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец г. Віцебска, двойчы ўдастоены звання «Пачэсны чыгуначнік», ганаровы гармадзянін г. Віцебска.

**4 снежня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Масцінскі Леанід Маркавіч, жывапісец, ураджэнец в. Масцішча Лепельскага раёна.

**6 снежня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Шміт Яўген Альфрэдавіч, расійскі гісторык, археолаг, доктар гістарычных навук, заслужаны дзеяч навукі РФ, ураджэнец г. Рудня Смаленскай вобласці (Расія). Даследчык праблем этнагенезу, гаспадаркі і культуры развіцця плямёнаў верхняга Падняпроўя і Падзвіння.

**8 снежня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Базыльчык Валянцін Вячаслававіч (1935–1993), беларускі і расійскі хімік-арганік, ураджэнец г. Полацка.

**9 снежня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Пракаповіч Ігар Міхайлавіч, беларускі пісьменнік, аўтар некалькіх навукова-педагагічных прац.

**11 снежня** – 290 гадоў таму (1725) нарадзіўся Лускіна Стафан (1725–1793), журналіст, публіцыст, астраном, матэматык, які быў родам з Віцебшчыны.

**24 лістапада** – 90 гадоў тому (1925) нарадзіўся Хваткоў Міхаіл Пятровіч (1925–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**25 лістапада** – 120 гадоў тому (1895) нарадзіўся Бескін Ізраіль Саламонавіч (1895–1964), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, савецкі военачальнік, генерал-лейтэнант артылерыі, ураджэнец горада Віцебска.

**25 лістапада** – 110 гадоў тому (1905) нарадзіўся Даўгаплоск Барыс Аляксандравіч (1905–1994), расійскі хімік-арганік, спецыяліст у галіне хіміі высокамалекулярных злучэнняў, акадэмік АН СССР, член-карэспандэнт, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец в. Лукомль Чашніцкага раёна.

**25 лістапада** – 95 гадоў тому (1920) нарадзіўся Квіцінскі Вячаслаў Антонавіч (1920–1995), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец п. Ленінскі Лепельскага раёна.

**26 лістапада** – 85 гадоў тому (1930) нарадзіўся Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі пісьменнік, ураджэнец г. Оршы.

**28 лістапада** – 65 гадоў тому (1950) нарадзіўся Кузьміч Мікалай Пятровіч, беларускі мастак, ураджэнец в. Патрыкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, які аднавіў страчаны Крыж Еўфрасінні Полацкай (1993–1997).

**30 лістапада** – 120 гадоў тому (1895) нарадзіўся Вангін (Блажэвіч) Андрэй Аляксандравіч (1895–1977), беларускі акцёр, ураджэнец г. п. Відзы Браслаўскага раёна.



**22 ліпеня** – 105 гадоў тому (1910) нарадзіўся Акулёнак Пётр Сяргеевіч (1910–1996), танцоўшчык, балетмайстар, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ураджэнец в. Вялікія Міхінічы Талачынскага раёна.

**25 ліпеня** – 175 гадоў тому (1840) нарадзіўся Крачкоўскі Юльян Фаміч (1840–1903), беларускі фалькларыст, этнограф, гісторык, педагог, ураджэнец Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Працаваў дырэктарам Полацкай настаўніцкай семінарыі.

**26 ліпеня** – 85 гадоў тому (1930) ліквідавана Віцебская акруга, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў БССР.

**27 ліпеня** – 65 гадоў тому (1950) нарадзіўся Казакоў Юрый Леанідавіч, гісторык, ураджэнец г. п. Шуміліна.

**29 ліпеня** – 100 гадоў тому (1915) нарадзіўся Каралёў Павел Міхайлавіч (1915–1998), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Крыцкія Гарадоцкага раёна.

## Жнівень

**3 жніўня** – 80 гадоў тому (1935) нарадзіўся Тамко Ягор Андрэевіч (1935–2008), віцэ-адмірал, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец хутара Лявонаўцы Міёрскага раёна.

**4 жніўня** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Ясьвін Яўген Станіслававіч (1935–2000), беларускі мастак, ураджэнец г. п. Асвея Верхнядзвінскага раёна.

**4 жніўня** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Слепаў Аляксандр Мікалаевіч, беларускі мастак, ураджэнец Чыцінскай вобласці Расіі. З 1962 г. у Віцебску.

**6 жніўня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Гарфункін Рыгор Саламонавіч (1920–1943), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец г. п. Янавічы Віцебскага раёна.

**7 жніўня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Цытовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), беларускі этнамузыказнаўца, харавы дырыжор, народны артыст Беларусі, народны артыст СССР, ураджэнец в. Новы Пагост Міёрскага раёна.

**11 жніўня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Кастагрыз Алег Данілавіч, беларускі графік і жывапісец, з 1989 г. выкладае ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава.

**12 жніўня** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Шарснёў Мікалай Яфрэмавіч (1930–2004), Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец в. Прыгузкі Аршанскага раёна.

**14 жніўня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Цюрын Аляксандр Васілевіч (1905–1943), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Дзевушыха Іванаўскай вобласці (Расія).



**21 лістапада** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Суднік Міхаіл Раманавіч (1910–1995), беларускі мовазнаўца, член-карэспандэнт НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, ураджэнец в. Пяцюлева Полацкага раёна.

**22 лістапада** – 125 гадоў таму (1890) нарадзіўся Лісіцкі Лазар Маркавіч (Лейзер Мардухавіч, Эль Лісіцкі 1890–1941), мастак-канструктар, графік, архітэктар, прафесар, ураджэнец Смаленскай вобласці. У 1919–1921 гг. выкладаў у Віцебскім народным мастацкім вучылішчы.

**22 лістапада** – 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Бабіч Віктар Канстанцінавіч, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец в. Зальхаўе Докшыцкага раёна.

**23 лістапада** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Хmajборкін Рыгор Філімонавіч (1905–1940), Герой Савецкага Саюза, удзельнік вызваленчых баёў на Беларусі, ураджэнец с. Алёшынка Бранскай вобласці (Расія). Загінуў у межах г. п. Бешанковічы.

**23 лістапада** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Міронаў Аляксандр Яўгенавіч (1910–1992), беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі, ураджэнец г. Оршы.

**23 лістапада** – 95 гадоў таму (1920) нарадзілася Тусналобава-Марчанка Зінаіда Міхайлаўна (1920–20.05.1980), медык, Герой Савецкага Саюза, ураджэнка былога хутара Шаўцова Расонскага раёна. З'яўляецца пачэсным грамадзянінам г. Полацка.

**15 лістапада** – 80 гадоў тому (1935) нарадзіўся Кісялёў Рыгор Пятровіч, беларускі мастак, ураджэнец Луганскай вобласці Украіны. З 1967 г. галоўны мастак г. Віцебска, у 1973–1992 гг. – вытворча-мастацкіх майстэрняў.

**19 лістапада** – 175 гадоў тому (1840) нарадзіўся Кавалеўскі Аляксандр Ануфрыевіч (1840–1901), біёлаг, адзін з заснавальнікаў параўнальнай эмбрыялогіі і фізіялогіі безпазваночных жывёл, ураджэнец с. Шусцянцы Дынабургскага павета Віцебскай губерні.

**19 лістапада** – 115 гадоў тому (1900) нарадзіўся Дарашэвіч Міхаіл Васілевіч (1900–1968), беларускі вучоны-геадэзіст, доктар тэхнічных навук, прафесар, дзяржаўны дзеяч Беларусі, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі, ураджэнец г. Оршы.

**19 лістапада** – 95 гадоў тому (1920) нарадзіўся Высагорац Міхаіл Амосавіч (1920–1996), франтавік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Стрыжава Бешанковіцкага раёна.

**20 лістапада** – 80 гадоў тому (1935) нарадзіўся Апіёк Мікалай Апанасавіч, беларускі тэатральны мастак, жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ураджэнец в. Макараўка Дубровенскага раёна.

**20 лістапада** – 65 гадоў тому (1950) нарадзіўся Ткачонак Аляксандр Леанідавіч, беларускі акцёр, народны артыст Беларусі (1998), ураджэнец г. Чашнікі.



**17 жніўня** – 90 гадоў тому (1925) нарадзіўся Нікіцевіч Васіль Міхайлавіч (1925–1994), беларускі мовазнаўца, ураджэнец в. Тураўшчына Докшыцкага раёна.

**19 жніўня** – 105 гадоў тому (1910) нарадзіўся Жаўрук Алесь (1910–1942 Сінічкін Аляксандр Дзмітрыевіч), беларускі паэт, ураджэнец г. Сянно.

**20 жніўня** – 100 гадоў тому (1915) нарадзіўся Жылін Васіль Іванавіч (1915–1947), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

**24 жніўня** – 70 гадоў тому (1945) нарадзілася Ніканчык Святлана Уладзіміраўна (па мужу Баравік), беларуская актрыса, ураджэнка г. Оршы.

**25 жніўня** – 105 гадоў тому (1910) нарадзіўся Корбан Уладзімір Іванавіч (1910–1971), беларускі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, ураджэнец г. Барань Аршанскага раёна.

**25 жніўня** – 70 гадоў тому (1945) нарадзіўся Слюнчанка Валерый Рыгоравіч (1945–1992), архітэктар, лаўрэат прэміі прафсаюзаў БССР. Удзельнічаў у распрацоўцы праектаў рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, сярод якіх Багаяўленскі і Сафійскі саборы ў Полацку.

**26 жніўня** – 35 гадоў тому (1980) нарадзіўся Бандарык Алег Анатолевіч, беларускі спартсмен (скачкі на батуце), ураджэнец г. Віцебска.

**29 жніўня** – 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Быхаўскі Абрам Ісаевіч (1895–1972), гаспадарчы дзеяч Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнец г. Дуброўна.

**29 жніўня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзілася Рыжкова Ганна Паўлаўна (1925–1993), беларуская артыстка эстрады, заслужаная артыстка Беларусі (1970), з 1945 г. працавала ў Беларускім тэатры імя Я. Коласа, з 1949 г. у абласным Доме народнай творчасці, ураджэнка в. Войлева Сенненскага раёна.

**30 жніўня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Сабалеўскі Аляксандр Пятровіч (1905–1988), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец г. Гарадка.

**30 жніўня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Валчкоў Іван Мікітавіч (1910–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза.

## Верасень

**85 гадоў** таму (1930) пачала выдавацца газета «За калектывізацыю» ў Чашніцкім раёне. Зараз – раённая газета «Чырвоны прамень».

**1 верасня** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Дзмітрачэнка Аляксандр Пятровіч (1900–1981), прафесар, расійскі аграном, Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны дзеяч навукі РСФСР, доктар сельскагаспадарчых навук, ураджэнец п. Ула Бешанковіцкага раёна.



**9 лістапада** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Шпіт Юрый Васілевіч (1930–2008), заслужаны архітэктар Беларусі, ураджэнец г. Запарожжа (Украіна). Сярод яго работ – помнік Вызваленцам і кінатэатр «Беларусь» у г. Віцебску, а таксама шэраг праектаў планіроўкі і забудовы асобных раёнаў у Наваполацку.

**10 лістапада** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Каржанеўскі Антон Станіслававіч (1910–1991), беларускі мастак, ураджэнец в. Валынцы Верхнядзвінскага раёна.

**11 лістапада** – 60 гадоў таму (1955) нарадзілася Тычко Галіна Казіміраўна, беларускі літаратуразнаўца, крытык, доктар філалагічных навук, прафесар, ураджэнка в. Сташулі Міёрскага раёна.

**14 лістапада** – 165 гадоў таму (1850) нарадзіўся Кірпічоў Ніл Львовіч (1850–1927), ваенны вучоны, інжынер-генерал, прафесар, ураджэнец г. Полацка. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус.

**14 лістапада** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Анісімаў Іван Ерамеевіч (1920–1986), Герой Сацыялістычнай Працы, з 1970 г. старшыня калгаса ім. Цітова Міёрскага раёна Віцебскай вобласці.

**14 лістапада** – 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Шкуратаў Ігар Мікалаевіч, беларускі акварэліст, ураджэнец Гродненскай вобласці. У 1993–2008 гг. выкладаў у Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава.

**2 лістапада** – 65 гадоў тому (1950) нарадзіўся Кузьміч Міхаіл Пятровіч, беларускі публіцыст, літаратурны крытык, ураджэнец в. Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. З'яўляецца аўтарам літаратурна-крытычных артыкулаў пра пісьменнікаў Віцебшчыны.

**3 лістапада** – 85 гадоў тому (1930) нарадзіўся Генаў Мікалай Леанідавіч (1930–2002), беларускі трэнер па водналыжным спорце, ураджэнец г. Полацка.

**5 лістапада** – 65 гадоў тому (1950) нарадзіўся Немянёнак Баляслаў Мячыслававіч, беларускі навуковец у галіне металургіі і ліцейнай вытворчасці, доктар тэхнічных навук, прафесар, ураджэнец в. Павяцце Міёрскага раёна.

**7 лістапада** – 85 гадоў тому (1930) выйшаў першы нумар газеты «Патрыёт» (Ушацкі раён).

**8 лістапада** – 125 гадоў тому (1890) нарадзіўся Пачопка Янка (1890–1977 Іван Пятровіч), беларускі пісьменнік, фалькларыст, ураджэнец в. Летнікі Глыбоцкага раёна.

**8 лістапада** – 45 гадоў тому (1970) нарадзіўся Бяляцкі Віктар Уладзіміравіч, беларускі спартсмен (цяжкая атлетыка), майстар спорту СССР міжнароднага класа, ураджэнец г. Наваполацка.



**1 верасня** – 20 гадоў тому (1995) З 1 верасня 1995 года паводле рашэння Калегіі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут пераўтвораны ў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт.

**1 верасня** – 20 гадоў тому (1995) заснаваны Нацыянальны парк «Браслаўскія азёры» ў Браслаўскім раёне.

**2 верасня** – 90 гадоў тому (1925) нарадзіўся Смірноў Юрый Васілевіч (1925–1944), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Кастрамской вобласці (Расія), удзельнік вызвалення Беларусі. Вызваляў в. Шалашына Дубровенскага раёна, пахаваны ў г. п. Арэхаўск Аршанскага раёна.

**2 верасня** – 90 гадоў тому (1925) нарадзіўся Маслакоў Анатоль Васілевіч (1925–1985), партыйны і гаспадарчы дзеяч Беларусі, ураджэнец в. Дуброўскае Шумілінскага раёна.

**3 верасня** – 10 гадоў тому (2005) быў адкрыты Полацкі прыродна-экалагічны музей у г. Полацку, філіял Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

**5 верасня** – 65 гадоў тому (1950) нарадзіўся Залуцкі Іосіф Віктаравіч, беларускі вучоны ў вобласці анкалогіі, член-карэспандэнт НАН Беларусі (2004), доктар медыцынскіх навук (1994), прафесар (2000), ураджэнец в. Мумішкі Пастаўскага раёна.

**6 верасня** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Плакхін Аркадзь Міронавіч, беларускі спартсмен (шашкі–64), ураджэнец г. Полацка.

**7 верасня** – 130 гадоў таму (1885) нарадзіўся Сікора Іван Паўлавіч (1885–1966), выдатны садавод і селекцыянер, у в. Алашкі Малыя Шаркаўшчынскага раёна.

**7 верасня** – 25 гадоў таму (1990) адкрыўся Музей беларускага кнігадрукавання ў Полацку, які з'яўляецца філіялам Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

**8 верасня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Цімохаў Сяргей Аляксандравіч, беларускі мастак, з 1989 г. галоўны мастак г. Полацка, у 1991–2000 гг. дырэктар, мастак галерэі «Рыса» ў Полацку. З 1986 г. на Віцебскім камбінаце «Мастацтва».

**11 верасня** – 160 гадоў таму (1855) нарадзіўся Раманаў Еўдакім Раманавіч (1855–1922), беларускі археолаг, фалькларыст, этнограф, краязнаўца, педагог, ураджэнец мястэчка Нова-Беліца (зараз у межах г. Гомеля). Працаваў настаўнікам у Сянно, інспектарам вучылішчаў Віцебскай губерні.

**11 верасня** – 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Міруц Іван Герасімавіч (1900–?), прафсаюзны і гаспадарчы дзеяч, з 1933 г. начальнік палітаддзела саўгаса «Нача-Шпакоўшчына» Полацкага раёна.



**29 кастрычніка**– 45 гадоў таму (1970) нарадзілася Дубніцкая Таццяна Віктараўна, жывапісец, ураджэнка в. Дворнае Сяло Міёрскага раёна.

**30 кастрычніка**– 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Бембель Андрэй Ануфрыевіч (1905–1986), беларускі скульптар, ураджэнец г. Веліжа Смаленскай вобласці (Расія). Вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме ў 1924–1927 гг.

**31 кастрычніка**– 70 гадоў таму (1945) нарадзіўся Дасужаў Аляксандр Ігаравіч, беларускі мастак, ураджэнец Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, жыве ў Віцебску.

## Лістапад

**85 гадоў** таму (1930) пачала выдавацца газета «Калгасная праўда». Пазней яна называлася «Ленінскі сцяг». Сучасная назва (з 1992 г.) – «Лепельскі край», раённая газета.

**70 гадоў** таму (1945) заснаваная Міёрская цэнтральная раённая бібліятэка.

**2 лістапада** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Каробкін Уладзімір Андрэевіч, беларускі канструктар і вучоны ў галіне машынабудавання, доктар тэхнічных навук (2005), заслужаны работнік прамысловасці Беларусі (2001), ураджэнец г. Оршы.

**23 кастрычніка** – 75 гадоў таму (1940) нарадзіўся Чудакоў Алег Парфір`евіч, беларускі вучоны ў галіне сківічна-тварнай і пластычнай хірургіі, хірургічнай стаматалогіі, доктар медыцынскіх навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, ураджэнец г. п. Сураж Віцебскага раёна.

**24 кастрычніка** – 145 гадоў таму (1870) створана Віцебскае дабрачыннае таварыства для паляпшэння маральнага і матэрыяльнага стану бедных жыхароў.

**26 кастрычніка** – 205 гадоў таму (1810) нарадзіўся Дмахоўскі Генрых Міхайлавіч (1810–1863), беларускі скульптар, ураджэнец Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. У час паўстання 1863–1964 гг. паўстанцкі камісар Дзісенскага павета і начальнік атрада.

**26 кастрычніка** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Каранеўскі Мікалай Аляксандравіч (1910–1978), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, генерал-палкоўнік, адзін з кіраўнікоў савецкай ваеннай разведкі, ураджэнец г. Верхнядзвінска.

**27 кастрычніка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзілася Вароніна Таццяна Міхайлаўна, краязнаўца з г. Оршы.

**28 кастрычніка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Дундзін Мікалай Мікалаевіч, беларускі мастак, ураджэнец Магілёўскай вобласці, жыве ў Віцебску.

**29 кастрычніка** – 50 гадоў таму (1965) у г. п. Обаль адкрыты музей, філіял Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пазней філіял Шумілінскага гісторыка-краязнаўчага музея.



**11 верасня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Сяменікаў Іван Фёдаравіч (1905–1985), дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, ураджэнец г. Віцебска. З 1922 г. працаваў у паравозных майстэрнях Віцебска.

**11 верасня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Кандрацьеў Іван Дзмітрыевіч (1910–1958), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Гарошкава Дубровенскага раёна.

**12 верасня** – 285 гадоў таму (1730) нарадзіўся Сапега Аляксандр Міхал (1730–1793 сын Казіміра Лявона), абозны з найбуйнейшага магнацкага роду герба «Ліс» у ВКЛ, генерал-маёр, ваявода полацкі, гетман польны, канцлер.

**12 верасня** – 225 гадоў таму (1790) нарадзіўся Грыгаровіч Іван Іванавіч (1790–1852, у некаторых крыніцах датай нараджэння пазначаецца 06.09.1792), беларускі гісторык, археограф і мовазнаўца, ураджэнец Магілёўскай губерні. У 1829 г. працаваў у Віцебску.

**14 верасня** – 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Пазняк Вадзім Нікіфаравіч (1920-1997), грамадскі і дзяржаўны дзеяч, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, ураджэнец в. Слабодка Бешанковіцкага раёна.

**14 верасня** – 60 гадоў таму (1955) нарадзілася Кавальчук Людміла Мікалаеўна, беларуская мастачка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ураджэнка Расіі. З 1977 г. у Віцебску.

**16 верасня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Мяцельскі Андрэй Анатолевіч, беларускі археолаг, гісторык, ураджэнец г. Котбус (Германія). Праводзіў раскопкі на гарадзішчы каля в. Карабанавічы Дубровенскага раёна.

**21 верасня** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Рахцеенка Іван Навумавіч (1905–1988), беларускі навуковец у галіне батанікі, ураджэнец в. Шэкі Дубровенскага раёна.

**21 верасня** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Ялугін Павел Уладзіміравіч (1910–1990), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Янова Лепельскага раёна Віцебскай вобласці.

**22 верасня** – 90 гадоў таму (1925) нарадзіўся Броўкін Вячаслаў Уладзіміравіч, беларускі рэжысёр, ураджэнец г. Масквы. У 1955–1959 гг. з'яўляўся рэжысёрам Беларускага тэатра імя Я. Коласа.

**25 верасня** – 85 гадоў таму (1930) нарадзілася Ігнатава Марыя Якаўлеўна (1930–2001), Герой Сацыялістычнай Працы, ураджэнка в. Паловікі Лёзненскага раёна.

**25 верасня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Шыбека Канстанцін Канстанцінавіч, беларускі навуковец-эканаміст, доктар эканамічных навук, прафесар, ураджэнец в. Немерава Аршанскага раёна.



**17 кастрычніка**– 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Якаўлеў Фама Паўлавіч (1900–1971), генерал-лейтэнант, член Ваеннага савета Далёкаўсходняга фронту, ураджэнец в. Града Віцебскага раёна.

**17 кастрычніка**– 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Мядзель Міхаіл Маркавіч (1910–1981), Герой Савецкага Саюза, ураджэнец в. Задзежжа Верхнядзвінскага раёна.

**18 кастрычніка**– 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Гераіменка Уладзімір Аляксандравіч, беларускі філосаф, доктар філасофскіх навук, ураджэнец в. Зарубы Дубровенскага раёна.

**19 кастрычніка**– 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Васкоўскі Міхаіл Васілевіч, беларускі народны майстар-кераміст, ураджэнец в. Ільінка Талачынскага раёна.

**20 кастрычніка**– 95 гадоў таму (1920) нарадзіўся Шуманскі Міхаіл Рыгоравіч (1920–1982), спявак (тэнар), ураджэнец в. Пераброддзе Міёрскага раёна.

**20 кастрычніка**– 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Каласоўскі Юрый Уладзіміравіч, беларускі археолаг, ураджэнец г. Унеча Бранскай вобласці (Расія). Даследваў археалагічны комплекс Вежкі, гарадзішчы Германы, Ірвянца, Панізоўе, Чырына ў Дубровенскім раёне, археалагічны помнік у Віцебску.

**22 кастрычніка**– 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Вядэнка Віктар Антонавіч (1910–1944), удзельнік вызвалення Віцебскай вобласці, Герой Савецкага Саюза.

**10 кастрычніка** – 65 гадоў таму (1950) нарадзіўся Матвейчук Уладзімір Фёдаравіч, дзяржаўны дзеяч Беларусі, ураджэнец г. п. Шуміліна. Працаваў настаўнікам у Шумілінскім раёне, дырэктарам Полацкага ПТВ хімікаў № 123, дырэктарам па кадрах і ідэалагічнай рабоце ААТ «Полацк-Шкловалакно» канцэрна «Белнафтахім».

**11 кастрычніка** – 105 гадоў таму (1910) нарадзіўся Шакулаў Рыгор Логінавіч (1910–1987), беларускі пісьменнік, ураджэнец в. Паўлавічы Віцебскага раёна.

**12 кастрычніка** – 150 гадоў таму (1865) нарадзіўся Анцаў Міхаіл Васілевіч (1865–1945), беларускі кампазітар, харавы дырыжор, педагог, адзін з арганізатараў Віцебскай народнай кансерваторыі, ураджэнец г. Смаленска (Расія). З 1896 г. жыў у Віцебску, выкладаў харавыя спевы ў розных навучальных установах.

**14 кастрычніка** – 155 гадоў таму (1860) нарадзіўся Багдановіч Ангел Іванавіч (1860–1907), удзельнік рэвалюцыйнага руху, публіцыст, крытык, рэдактар, ураджэнец г. Гарадка.

**14 кастрычніка** – 50 гадоў таму (1965) нарадзілася Внукава Алена Леанідаўна, беларуская актрыса, тэлевядучая, уражэнка г. Віцебска.

**15 кастрычніка** – 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Чабатароў Раман Сямёнавіч (1905–1981), беларускі вучоны ў галіне паразіталогіі, доктар ветэрынарных навук, прафесар, акадэмік НАН Беларусі, Акадэміі сельскагаспадарчых навук Беларусі, ураджэнец в. Старынка Ушацкага раёна.



**26 верасня** – 100 гадоў таму (1915) нарадзіўся Крумінь (Крумін) Іван Андрэевіч (1915–2003), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, франтавік, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец г. Гарадка Віцебскай вобласці.

**29 верасня** – 135 гадоў таму (1880) нарадзіўся Сахараў Сяргей Пятровіч (1880–1954), беларускі фалькларыст, этнограф, педагог, ураджэнец г. Полацка.

**29 верасня** – 85 гадоў таму (1930) нарадзіўся Шыбека Іван Арцем`евіч (1930–2005), партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі, ураджэнец в. Стэцава Сенненскага раёна. У 1977–1984 гг. старшыня Віцебскага аблвыканкама.

**29 верасня** – 60 гадоў таму (1955) нарадзіўся Давыдзька Генадзь Браніслававіч, беларускі грамадскі дзеяч, акцёр, рэжысёр, заслужаны артыст Беларусі (1998), ураджэнец г. Сянно.

**29 верасня** – 40 гадоў таму (1975) нарадзіўся Цярэшчанка Віктар Віктаравіч, беларускі спартсмен (кікбоксінг), ураджэнец в. Копці Віцебскага раёна.

**30 верасня** – 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Бычкоўскі Міхаіл Аляксандравіч, беларускі кераміст, з 1984 г. – у віцебскім аб'яднанні «Кераміка», з 1987 г. – мастак-кераміст «Витебскторгстроя».

# Кастрычнік

**1 кастрычніка**– 115 гадоў таму (1900) нарадзіўся Хмялеўскі Мікалай Рыгоравіч (1900–1980), генерал-лейтэнант авіяцыі, удзельнік грамадзянскай вайны 1918–1920 гг., ураджэнец в. Бароўка Верхнядзвінскага раёна. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. ваяваў на Заходнім і Бранскім накірунках.

**1 кастрычніка**– 90 гадоў таму (1925) пачала выходзіць газета «Камуністычны шлях» у г. Оршы. Зараз «Аршанская газета».

**2 кастрычніка**– 80 гадоў таму (1935) нарадзіўся Шастоўскі Кім Фёдаравіч, беларускі жывапісец, выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча, ураджэнец в. Ляўкі Аршанскага раёна.

**3 кастрычніка**– 40 гадоў таму (1975) нарадзілася Стукалава Таццяна Сяргееўна, беларуская спартсменка (цяжкая атлетыка), заслужаны майстар спорту Беларусі, майстар спорту Рэспублікі Беларусь міжнароднага класа, бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў, срэбны прызёр чэмпіянату Еўропы, ураджэнка г. Віцебска.

**4 кастрычніка**– 265 гадоў таму (1750) нарадзіўся Князьнін Францішак Дыянізы (1750–1807), паэт, драматург, перакладчык, ураджэнец г. Віцебска.



**4 кастрычніка**– 215 гадоў таму (1800) нарадзіўся Гарбачэўскі Іван Іванавіч (1800–1869), рэвалюцыянер-дзекабрыст, выхаванец Віцебскай гімназіі (1808–1817), ураджэнец Магілёўшчыны.

**4 кастрычніка**– 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Манькоўскі Іван Васілевіч (1895–1943), Герой Сацыялістычнай Працы, з 1917 г. старшы механік сувязі на лініі Віцебск-Арол, ураджэнец г. Оршы.

**5 кастрычніка**– 110 гадоў таму (1905) нарадзіўся Максіменка Аляксей Пятровіч (1905–1959), адзін з кіраўнікоў Аршанскага і Віцебскага антыфашысцкага падполля ў Вялікую Айчынную вайну, ураджэнец Арэнбургскай вобл. (Расія).

**5 кастрычніка**– 55 гадоў таму (1960) нарадзіўся Саладкоў Аляксандр Пятровіч (1960–2013), беларускі вучоны ў вобласці фізіялогіі, доктар медыцынскіх навук (1999), прафесар (2003), скончыў Віцебскі медыцынскі інстытут (1984), працаваў у Віцебскім медыцінскім універсітэце у т. л. з 1999 г. загадчык лабараторыяй, з 2001 г. прарэктар, з 2009 г. рэктар Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта ім. П. М. Машэрава.

**8 кастрычніка**– 120 гадоў таму (1895) нарадзіўся Азін Уладзімір Марцінавіч (1895–1920), ваенны дзеяч, ураджэнец в. Мар'янава Полацкага раёна.